МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
"МАЗЫРСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ПЕДАГАГІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ
імя І. П. ШАМЯКІНА"

Л.І.Лапіцкая

# СЛОЎНІК
## КАЛЯНДАРНА-АБРАДАВАЙ ЛЕКСІКІ УСХОДНЯГА ПАЛЕССЯ

Мазыр 2007

УДК 811.161.3'374
ББК 81.2Беі-4
Л24

Аўтар **Л. І. Лапіцкая,** старшы выкладчык кафедры беларускай мовы
УА МДПУ імя І. П. Шамякіна.

Рэцэнзенты:
**В. А. Ляшчынская** – доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускай мовы УА ГДУ імя Ф. Скарыны;
**А. А. Станкевіч** – доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры беларускай мовы УА ГДУ імя Ф. Скарыны;
**В. В. Шур** – доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры беларускага мовазнаўства УА МДПУ імя І. П. Шамякіна.

Друкуецца паводле рашэння рэдакцыйна-выдавецкага савета
Установы адукацыі
"Мазырскі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя І. П. Шамякіна"

**Лапіцкая, Л.І.**

Л24 Слоўнік каляндарна-абрадавай лексікі Усходняга Палесся / Л.І. Лапіцкая. – Мазыр : УА МДПУ імя І. П. Шамякіна, 2007. – 66 с.

У слоўніку ўпершыню сабрана і сістэматызавана каляндарна-абрадавая лексіка Усходняга Палесся, якая адлюстроўвае рэгіянальныя асаблівасці ўсходнепалескіх гаворак. Слоўнікавыя артыкулы ілюструюцца канкрэтнымі прыкладамі.

Слоўнік разлічаны на выкладчыкаў, настаўнікаў, выхавальнікаў, супрацоўнікаў краязнаўчых музеяў, студэнтаў і ўсіх, хто цікавіцца асаблівасцямі мовы і народнай культуры Усходняга Палесся.

УДК 811.161.3'374
ББК 81.2Беі-4

# ПРАДМОВА

“Слоўнік каляндарна-абрадавай лексікі Усходняга Палесся” напісаны на лексічным матэрыяле, сабраным у 10 раёнах Усходняга Палесся: Брагінскім, Ельскім, Жыткавіцкім, Калінкавіцкім, Лельчыцкім, Лоеўскім, Мазырскім, Нараўлянскім, Петрыкаўскім, Хойніцкім.

У слоўніку змешчаны дыялектныя назвы народных свят і прысвяткаў і агульная лексіка, якія адлюстроўваюць асаблівасці лексікі, фанетыкі, марфалогіі, граматыкі даследаванага рэгіёна. Шырока падаюцца варыянтныя і сінанімічныя назвы, якія бытуюць у гаворках усходніх раёнаў Палесся.

Мэта слоўніка – тлумачэнне назваў народных свят і прысвяткаў, слоў агульнай лексікі, звязаных з каляндарна-абрадавымі святамі і прысвяткамі, што складаюць значны пласт лексікі мясцовых гаворак.

У склад слоўніка ўвайшлі словы, якія адлюстроўваюць рэгіянальныя асаблівасці гаворак і адрозніваюцца ад літаратурных адпаведнікаў:

1) каранёвай марфемай: *абы'дзеннік – рушнік*;

2) фанемным складам: *валачо'нікі – валачобнікі*;

3) марфалагічнай структурай: *Зімо'вы Ю'рэй – Зімні Юрый*;

4) граматычным значэннем роду: *Пакро'ва – Пакроў.*

У рэестры пададзены дыялектныя словы ў транскрыпцыі, якая адлюстроўвае іх гучанне ў межах магчымасцей беларускай графікі:

а) ДЗЕЎЯ'ТНІК, *м.* Чацвер на дзевятым тыдні пасля Вялікадня. *На дзеўя'тнік возьму дзеўяць чарніц у лесе* [Вялікія Сялюцічы, Петрыкаўскі];

б) фанетычныя варыянты змешчаны ў адным слоўнікавым артыкуле:

ГАЛАВАСЕ'К, ГОЛОВОСЕ'К, *м.* Традыцыйнае свята, якое адзначаецца 11 верасня (29 верасня ст. ст.). Звязанае з усталяваннем за ім бытавых прыкмет і павер'яў. У гэты дзень забаранялася рэзаць, сячы і есці круглае. *У Галавасе'к не можно есці капусту й бульбу* [Слабада, Мазырскі]; *Ек Головосе'к – скоромного не едзім* [Баравое, Лельчыцкі];

в) ілюстрацыйны матэрыял запісаны спрошчанай транскрыпцыяй, што дазволіла адлюстраваць фанетычныя асаблівасці гаворак: оканне (*Богослоў*, *Купало*, *Міхайло*); лабіялізацыю гука ‘ы’ (*вугоняць короўкі*, *вуноска*); спалучэнне “губны + л” у 3-й асобе множнага ліку дзеясловаў 2-га спражэння з асновай на губны (*не робляць, стаўляць*) і інш.;

г) зорачкай (*) пазначаны састаўныя назвы народных свят і прысвяткаў.

Слоўнік уяўляе даведнік па дыялектнай каляндарна-абрадавай лексіцы ўсходнепалескіх гаворак і прызначаецца для даследчыкаў-лінгвістаў, выкладчыкаў ВНУ, настаўнікаў, выхавальнікаў, супрацоўнікаў краязнаўчых музеяў, студэнтаў і ўсіх тых, хто цікавіцца асаблівасцямі мовы і народнай культуры Усходняга Палесся.

## НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

Аголічы Петрыкаўскага р-на
Азяраны Жыткавіцкага р-на
Аляксандраўка Калінкавіцкага р-на
Амелькаўшчына Хойніцкага р-на
Асавец Мазырскага р-на
Астражанка Лельчыцкага р-на
Бабраняты Мазырскага р-на
Багуцічы Ельскага р-на
Балажэвічы Мазырскага р-на
Баравое Лельчыцкага р-на
Барбароў Мазырскага р-на
Бібікі Мазырскага р-на
Буда-Сафіеўка Лельчыцкага р-на
Буйнавічы Лельчыцкага р-на
Букча Лельчыцкага р-на
Буркі Брагінскага р-на
Бярозаўка Калінкавіцкага р-на
Бывалькі Лоеўскага р-на
Бярэжцы Жыткавіцкага р-на
Валаўск Ельскага р-на
Васькаўка Мазырскага р-на
Веляцін Хойніцкага р-на
Верасніца Жыткавіцкага р-на
Вербавічы Нараўлянскага р-на
Вубалаць Калінкавіцкага р-на
Вялікія Аўцюкі Калінкавіцкага р-на
Вялікія Сялюцічы Петрыкаўскага р-на
Вятчын Жыткавіцкага р-на
Галубіца Петрыкаўскага р-на
Гарбавічы Калінкавіцагак р-на
Глініца Мазырскага р-на
Глушкавічы Лельчыцкага р-на
Грабаў Петрыкаўскага р-на
Града Жыткавіцкага р-на
Гурыны Мазырскага р-на
Даманавічы Калінкавіцкага р-на
Данілаўка Ельскага р-на
Дарашэвічы Петрыкаўскага р-на
Дзёрнавічы Нараўлянскага р-на
Дзямідаў Нараўлянскага р-на
Дуброва Лельчыцкага р-на

Жахавічы Мазырскага р-на
Завайць Нараўлянскага р-на
Загорыны Мазырскага р-на
Замосце Калінкавіцкага р-на
Замошша Лельчыцкага р-на
Запясочча Жыткавіцкага р-на
Зарэчча Брагінскага р-на
Зімовая Буда Лельчыцкага р-на
Казанск Калінкавіцкага р-на
Казловічы Калінкавіцкага р-на
Казярогі Лоеўскага р-на
Каманоў Брагінскага р-на
Камаровічы Петрыкаўскага р-на
Канатоп Нараўлянскага р-на
Капцэвічы Петрыкаўскага р-на
Кашэвічы Петрыкаўскага р-на
Конкавічы Петрыкаўскага р-на
Кочышчы Мазырскага р-на
Крукавічы Калінкавіцкага р-на
Крушнікі Мазырскага р-на
Лукі Калінкавіцкага р-на
Ляскавічы Петрыкаўскага р-на
Макарычы Петрыкаўскага р-на
Макрэц Брагінскага р-на
Малейкі Брагінскага р-на
Малешаў Жыткавіцкага р-н
Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага р-на
Маркоўскае Лельчыцкага р-на
Махнавічы Мазырскага р-на
Мікулінск Калінкавіцкага р-на
Мікулічы Брагінскага р-на
Міроненкі Мазырскага р-на
Міцуры Петрыкаўскага р-на
Мялешкавічы Мазырскага р-на
Навасёлкі Хойніцкага р-на
Небытаў Хойніцкага р-на
Новы шлях Брагінскага р-на
Новыя Навасёлкі Калінкавіцкага р-на
Осаў Хойніцкага р-на
Пагоннае Жыткавіцкага р-на
Паташня Хойніцкага р-на
Палаўкі Ельскага р-на
Праграэс Лоеўскага р-на

Прудок Мазырскага р-на
Рычаў Жыткавіцкага р-на
Савічы Калінкавіцкага р-на
Санюкі Ельскага р-на
Скалодзін Мазырскага р-на
Скароднае Ельскага р-на
Скрыгалаў Мазырскага р-на
Слабада Мазырскага р-на
Слабаджанка Хойніцкага р-на
Смалегаў Нараўлянскага р-на
Смятанічы Петрыкаўскага р-на
Стадолічы Лельчыцкага р-на
Сырод Калінкавіцкага р-на
Сяменча Жыткавіцкага р-на
Сямурадцы Жыткавіцкага р-на
Турцэвічы Калінкавіцкага р-на
Тэльман Брагінскага р-на
Хамічы Калінкавіцкага р-на
Хамічы-2 Калінкавіцкага р-на
Хачэнь Жыткавіцкага р-на
Хвойнае Хойніцкага р-на
Хобнае Калінкавіцкага р-на
Храпкаў Хойніцкага р-на
Чамярысы Брагінскага р-на
Чырвонабярэжжа Лельчыцкага р-на
Чэрнічы Жыткавіцкага р-на
Юркавічы Брагінскага р-на
Юркевічы Жыткавіцкага р-на
Ясяні Брагінскага р-на

# А

**АГО'НЬ** *м.* Вогнішча. *На Купалле хлопцы **аго'нь** раскладаюць* [Васькаўка Маз.].

**АДМУКА'ЩЦА** *незак.* Адмыкацца. *На Благешчанне земля **адмука'ецца*** [Баравое Лельч.].

**АДПРА'ВА, ОДПРА'ВА**. Служба ў царкве.

АДПРА'ВА *ж. На багатые дзеды **адпра'ва** йдзе ў царкве* [Васькаўка Маз.].

ОДПРА'ВА *ж. На Узьдзюжанне му ходзім у цэркоў, **одпра'ва** ідзе* [Града Жытк.].

**АЛЯКСЕ'Й, ЛЕКСЕ'Й, ЛЯКСЕ'Й, ОЛЕКСЕ'Й; АЛЯКСЕ'Й ЦЁПЛЫ, ЛЯКСЕ'Й ВЕСНЯ'НЫ, ЦЁПЛЫ ЛЕКСЕ'Й, ЦЁПЛЫ ЛЯКСЕ'Й**. Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 30 сакавіка (17 сакавіка ст. ст.); дзень рыбалова і пчаляра.

АЛЯКСЕ'Й *м. У **Аляксе'й** рыба на нэрас, пчолка на верас, чалавек на хвою пчолкі глядзець* [Мялешкавічы Маз.]. *На **Аляксе'я** прылеталі буслы. У кого булі вуллі, тые на **Аляксе'я** подглядвалі пчол* [Веляцін Хойн.].

ЛЕКСЕ'Й *м. На **Лексе'я** рыба на нерэс ідзе* [Грабаў Петр.]. *Колісь на **Лексе'я** не робілі нічого* [Канатоп Нараўл.]. *Кажуць, як прыдзе **Лексе'й**, то будзе цеплей* [Багуцічы Ельск.].

ЛЯКСЕ'Й *м. **Ляксе'й** – етэ ж празнік* [Небытаў Хойн.]. *На **Ляксе'я** прыдзе цяпло* [Казловічы Калінк.]. *На **Ляксе'я** буслы прылетаюць* [Малейкі Браг.]. *На **Ляксе'я** журоў запее* [Карчовае Хойн.]. *Колісь на **Ляксе'я** не ткалі* [Васькаўка Маз.].

ОЛЕКСЕ'Й *м. На **Олексе'я** не трэ обіжаць бедных і самому не трэ ні на кого обіжацца* [Сяменча Жытк.].

* АЛЯКС'ЕЙ ЦЁПЛЫ *м. Прыдзе **Аляксе'й Цёплы** – будзе цёпла* [Глініца Маз.]. *На **Аляксе'я Цёплого** буслы прылецяць* [Навасёлкі Хойн.].

* ЛЯКСЕ'Й ВЕСНЯ'НЫ *м. **Ляксе'й Весня'ны** – ето ўжо весна* [Замосце Калінк.]. *На **Ляксе'я Весня'ного** журавы прылетаюць* [Малейкі Браг.].

* ЦЁПЛЫ ЛЕКС'ЕЙ *м. На **Цёплого Лексе'я** почынаецца прылёт пціц* [Буда-Сафіеўка Лельч.].

* ЦЁПЛЫ ЛЯКС'ЕЙ *м. **Цёплы Ляксе'й** – шчука на нэрэст, а корова на верас* [Буйнавічы Лельч.].

**АЛЯКСЕ'Й ЦЁПЛЫ** *гл.* АЛЯКСЕ'Й.

**АНАПРЭ'Й, НУПРЭ'Й, ОНАПРЭ'Й**, *м.* Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 25 чэрвеня (12 чэрвеня ст. ст.); спрыяльны дзень для сяўбы грэчкі.

АНАПРЭ'Й *м. Бувала, у дзень **Анапрэ'я** сеелі грэчку* [Паселічы Хойн.]. *На **Анапрэ'я** спеюць суніцы* [Васькаўка Маз.].

НУПРЭ'Й *м. Калі прыходзіў **Нупрэ'й**, грэчку сеялі пасля абеду* [Загорыны Маз.].

ОНАПРЭ'Й *м. У того будуць блінцы смашные, хто грэчку посее на **Онапрэ'я*** [Завайць Нараўл.].

**АНДРЭ'Й, АНДРЭ'ЙКІ, ОНДРЭ'Й; СВЕТЫ' АНДРЭ'Ю, СВЕТЫ' ОНДРЭ'Й**. Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 13 снежня (30 лістапада ст. ст.); дзявочае свята, адметнае варажбой.

АНДРЭ'Й *м.* [Бабраняты Маз.]. *У мяне ўнук Андрэй, патаму што радзіўся трынаццатага, калі было свята **Андрэ'й*** [Гурыны Маз.]. ***Андрэ'й** – і цепер ето свято* [Аляксандраўка Калінк.].

АНДРЭ'ЙКІ. *На **Андрэ'йкі** дзеўкі гадаюць, хочуць знаць, ці пойдуць у етум годзі замуж* [Малейкі Браг.]. *А ў нас кажуць светы Андрэй, кажуць і **Андрэ'йкі*** [Канатоп Нараўл.]. *На **Андрэ'йкі** дзеўкі хлебцы пекуць* [Дзямідаў Нараўл.].

ОНДРЭ'Й *м. Колісь на **Ондрэ'я** і снег, і мецеліца, а дзеўкі бегуць под вокны, коб послухаць, як зарэ хлопца назовуць. Тоды ўжо і суджоного так звацьмуць* [Чэрнічы Жытк.].

* СВЕТЫ' АНДРЭ'Ю *м. У нас так дзеўчаты говораць: "**Светы' Андрэ'ю**, конопелькі сею, кідаю, цебе, суджаны, заклікаю!"* [Махнавічы Маз.]. *У **свето'га Андрэ'я** дзеўкі просяць хорошых жэніхоў*

* СВЕТЫ' ОНДРЭ'Й *м. Ек прыдзе **светы' Ондрэ'й**, у нас дзеўкі ворожаць на коноплі* [Рычаў Жытк.].

**АНДРЭ'ЙКІ** *мн. гл.* АНДРЭ'Й.

**АРЭ'ЛІ, РЭ'ЛІ**. Прыстасаванне для гушкання, якое звязваецца з ачышчальным вясеннім абрадам.

АРЭ'ЛІ *мн. На Сорокі гушкаліса на **арэ'лях*** [Махнавічы Маз.].

РЭ'ЛІ *мн. На Пятро вешалі **рэ'лі** і качаліся цэлы дзень* [Веляцін Хойн.].

**АСПАЖА'** *гл.* ПРАЧЫ'СТАЯ ў знач. 1.

**АЎДО'КІ, АЎДО'ЦЦЯ, ЕЎДО'КІ, ОЎДО'КІ, ОЎДО'ЦЦЯ, ЯЎДО'КІ.** Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 14 сакавіка (1 сакавіка па ст. ст.); першы веснавы дзень, з якога пачыналася гуканне вясны.

АЎДО'КІ *мн. Колісь на **Аўдо'кі** робілі адны мужыкі, а бабы не* [Навасёлкі Хойн.]. *У нас гаворань: "Калі на **Аўдо'кі** з горы потокі – настае весна"* [Загорыны Маз.]. ***Аўдо'кі** – первы дзень весны па-старому* [Сырод Калінк.]. *Гаворань, калі на **Аўдо'кі** налеціць завіруха, то лето будзе холодным, а год голодным* [Балажэвічы Маз.]. *На **Аўдо'кі** не рэжуць, а калі ўжо і надо порэзаць, то толькі тымі ножніцамі, што для овечэк* [Мікулічы Браг.]. *Прыйдуць **Аўдо'кі** – заболяць у паробка бокі* [Казанск Калінк.].

АЎДО'ЦЦЯ *ж. **Аўдо'цця** – еты празнік празнуваўса раней* [Казловічы Калінк.].

ЕЎДО'КІ *мн. Калі на **Еўдо'кі** дошч – будзе доброе жыто* [Бокаў Маз.]. *З **Еўдо'кі** ідзе ўжэ цепло* [Малыя Аўцюкі Калінк.]. *У нас кажуць, што **Еўдо'кі** держэ ў руках лето* [Мялешкавічы Маз.]. *На **Еўдо'кі**, говорылі, можно сукаць ніткі* [Васькаўка Маз.].

ОЎДО'КІ *мн. Му ўсегда на **Оўдо'кі** вусаджваем на росаду помідоры* [Завайць Нараўл.].

ОЎДО'ЦЦЯ *ж. Ек прыходзіць **Оўдо'цця** із снегом – будзе хорошы ўрожай, калі з цёплым ветром – будзе мокрое лето* [Завайць Нараўл.].

ЯЎДО'КІ *мн. Колісь так говорылі: "Ек будзеш спраўляць **Яўдо'кі**, то будуць голыя бокі"* [Веляцін Хойн.]. *У **Яўдо'кі** – голыя бокі* [Сырод Калінк.].

**АЎДО'ЦЦЯ** *ж. гл.* АЎДО'КІ.

**АЎЛА'С, УЛА'С, УЛА'ССЕ; КАРО'ВЯЧЫ ЎЛАС**. Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 24 лютага (11 лютага ст. ст.); свята жывёлы.

АЎЛА'С *м. На **Аўла'са** раней не рабілі, бо карова з двора сыдзе, а конь прапасці можа* [Бывалькі Лоеўск.]. *У святога **Аўла'са** просім здороўя своёй жыўнасці: коніку, короўцы* [Прудок Маз.].

УЛА'С *м. На **Ула'са** коні і коровы кормілі ладкамі, шоб булі здоровые* [Сямурадцы Жытк.]. *На **Ула'са** ўсе до масла ласы* [Хамічы-2 Калінк.]. *На **Ула'са** нічагуські не рабілі, а токі даглядалі коровы і коні* [Паселічы Хойн.].

УЛА'ССЕ *н. **Ула'ссе** сільно не гуляем, а не робім, а то карова на вясне не ўстане на ногі* [Казанск Калінк.]. *Казалі, што на **Ула'ссе** бувае сем морозоў* [Мялешкавічы Маз.].

* КАРО'ВЯЧЫ ЎЛАС *м. **Каро'вячы Ўлас** на масленай недзелі. Ад **каро'вячага Ўласа** да посту мяса не елі* [Навасёлкі Петрык.].

# Б

**БА'БА**, *ж.* Удзельнік традыцыйнага абрадавага каляднага абраду, апрануты ў адзенне старой жанчыны. *На стары Новы год спяваюць коляду, дзеда робляць, **ба'бу** робляць, козу робляць* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**БА'БІНА ЛЕ'ТА, БА'БІНЭ ЛЕ'ТО**. Цёплая пагодлівая пара ў канцы верасня – пачатку кастрычніка; пачатак жаночай ("бабскай") гаспадарчай працы.

БА'БІНА ЛЕ'ТА *ж. **Ба'біна ле'та** ідзе з Калінавіка до самых Пакроваў* [Мялешкавічы Маз.]. *Раней на **ба'біна ле'та** бабы ў гародзе ўсё ўбіраюць, трэплюць лён* [Казловічы Калінк.].

БА'БІНЭ ЛЕТО *н. **Ба'бінэ ле'то** бувае, калі Каліновік, Цудо, Пакрову* [Глініца Маз.].

**БА'БІНЭ ЛЕ'ТО** *гл.* БА'БІНА ЛЕ'ТА.

**БА′БУ, БАБУ′**. Дзень, наступны за памінальным днём ДЗЕДЫ′.

БА′БУ *мн.* ***Бáбу** буваюць у суботу, за Дзедамі* [Махнавічы Маз.].

БАБУ′ *мн. На **Бабý** му готуем большэ молочнэ* [Маркоўскае Лельч.].

**БАБУ′** *гл.* БА′БУ.

**БЛІНЕ′Ц** *м.* Блін. *У нас усегда на ўсе празнікі пекуць **блінцы′*** [Бібікі Маз.].

**БАГАРО′ДЗІЦА** *гл.* ПРАЧЫ′СТАЯ ў знач. 1.

**БАГАСЛО′Ў, БАГУСЛА′Ў, БАГУСЛО′Ў, БОГОСЛА′Ў, БОГОСЛО′Ў, БОГУСЛА′Ў; ІВА′Н БАГАСЛО′Ў, ІВА′Н БОГУСЛА′Ў, ІВА′Н БОГОСЛО′Ў, ІВА′Н ПАКРО′ЎНЫ, ІВА′Н ПОКРО′ЎНЫ.** Земляробчае свята народнага календара, якое адзначаецца 9 кастрычніка (26 верасня ст. ст.); дзень, да якога заканчваюцца ўсе работы ў полі.

БАГАСЛО′Ў *м. Ад **Багасло′ва** на полі не робім* [Барбароў Маз.].

БАГУСЛА′Ў *м. Пасля **Багусла′ва** правяць дажынкі* [Мікулінск Калінк.]. *На **Багусла′ва** веселлі пачынаюць* [Загорыны Маз.].

БАГУСЛО′Ў *м. До **Багусло′ва** кончаюць работы на полі* [Ясяні Браг.].

БОГОСЛА′Ў *м. Прыйшоў **Богосла′ў** – дзеўкі сватоў сустракаюць* [Канатоп Нараўл.].

БОГОСЛО′Ў *м. Колісь говорылі: ек прыйшоў **Богосло′ў** – ідзі з поля домоў* [Малешаў Жытк.].

БОГУСЛА′Ў *м. Добры гаспадар сее да **Богусла′ва*** [Лукі Калінк.].

* ІВА′Н БАГАСЛО′Ў *м. **Іва′н Багасло′ў** сватоў засылае* [Слабада Маз.]. *На **Іва′на Багасло′ва** веселлі робяць* [Савічы Калінк.]. ***Іва′н Багасло′ў** па полі гуляе* [Каманоў Браг.].

* ІВА′Н БОГОСЛО′Ў *м. На **Іва′на Богосло′ва** госці правяць* [Сяменча Жытк.].

* ІВА′Н БОГУСЛА′Ў *м. После **Іва′на Богусла′ва** на полі ўжэ не робімо* [Завайць Нараўл.].

* ІВА′Н ПАКРО′ЎНЫ *м. **Іва′н Пакро′ўны** сяўбу завершае* [Казловічы Калінк.]. ***Іва′н Пакро′ўны** – празнік за тры дні да Пакровы* [Бывалькі Лоеўск.].

* ІВА′Н ПОКРО′ЎНЫ *м. **Іва′н Покро′ўны** ад Бога прынімаў слова і пісаў кніжкі* [Баравое Лельч.]. *Перэд Покровой бувае **Іва′н Покро′ўны*** [Глушкавічы Лельч.].

**БАГА′ТА КУЦЦЯ′** *гл.* БАГА′ТА КУЦЬЯ′.

**БАГА′ТАЯ КУЦЬЯ′** *гл.* БАГА′ТА КУЦЬЯ′.

**БАГА′ТА КУЦЯ′** *гл.* БАГА′ТА КУЦЬЯ′.

**БАГА′ТНІК** *гл.* ПРАЧЫ′СТАЯ ў знач. 2.

**БАГА′ТЫЕ ДЗЕДЫ′**. Дзень памінання продкаў, які адзначаецца праз тры дні пасля Пакроваў. *На **бага′тые дзеды′** варылі куццю, обязацельно кісель з розных ягад* [Буркі Браг.]. *На **бага′тые дзеды′** хозяін зваў померлых на вечэру* [Васькаўка Маз.].

**БАГАТУ'ХА** *гл.* ПРАЧЫ'СТАЯ ў знач. 2. *Калі **Багату'ха** – не ткуць і не прадуць* [Загорыны Маз.].

**БАГА'Ч** *гл.* ПРАЧЫ'СТАЯ ў знач. 2.

**БАГУСЛА'Ў** *гл.* БАГАСЛО'Ў.

**БАГУСЛО'Ў** *гл.* БАГАСЛО'Ў.

**БАРЫ'С** *гл.* БАРЫ'С І ГЛЕ'Б.

**БАРЫ'С І ГЛЕ'Б, БАРЫ'С.** Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 6 жніўня (24 ліпеня ст. ст.).

БАРЫ'С І ГЛЕ'Б. *На **Бары'са і Гле'ба** нічого цяжкого не робілі, а хто не гледзіць гетого, той можэ покалечыцца* [Махнавічы Маз.]. *На **Бары'са і Гле'ба** сено не косім, можэ моланка ўбіць* [Мялешкавічы Маз.]. *Назаўтра пасля **Бары'са і Гле'ба** ўжэ не купаюцца* [Аляксандраўка Калінк.].

БАРЫ'С *м. На **Бары'са** жыта нажала, а на Петра пірогоў напекла* [Буда-Сафіеўка Лельч.]. ***Бары'с** бувае пятым днём ад Макавея* [Грабаў Петрык.]. *Шостого – **Бары'с**, а дванаццатого – Пятро* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**БЕ'ДНА КУЦЬЯ'** *гл.* ТРЭ' ЦЯЯ КУЦЬЯ'.

**БЕ'ДНАЯ КУЦЬЯ'** *гл.* ТРЭ' ЦЯЯ КУЦЬЯ'.

**БЕ'ЛАЯ НЕДЗЕ'ЛЯ** *гл.* БЕ'ЛА НЕДЗЕ'ЛЯ.

**БЕ'ЛА НЕДЗЕ'ЛЯ, БЕ'ЛАЯ НЕДЗЕ'ЛЯ.** Тыдзень перад Вялікаднем (Пасхай).

БЕ'ЛА НЕДЗЕ'ЛЯ *ж. **Бе'ла недзе'ля** – етэ ж последня недзеля перэд Паскою* [Махнавічы Маз.].

БЕ'ЛАЯ НЕДЗЕ'ЛЯ *ж. На **Бе'лой недзе'лі** трэ ўсё беліці, чысціці* [Буйнавічы Лельч.].

**БЕРО'ЗА, БЯРО'ЗА** *ж.* Галінкі бярозы, якімі ўпрыгожваюць хаты, падвор'і на Сёмуху (Тройцу). *На Тройцу свецяць клён і **беро'зу** і затыкаюць у дзверы, каб чэрці не прыйшлі* [Бярозаўка Калінк.]. *На Тройцу **бяро'зу** ў цэркву насілі, а тады ўжэ вешалі ў хаце* [Бібікі Маз.].

**БЛАВЕ'ШЧАННЕ** *гл.* БЛАГАВЕ'ШЧАННЕ.

**БЛАГАВЕ'СНІК, БЛАГОВЕ'СНІК.** Дзень пасля Благавешчання.

БЛАГАВЕ'СНІК *м. На другі дзень опосля Благавешчання – **Благаве'снік*** [Казловічы Калінк.]. *На другі дзень бувае **Благаве'снік**, 8 чысла* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

БЛАГОВЕ'СНІК *м. **Благове'снік** – другі дзень Благовешчання* [Буйнавічы Лельч.].

**БЛАГАВЕ'СНІКІ, БЛАГОВЕ'СНІКІ.**

1. Дзень перад Благавешчаннем.

БЛАГАВЕ'СНІКІ *мн. **Благаве'снікі** перэд Благавешчаннем* [Лукі Калінк.].

БЛАГОВЕ'СНІКІ *мн. **Благове'снікі** – перад святом* [Мялешкавічы Маз.].

2. Тое, што і БЛАГАВЕ'СНІК, *м.* ***Благаве'снікі*** *– на другі дзень за Благавешчаннем* [Турцэвічы Калінк.]. *І на* ***Благове'снікі*** *му ў цэркоў ходзімо і одправу робімо* [Буйнавічы Лельч.].

**БЛАГАВЕ'ШЧАННЕ ПРАСВЯТО'Й БАГАРО'ДЗІЦЫ** *гл.* БЛАГАВЕ'ШЧАННЕ.

**БЛАГАВЕ'ШЧАННЕ, БЛАВЕ'ШЧАННЕ, БЛАГАВЕ'ШЧЭНЕ, БЛАГОВЕ'ШЧАННЕ, БЛАГОВЕ'ШЧЭНЕ, ДАБРАВЕ'ШЧАННЕ, ЗВЕСТАВА'ННЕ; БЛАГАВЕ'ШЧАННЕ ПРАСВЯТО'Й БАГАРО'ДЗІЦЫ, БЛАГОВЕ'ШЧАННЕ СВЯТО'Е, БЛАГОВЕ'ШЧЭНЕ ПРЫСВЯТО'Й БОГОРО'ДЗІЦЫ**. Старажытнае веснавое свята, якое адзначаецца 7 красавіка (25 сакавіка ст. ст.); свята надыходу вясны.

БЛАГАВЕ'ШЧАННЕ *н. На* ***Благаве'шчанне*** *пцічка гнезда не ўе і дажэ пер'е не носіць, а дзеўка касу не расплетае* [Мялешкавічы Маз.]. *На* ***Благаве'шчанне*** *пціца гнездо не ўе, а дзеўка косу не завівае* [Буйнавічы Лельч.]. *У нас* ***Благаве'шчанне*** *– велікі празнік* [Прудок Маз.]. *Старые кажуць, як на* ***Благаве'шчанне*** *ідзе дож, то будзе хлеба много* [Лукі Калінк.]. *На* ***Благаве'шчанне*** *пчол выносяць у сад* [Загорыны Маз.].

БЛАВЕ'ШЧАННЕ *н. На* ***Блаве'шчанне*** *ніхто не сее* [Баравое Лельч.].

БЛАГАВЕ'ШЧЭНЕ *н. На* ***Благаве'шчэне*** *ходзілі ў цэркоў* [Навасёлкі Хойн.]. *На* ***Благаве'шчэне*** *му не робім* [Крушнікі Маз.]. *До* ***Благаве'шчэня*** *земля спіць* [Макрэц Браг.]. *У нас на* ***Благаве'шчэне*** *не можно сеяць* [Завайць Нараўл.]. *До* ***Благаве'шчэня*** *ў нас і семяны не дастаюць* [Міроненкі Маз.].

БЛАГОВЕ'ШЧАННЕ *н.* ***Благове'шчанне*** *– ето весняны празнік. Калі на* ***Благове'шчанне*** *ідзе дошч – будзе добрэ жыто* [Града Жытк.].

БЛАГОВЕ'ШЧЭНЕ *н. У нас на* ***Благове'шчэне*** *дзеўкі ідуць весну гукаць* [Пагоннае Жытк.]. *До* ***Благове'шчэня*** *бусько прылетае* [Сяменча Жытк.]. *На* ***Благове'шчэне****, ек говораць старые, дажэ і яйцо под куру не кладуць* [Грабаў Петрык.].

ДАБРАВЕ'ШЧАННЕ *н. На* ***Дабраве'шчанне*** *весну гукаюць* [Замосце Калінк.]. *На* ***Дабраве'шчанне*** *буў дошч* [Крыўча Браг.].

ЗВЕСТАВА'ННЕ *н. На* ***Звестава'нне*** *трэба з'есці ейцэ, каб куркі несліся* [Крукавічы Калінк.].

* БЛАГАВЕ'ШЧАННЕ ПРАСВЯТО'Й БАГАРО'ДЗІЦЫ. *З* ***Благаве'шчання Прасвято'й Багаро'дзіцы*** *сем дзён отыдзе – і Вялікдзень* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

* БЛАГОВЕ'ШЧАННЕ СВЯТО'Е *н. Говараць, не надо пекці блінцоў на* ***Благове'шчанне свято'е****, а то будзе сонцэ пекці* [Буда-Сафіеўка Лельч.].

* БЛАГОВЕ'ШЧЭНЕ ПРЫСВЯТО'Й БОГОРО'ДЗІЦЫ. *З* ***Благове'шчэня Прысвято'й Богоро'дзіцы*** *остаецца сорок холодных утрэнікоў* [Сяменча Жытк.].

**БЛАГАВЕ'ШЧЭНЕ** *гл.* БЛАГАВЕ'ШЧАННЕ.

**БЛАГОВЕ'СНІК** *гл.* БЛАГАВЕ'СНІК.

**БЛАГОВЕ'СНІКІ** *гл.* БЛАГАВЕ'СНІКІ ў знач. 1, 2.

**БЛАГОВЕ'СТАЦЬ**, *-аю, -аеш, -ае*; *незак.* Апавяшчаць. *Прылецеў архангел Гаўрыіл і* ***благове'стаў*** *Марыю, што родзіцца Ісус Хрыстос у ее* [Баравое Лельч.].

**БЛАГОВЕ'ШЧАННЕ** *гл.* БЛАГАВЕ'ШЧАННЕ.

**БЛАГОВЕ'ШЧАННЕ СВЯТО'Е** *гл.* БЛАГАВЕ'ШЧАННЕ.

**БЛАГОВЕ'ШЧЭНЕ** *гл.* БЛАГАВЕ'ШЧАННЕ.

**БЛАГОВЕ'ШЧЭНЕ ПРЫСВЯТО'Й БОГОРО'ДЗІЦЫ** *гл.* БЛАГАВЕ'ШЧАННЕ.

**БЛОСЛОЎЛЯ'ЦЬ**, *-яю, -яеш, -яе*; *незак.* Благаслаўляць. *Му ў цэркві молімса, а бацюшко* ***блослоўля'е*** *нас* [Града Жытк.].

**БОГОСЛА'Ў** *гл.* БАГАСЛО'Ў.

**БОГОСЛО'Ў** *гл.* БАГАСЛО'Ў.

**БОГУСЛА'Ў** *гл.* БАГАСЛО'Ў.

**БОЕЗЛІ'ВЫ** *м.* *У гэты дзень боімса робіці: Чуда – очэнь* ***боезлі'вы*** *пра'знік, што хочэш учудзіць* [Казловічы Калінк.].

**БО'ЛЬШАЯ ПРАЧЫ'СТАЯ** *гл.* ПРАЧЫСТАЯ ў знач. 1.

# В

**ВАДАПО'СНАЯ КУЦЬЯ'** *гл.* ТРЭ'ЦЯЯ КУЦЬЯ'.

**ВАДЗЕ'ННЕ** *гл.* УВЯДЗЕ'ННЕ.

**ВАДО'ХРЫШЧ** *гл.* ВАДО'ХРЫШЧА.

**ВАДО'ХРЫШЧА** *гл.* ВАДО'ХРЫШЧА.

**ВАДО'ХРЫШЧАННЕ** *гл.* ВАДО'ХРЫШЧА.

**ВАДО'ХРЫШЧА, ВАДО'ХРЫШЧ, ВАДО'ХРЫШЧАННЕ, ВАДО'ХРЫШЧЭ, ВОДО'ХРЫШЧА, КРАШЧЭ'ННЕ, КРЭШЧЭ'ННЕ, КРЭШЧЭ'НЬЕ; СВЕТО'Е КРАШЧЭ'ННЕ.** Зімовае свята, якое адзначаецца 19 студзеня (6 студзеня ст. ст.); апошняе свята каляднага цыкла.

ВАДО'ХРЫШЧА *н.* *На* ***Вадо'хрышча*** *калядкі не робім* [Васькаўка Маз.].

ВАДО'ХРЫШЧ *м.* *На* ***Вадо'хрышч*** *свецім ваду* [Крукавічы Калінк.].

ВАДО'ХРЫШЧАННЕ *н.* *На* ***Вадо'хрышчанне*** *несом ваду свеціць, затым п'ём ее ад дурнога вока* [Крукавічы Калінк.].

ВАДО'ХРЫШЧЭ *н.* *На* ***Вадо'хрышчэ*** *ў цэркву ходзім* [Казловічы Калінк.].

ВОДО'ХРЫШЧА *н.* *Крэсціцель бувае пасля* ***Водо'хрышча*** [Баравое Лельч.].

КРАШЧЭ'ННЕ *н.* *У Замосці празнуюць* ***Крашчэ'нне*** [Бобрыкі Петрык.].

КРЭШЧЭ′ННЕ *н. На **Крэшчэ′нне** булі морозы* [Азяраны Житк.]. *На **Крэшчэ′нне** клічуць мороз куццю есці* [Аголічы Петрык.]. *На **Крэшчэ′нне** воду свецілі ў колодцах* [Багуцічы Ельск.].

КРЭШЧЭ′НЬЕ *н. На **Крэшчэ′нье** ваду свецяць* [Бабраняты Маз.]. *На **Крэшчэ′нье** нічого не робім* [Замосце Калінк.]. ***Крэшчэ′нье** – велікі празнік* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

* СВЕТО′Е КРАШЧЭ′ННЕ *н. Я на Крашчэнне ўсіх прашчаю, бо **Светое Крашчэнне** і Коледам прашчэнне* [Смалегаў Нараул.].

**ВАЖДЗЮ′ЖЭННЕ** *гл.* УЗВІ′ЖАННЕ.

**ВАЛАЧО′БНІКІ, ВАЛАЧО′НІКІ, ВОЛОЧО′ЎНЫЕ**. Тыя, хто выконвае традыцыйны абрад абходу двароў з велічальна-віншавальнымі песнямі на Вялікдзень.

ВАЛАЧО′БНІКІ *мн. На Вялікдзень у нас раней усегда хадзілі **валачо′бнікі*** [Гурыны Маз.].

ВАЛАЧО′НІКІ *мн. Ужэ пашлі **валачо′нікі** – гатуй каўбасы, сыр і масла* [Зімовая Буда, Калінкавіцкі].

ВОЛОЧО′ЎНЫЕ *мн. **Волочо′ўным** йейцо давалі, пірага адрэжуць* [Грабаў Петрык.].

**ВАЛАЧО′НАЕ, ВУ′НОСКА**. Пачастунак для валачобнікаў.

ВАЛАЧО′НАЕ *н. Валачобнікам усегда збіраем **валачо′нае*** [Загорыны Маз.].

ВУ′НОСКА *ж. Опослей господар вуносіць волочоўным **ву′носку**: і сало, і пірогі, і горэлку* [Чырвонабярэжжа Лельч.].

**ВАЛАЧО′НІКІ** *гл.* ВАЛАЧО′БНІКІ.

**ВАРАЖБА′, ГАДА′ННЕ**. Прадказанне.

ВАРАЖБА′ *ж. Пуд самую ноч дзеўкі ўжэ **варажбу′** начынаюць* [Бібікі Маз.].

ГАДА′ННЕ *н. Дзеўкі дай маладзіцы на **гада′нне** бегаюць адна да адной* [Гурыны Маз.]

**ВА′РКА** *гл.* ВАРВА′РА.

**ВА′РЫ** *гл.* ВАРВА′РА.

**ВАРВА′РА, ВАРВА′РЫ, ВА′РКА, ВАРУ′ХА, ВА′РЫ, ВОРВА′РЫ; ВАРВА′РА-МУ′ЧЭНІЦА, ВАРВА′РЫН ДЗЕНЬ**. Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 17 снежня (4 снежня ст. ст.); жаночае свята, з якога пачынае прыбываць дзень.

ВАРВА′РА *ж. На **Варва′ру** дзяўчаты не рабілі, а раней і не пралі* [Аляксандраўка Калінк.]. *На **Варва′ру** дзень большае* [Прудок Маз.].

ВАРВА′РЫ *мн. На **Варва′ры** дзяўчаты не пралі* [Прудок Маз. ]. *На **Варва′ры** дзень большае* [Хобнае Калінк.]. *На **Варва′ры** пеклі пірагі і называлі "варэнне"* [Санюкі Ельск.].

ВА′РКА *ж. **Ва′рка** – Міколіна матка* [Малыя Аўцюкі Калінк]. ***Ва′рка** була мучэніца, бацька адсёк ёй голову, што зрабіла тры хрэсты* [Малыя Аўцюкі Калінк].

ВАРУ'ХА *ж. Трэшчыць **Вару'ха** – берэжы нос і вухо* [Завайць Нараўл.].

ВА'РЫ *мн. **Ва'ры** ночы одорвалі* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

ВОРВА'РЫ *мн. **Ворва'ры** правім ў цэркве* [Града Жытк.].

* ВАРВА'РА-МУ'ЧЭНІЦА *ж. Празнік **Варва'ра-му'чэніца** за тое так называецца, што Варвару бацько мучаў, шоб вона одрэкласа ад веры Хрыстовай. Кажуць, што на **Варва'ру-му'чэніцу** зажываюць усе раны за ноч* [Маркоўскае Лельч.].

* ВАРВА'РЫН ДЗЕНЬ. *Таму празнік назвалі **Варва'рын дзень**, што ў еты дзень Варвара багацько мук і здзек поперэцерпвала* [Хамічы-2 Калінк.].

**ВАРВА'РЫ** *гл.* ВАРВА'РА.

**ВАРВА'РА-МУ'ЧЭНІЦА** *гл.* ВАРВА'РА.

**ВАРВА'РЫН ДЗЕНЬ** *гл.* ВАРВА'РА.

**ВА'РКА** *гл.* ВАРВА'РА.

**ВАРАЖЫ'ЦЬ, ГАДА'ЦЬ**. Прадказваць, адгадваць.

ВАРАЖЫ'ЦЬ *незак. Перад Вадохрышчам у нашай дзярэўні дзяўчаты **варо'жаць*** [Гурыны Маз.].

ГАДА'ЦЬ *незак. Раней спраўлялаcа свято Андрэй, а цепер дзяўчат мало, у горадзе ўсе, і там **гада'юць*** [Казловічы Калінк.].

**ВАРУ'ХА** *гл.* ВАРВА' РА.

**ВА'РЫ** *гл.* ВАРВА'РА.

**ВАСІ'ЛЕЙ** *гл.* ВАСІ'ЛЛЕ.

**ВАСІ'ЛЛЕ, ВАСІ'ЛЕЙ; СВЯТО'Е ВАСІ'ЛЛЕ**. Традыцыйнае свята, якое адзначаецца 14 студзеня (1 студзеня н. ст.); дзень пачатку новага каляндарнага года; дзень варажбы.

ВАСІ'ЛЛЕ *н. На **Васі'лле** дзяўчаты варожаць* [Васькаўка Маз.]. *На **Васі'лле** дзеўкі кідаюць чаравікі за ворота, коб знаці, одкуль жэніх* [Букча Лельч.].

ВАСІ'ЛЕЙ *м. **Васі'лей** – гэто веліке свято* [Запясочча Жытк.]. *Ек **Васі'лей** – дзеўчаты ў цыганоў одзеваюцца* [Дуброва Лельч.].

* СВЯТО'Е ВАСІ'ЛЛЕ *н. **Свято'е Васі'лле** прыйшло – Новы год прынясло* [Дудзічы Калінк.].

**ВЕ'ДЗЬМУ МОЛО'ЧНЫЕ** *мн.* Міфічныя істоты, надзеленыя здольнасцю адбіраць малако ў кароў на Купалле і веснавога Юр'я. *Шчэ моя бабушка говорыла, што на Купало і святы Юрэй уходзяць **ве'дзьму моло'чные**, одбірають молоко ў короўкі, а тады купаюцца ў ём* [Маркоўскае Лельч.].

**ВЕДЗЯННЁ** *гл.* УВЯДЗЕ'ННЕ.

**ВЕЛІ'КДЗЕНЬ, ВЯЛІ'КДЗЕНЬ, ПА'СКА[1]**. 1. Хрысціянскае свята, якое не мае строгай каляндарнай прымеркаванасці і адзначаецца (у залежнасці ад месячнага календара) у перыяд з 4 красавіка да 8 мая; веснавое свята надыходу палявых работ.

ВЕЛІ'КДЗЕНЬ *м.* ***Велі'кдзень*** *– годовое свято* [Вербавічы Нараўл.]. *На* ***Велі'кдзень*** *прыедуць родные* [Багуцічы Ельск.]. *У нас* ***Велі'кдзень*** *– самое радасное свято пасля доўгага посту* [Веляцін Хойн.]. *На* ***Велі'кдзень*** *устаю рано* [Глініца Маз.]. *На* ***Велі'кдзень*** *му ходзім на могілкі до дзедоў* [Баравое Лельч.]. *Нашые дзеўке на* ***Велі'кдзень*** *кідають посвецонэ ейцэ ў воду і ўмываюцца ею, каб быць прыгожэй* [Крыўча Браг.]. *Раней на* ***Велі'кдзень*** *хлопцы збіраліса і ішлі песні спеваць, жадалі ўсім здороўе, шчасце, а іх угошчалі тады* [Казловічы Калінк.]. *На* ***Велі'кдзень*** *елі толькі тое, што посвецілі ў цэркві, говораць, што тогды не ўкусіць годзюка* [Маркоўскае Лельч.]. *До* ***Велі'кодня*** *му красім ейцэ ў чырвонэ* [Бярэжцы Жытк.].

ВЯЛІ'КДЗЕНЬ *м. На* ***Вялі'кдзень*** *свецяць хлеб* [Балажэвічы Маз.].

ПА'СКА[1] *ж.* ***Па'ска*** *не гледзіць чысла* [Малыя Аўцюкі Калінк.]. *Перэд* ***Па'скай*** *прыбіралі хату, красілі яйкі ў шалупінні цыбулі, тады яны чырвоныя* [Новыя Навасёлкі Калінк.]. *І на* ***Па'ску*** *дзеўкі ворожаць: котора ўскочэ на воз, тую чоловек возьме* [Веляцін Хойн.]. *Калі на* ***Па'ску*** *пойдзе дошч, то ўсё лето будзе мокрое* [Ляскавічы Петрык.].

2. Чацвер велікоднага тыдня. *На* ***Велі'кдзень*** *мёртвых, у чэцвер, усегда помінаем нашых родзіцелей* [Вуглы Калінк.]. *У чэцвер на* ***Вялі'кдзень*** *му ідом на могілкі, разломім і кладом яйцо* [Загорыны Маз.].

**ВЕЛІ'КІ ПО'СТ**. Сем тыдняў устрымання ад скаромнай ежы перад Вялікднём. *Ето* ***Велі'кі по'ст*** *перэд Веліконнем* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**ВЕЛІ'КОДНЕ, ВЕЛІ'КОННЕ, ВЕЛІ'КОНЬЕ, ВЕЛІ'КЭННЕ; ВЕЛІ'ЧКА ВЕЛІ'КОНЬЕ СВЕТО'Е.** Другі дзень пасля Пасхі.

ВЕЛІ'КОДНЕ *н. І на* ***Велі'кодне*** *ў біткі гуляюць* [Гарочычы Калінк.]. У *нас на* ***Велі'кодне*** *толькі ў красное яйца красяць, таму што Хрыстос кроў праліў* [Баравое Лельч.].

ВЕЛІ'КОННЕ *н.* ***Велі'конне*** *– шо Ісус Хрыстос увоскрэс* [Сяменча Жытк.]. *На* ***Велі'конне*** *і цепер збіраюцца мужыкі да йдуць по дворах пець песні, як раней* [Зеляначы Калінк.].

ВЕЛІ'КОНЬЕ *н. Хто первы прыдзе на* ***Велі'конье,*** *тому ейцэ даюць* [Града Жытк.].

ВЕЛІ'КЭННЕ *н. На* ***Велі'кэнне*** *не можно было біцца з кім-небудзь, каб град не побіў усіх* [Загорыны Маз.]. Да ***Велі'кэння*** *пяком пірогі* [Мялешкавічы Маз.].

ВЕЛІ'ЧКА *н.* ***Велі'чка*** *гуляць веліць малым дзеткам з чырвоным еечком* [Завайць Нараўл.].

* ВЕЛІ'КОНЬЕ СВЕТО'Е *н. Ето ж* ***Велі'конье Свето'е*** *– тады пекуць паску, гуляюць, "Перэпёлку" спеваюць* [Ляскавічы Петрык.].

**ВЕЛІКО'ДНЫ ПІРО'Г** *гл.* ПА'СКА ў знач. 2.

**ВЕЛІ'КОННЕ** *гл.* ВЕЛІ'КОДНЕ.

**ВЕЛІ'КОНЬЕ** *гл.* ВЕЛІ'КОДНЕ.

**ВЕЛІ′КОНЬЕ СВЕТО′Е** *гл.* ВЕЛІ′КОДНЕ.

**ВЕЛІ′КЭННЕ**, *н. гл.* ВЕЛІ′КОДНЕ.

**ВЕЛІ′ЧКА** *гл.* ВЕЛІ′КОДНЕ.

**ВЕНКІ′ ПУСКА′ЦЬ, ВЯНКІ′ ПУСКА′ЦЬ**. Апускаць вянкі ў раку. Абрадавае дзеянне, якім суправаджаецца варажба на Купалле.

ВЕНКІ′ ПУСКА′ЦЬ. *На Купало дзеўкі **венкі′ пуска′юць*** [Маркоўскае Лельч.].

ВЯНКІ′ ПУСКА′ЦЬ. *Ето ж калі Купала – **вянкі′ пуска′юць*** [Загорыны Маз.].

**ВЕНО′К, ВЯНО′К**. Рытуальнае ўпрыгожванне з кветак, стужак, неабходны атрыбут традыцыйных абрадаў, якімі суправаджаюцца каляндарныя святы.

ВЕНО′К *м. У нас на Купалле дзяўчаты плетуць **венкі′*** [Казловічы Калінк.]. *На дожынкі плетуць **венкі′** з колосоў* [Града Жытк.].

ВЯНО′К *м. У той год дык вадзілі русалку па дзярэўні пасля Тройцы. Ета маладая дзевачка, надзявалі ей коротко плаце, **вянка′** рабілі, у его й ленты ўплятаалі* [Гурыны Маз.].

**ВЕРБА′, ВЯРБА′**. 1. Дрэва, галінкі якога з'яўляліся атрыбутам ачышчальнага абрада ў Вербную нядзелю. *Тым дубчыком **вербы′**, што свецілі ў Вербную недзелю, вугоняем короўкі на веснавого Юр'я* [Бярэжцы Жытк.].

2. Галінкі вербы. *У Вербную недзелю носім свеці′ць **вербу** ў цэркоў* [Казловічы Калінк.]. *На Вербіч **вербу′** несом у цэркоў* [Грабаў Петрык.]. *У Вербну недзелю ўжо нічого не робім, а ідом у цэркоў, несом **вербу′** свеці′ць* [Буда-Сафіеўка Лельч.]. *Усегда **вярбу′** свецім ў цэркві* [Бібікі Маз.]. *Прыносім **вярбу′** з цэркві дый дзетак ею б'ём, каб хваробы павуходзілі* [Гурыны Маз.].

**ВЕ′РБІЧ** *гл.* ВЕ′РБНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ ў знач. 1.

**ВЕ′РБНА НЕДЗЕ′ЛЯ** *гл.* ВЕ′РБНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ ў знач. 1.

**ВЕ′РБНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ** *гл.* ВЕ′РБНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ ў знач. 2.

**ВЕ′РБНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ, ВЕ′РБНА НЕДЗЕ′ЛЯ; ВЕ′РБНІЦА, ВЕ′РБІЧ**. 1. Народнае свята, якое адзначаецца за тыдзень да Вялікадня і звязваецца з культам зеляніны, надыходам вясны і распусканнем першага дрэва – вярбы, якой надаюцца аберагальныя ўласцівасці.

ВЕ′РБНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ *ж. У **Ве′рбную недз′елю** вербу посвецімо і за ікону стаўлімо на цэлы год, гавораць, засцерагае ад молніі* [Веляцін Хойн.]. *У **Ве′рбную недз′елю** ходзілі ў цэркоў* [Аляксандраўка Калінк.].

ВЕ′РБНА НЕДЗЕ′ЛЯ *ж. Ек вербу свецяць у **Ве′рбну недзе′лю**, тогды не робляць* [Буйнавічы Лельч.]. *У **Ве′рбну недзе′лю** ходымо ў цэркоў, бацюшка нас блослоўяе* [Града Жытк.]. *У тую **Ве′рбну недз′елю** свецяць вербу* [Буйнавічы Лельч.].

ВЕ′РБНІЦА *ж. У **Ве′рбніцу** раней робілі засеўкі* [Завайць Нараўл.].

ВЕ′РБІЧ *м.* *У нас* ***Ве′рбіч*** *– велікі празнік* [Багуцічы Ельск.]. *На* ***Ве′рбіч*** *вербу несом у цэркоў* [Грабаў Петрык.]. ***Ве′рбіч*** *– последні дзень перад Вяліконнем* [Махнавічы Маз.]. *Ек прыходзіў* ***Ве′рбіч*** *– несом вербу свеціць, коб злы дух з ее вугнаць* [Сяменча Жытк.].

2. Вербны тыдзень. *На* ***Ве′рбной недзе′лі*** *ідом вярбу рэзаць, затым ставім у банку, штоб лісточкі пойшлі* [Мялешкавічы Маз.]. *Зараз будзе іці похвальная недзеля, а потом будзе іці* ***Ве′рбная недзе′ля*** *до Паскі* [Буйнавічы Лельч.]. ***Ве′рбная недзе′ля*** *– шостая недзеля Велікого посту* [Завайць Нараўл.]. ***Ве′рбна недзе′ля*** *– недзеля перэд Паскай* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

**ВЕ′РБНІЦА** *гл.* ВЕ′РБНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ.

**ВЕСНАВА′ЦІ**, *незак.* Вясну сустракаць. *З Благавешчання дзяўчаты пачынаюць ужэ* ***веснава′ці*** [Прудок Маз.].

**ВЕСНУ′ ГУКА′ЦЬ, ВЕСНУ′ КЛІ′КАЦЬ, ЗАКЛІКА′ЦЬ ВЕСНУ′.** Спяваць веснавыя песні, у якіх заклікаецца надыход вясны.

ВЕСНУ′ ГУКА′ЦЬ. *На Масленіцу дзеўкі пачынаюць* ***весну′ гука′ць*** [Мялешкавічы Маз.].

ВЕСНУ′ КЛІ′КАЦЬ. *Калі прылетаюць першыя птушкі, дзяўчата забіраюцца на горкі й* ***весну′ клі′каюць*** [Аляксандраўка Калінк.].

ЗАКЛІКА′ЦЬ ВЕСНУ′. *На Сорока′ колісь песні пелі і* ***закліка′лі весну′*** [Сяменча Жытк.].

**ВЕСНУ′ КЛІ′КАЦЬ** *гл.* ВЕСНУ′ ГУКА′ЦЬ.

**ВЕСНЯ′НКА** *ж.* Веснавая песня, у якой заклікаецца надыход вясны. *На Стрэчанне ўжо спеваюць* ***весня′нкі*** [Асавец Маз.].

**ВЕСНЯ′НЫ Ю′РЭЙ** *гл.* Ю′Р'Я.

**ВЕЧО′РКІ** *мн.* Зборы моладзі для сумеснай працы або забавы. *Ходзілі на* ***вечо′ркі*** *дзеўкі, хлопцы, пелі песні, везалі кручком, вышывалі* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**ВОДА′**, *ж.* Пярэдадзень ВАДО′ХРЫШЧА. *У нас на туй дзень перэд Крэшчэннем говораць* ***Вода′*** [Маркоўскае Лельч.].

**ВОДОПО′ШЧ'Е** *н.* Дзень посту перад Хрышчэннем. *На* ***Водопо′шч'е*** *п'юць толькі воду* [Азяраны Жытк.]. *Колісь у* ***Водопо′шч'е*** *не поілі коней, коб не опоіліса* [Замошша Лельч.].

**ВОДО′ХРЫШЧА** *гл.* ВАДО′ХРЫШЧА.

**ВОЗДВІ′ЖЭННЕ** *гл.* УЗВІ′ЖАННЕ.

**ВОЗДВІ′ЖЭННЕ КРЭСТА′ ГОСПО′ДНЯ** *гл.* УЗВІ′ЖАННЕ.

**ВОЗВІ′ЖЭННЕ ХРЫСТА′ ГОСПО′ДНЯ** *гл.* УЗВІ′ЖАННЕ.

**ВОЗНЕСЕ′ННЕ** *гл.* УШЭ′СЦЕ.

**ВОЗНЕСЕ′ННЕ ГОСП′ОДНЕ** *гл.* УШЭ′СЦЕ.

**ВОЛАЧЭ′ННЕ** *н.* Традыцыйны абрад абходу двароў з велічальна-віншавальнымі песнямі на Вялікдзень. *На* ***волачэ′нне*** *гатуй печэнне* [Вятчын Жытк.].

**ВОЛОЧО′ЎНЫЕ** *гл.* ВАЛАЧО′БНІКІ.

**ВОРВА'РЫ** *гл.* ВАРВА'РЫ.

**ВОРОЖЫ'ЦЬ** *незак.* Варажыць. Комплекс магічных дзеянняў, якімі суправаджаюцца каляндарныя святы. *На Купало дзеўкі ўсегда **воро'жаць*** [Глушкавічы Лельч.]. *На святого Ондрэя дзеўкі **воро'жаць** на суджоного* [Града Жытк.].

**ВО'ЎЧЫ МЕ'СЯЦ** *м.* Піліпаўка. Снежань, адметны "вяселлямі" ваўкоў. *Піліп бувае ў **во'ўчы ме'сяц**, калі ваўкі сходзяцца ў кучы* [Казловічы Калінк.]. *У Піліпаўку, у **во'ўчы ме'сяц**, збіраюцца "воўчыя вяселлі"* [Гарочычы Калінк.].

**ВСТРЭ'ЧЭННЕ** *гл.* СТРЭ'ЧАННЕ.

**ВСТР'ЭЧЭНЬСКА СВ'ЕЧКА** *гл.* ГРАМНІ'ЧНАЯ СВЕ'ЧКА.

**ВУ'НОСКА** *гл.* ВАЛАЧО'НАЕ.

**ВУГОНЯ'ЦЬ КОРО'ЎКІ.** Выганяць кароў на пашу. *На Юрый **коро'ўкі вугоня'лі** вербною галінкою* [Паселічы Хойн.].

**ВЯДЗЕ'ННЕ** *гл.* УВЯДЗЕ'ННЕ.

**ВЯЛІ'КАЯ ПРАЧЫ'СТАЯ** *гл.* ПРАЧЫ'СТАЯ ў знач. 1.

**ВЯЛІ'КДЗЕНЬ** *гл.* ВЕЛІ'КДЗЕНЬ у знач. 1. 2.

**ВЯНКІ' ПУСКА'ЦЬ** *гл.* ВЕНКІ' ПУСКА'ЦЬ.

**ВЯНО'К** *гл.* ВЕНО'К.

**ВЯРБА'** *гл.* ВЕРБА'.

# Г

**ГАДА'ННЕ** *гл.* ВАРАЖБА'.

**ГАДА'ЦЬ** *гл.* ВАРО'ЖЫЦЬ.

**ГАЛАВАСЕ'К, ГОЛОВОСЕ'К; ІВА'Н ГОЛОВОСЕ'К.** Традыцыйнае свята, якое адзначаецца 11 верасня (29 верасня ст. ст.) і звязваецца з усталяваннем за ім бытавых прыкмет і павер'яў. У гэты дзень забараняецца рэзаць, сячы і есці круглае.

ГАЛАВАСЕ'К *м.* *У **Галавасе'к** не можно есці капусту й бульбу* [Слабада Маз.]. *Калі **Галавасе'к** – не бяром тапор, не можно* [Аляксандраўка Калінк.]. *Прыйшоў **Галавасе'к** – нічого не рэжам, не сяком* [Мікулічы Браг.]. *Ек **Галавасе'к** прыходзіць, дзеўкі косы не расчэсаюць, каб галава не булела* [Веляцін Хойн.].

ГОЛОВОСЕ'К *м.* *Ек **Головосе'к** – скоромного не емо* [Баравое Лельч.]. *На **Головосе'ка** і хлеб не рэжэм, рукамі ломім* [Завайць Нараўл.]. *Ек **Головосе'к**, не можно яблука есці, коб чыракоў не було* [Багуцічы Ельск.].

* ІВА'Н ГОЛОВОСЕ'К *м.* *Колісь на **Іва'на Головосе'ка** ножа ў рукі не бралі, а лусты рэзалі зараней* [Маркоўскае Лельч.]. *На **Іва'на Головосе'ка** не можно було варыці чырвонэ боцвінне, бо бояліса, што пролієцца кроў у хаці* [Ляскавічы Петрык.].

**ГАЛО′ДНА КУЦЬЯ′** *гл.* ТРЭ′ЦЯЯ КУЦЬЯ′.

**ГАЛО′ННА КУЦЯ′** *гл.* ТРЭ′ЦЯЯ КУЦЬЯ′.

**ГА′ННЫ** *мн.* Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 22 снежня (9 снежня ст. ст.); звязваецца з назіраннямі за надвор'ем. *На **Га′нны** ўжэ прыбаўляецца багато дня* [Загорыны Маз.]. ***Га′нны** – два тыдні до Коляд* [Аляксандраўка Калінк.]. ***Га′нны** буваюць до Роства* [Канатоп Нараўл.]. *Перэд **Га′ннамі** ходзяць воўкі зграямі* [Мікулічы Браг.].

**ГНІ′ШЧА** *н.* Вогнішча. *Увечары на Івана Купалу маладыя палілі **гнішчы**, водзілі карагоды, а ночы йшлі ў лес шукаць кветку* [Званяцкае Хойн.].

**ГОЛОВОСЕ′К** *гл.* ГАЛАВАСЕ′К.

**ГОЛО′ДНА КУЦЬЯ′** *гл.* ТРЭ′ЦЯЯ КУЦЬЯ′.

**ГОЛО′ДНА КУЦЯ′** *гл.* ТРЭ′ЦЯЯ КУЦЬЯ′.

**ГРАДОБО′ЙНА СЕРЭДА′** *гл.* ГРАДОВА′Я СЕРАДА′.

**ГРАДОВА′ СЕРАДА′** *гл.* ГРАДОВА′Я СЕРАДА′.

**ГРАДОВА′Я СЕРАДА′, ГРАДОВА′ СЕРАДА′, ГРАДОБО′ЙНА СЕРЭДА′**. Серада пасля Сёмухі (Тройцы).

ГРАДОВА′Я СЕРАДА′ *ж.* ***Градова′я серада′** бувае на Тройцу, у сераду* [Мялешкавічы Маз.].

ГРАДОВА′ СЕРАДА′ *ж.* *У **Градову′ сераду′** ў полі не робім, штоб град не побіў* [Буйнавічы Лельч.].

ГРАДОБО′ЙНА СЕРЭДА′ *ж.* *Еслі будзеш робіць у **градобо′йну серэду′** – град усё поб'е* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**ГРАМНІ′ЧНАЯ СВЕ′ЧКА, ВСТР′ЭЧЭНЬСКА СВЕ′ЧКА, СТРЭ′ЧАННАЯ СВЕ′ЧКА**. Свечка, якая асвячаецца ў храме на Стрэчанне (Грамніцы) і, паводле вераванняў, мае ахоўную сілу.

ГРАМНІ′ЧНАЯ СВЕ′ЧКА *ж.* *На Стрэчанне беруць свечону свечку і ставяць у хаці, штоб гром не ўдарыў, таму і завецца **грамні′чная све′чка*** [Васькаўка Маз.]. ***Грамні′чнай све′чкай** обязацельно надо перэхрысціць хату і хлеў, штоб гром не ўдарыў* [Казловічы Калінк.].

ВСТР′ЭЧЭНЬСКА СВЕ′ЧКА *ж.* *Несом **встр′эчэньску св′ечку**, штоб дома була, ад грозы* [Вятчын Жытк.].

СТРЭ′ЧАННАЯ СВЕ′ЧКА *ж.* ***Стрэ′чанная све′чка** ад грозы* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**ГУВЕ′СНА**, *ж.* Першы дзень вясны. *Калі м'ясоед заканчваецца, а пост почынаецца, то тэй дзень му зоўём **гуве′сна**, тому што тоды ўжэ весну сустрэкаюць* [Града Жытк.].

# Д

**ДАБРАВЕ'ШЧАННЕ** *гл.* БЛАГАВЕ'ШЧАННЕ.

**ДАЖЫ'НКІ** *мн.* 1. Заканчэнне жніва. *На **дажы'нкі** прышло мо з пяць баб* [Чамярысы Браг.].

2. Свята заканчэння жніва. *Етыя **дажы'нкі** булі багатыя* [Скалодзін Маз.]. *На **дажы'нкі** будзе кермаш* [Астражанка Лельч.]. *На етых днях будуць **дажы'нкі*** [Сяменча Жытк.].

3. Святкаванне заканчэння дажынак. *З **дажы'нак** ішлі з песнямі* [Хвойнае Хойн.]. *На **даж'ынкі** неслі каравай* [Каманоў Браг.]. *Ось надзену красівую сарочку і пойду на **дажы'нкі*** [Санюкі Ельск.].

**ДАКО'ПКІ** *мн.* 1. Заканчэнне ўборкі бульбы. *Бувае, што з **дако'пак** чуць ідом – так наробімса* [Бібікі Маз.].

2. Свята заканчэння ўборкі бульбы. *Як бульбу дакопаюць – правім **дако'пкі*** [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

3. Святкаванне заканчэння ўборкі бульбы. *На **дакопкі** сало несом, блінцы, што е, тэе і бером* [Турцэвічы Калінк.].

**ДВІ'ЖЭННЕ** *гл.* УЗВІ'ЖАННЕ.

**ДЗВІ'ЖЭННЕ** *гл.* УЗВ'ІЖАННЕ.

**ДЗЕВЯ'ТУХА** *ж.* Пятніца на дзевятым тыдні пасля Вялікадня. ***Дзевя'туху** празнуем, шоб грозы не було* [Буйнавічы Лельч.].

**ДЗЕ'Д** *м.* Персанаж традыцыйнага абрадавага каляднага цыкла. *Козу водзілі, пуд вокнамі спевалі, а **дзе'да** ў хату пускалі. **Дзе'ду** пірога давалі, грошы давалі* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**ДЗЕ'ДОВА СУБО'ТА, ЗЯЛЁНАЯ СУБО'ТА**. Памінальны пярэдадзень Сёмухі (Тройцы).

ДЗЕ'ДОВА СУБО'ТА *ж.* ***Дзе'дова субо'та** перэд Тройцою* [Дуброва Лельч.]. *У **Дзе'дову субо'ту** ходзім на могілкі* [Букча Лельч.].

ЗЯЛЁНАЯ СУБО'ТА *ж.* *У **Зялёную субо'ту** дзедоваць будом* [Зімовая Буда Лельч.]. *У нас **Зялёная субо'та** ето Кленова субота* [Убарцкая Рудня Лельч.].

**ДЗЕДОВА'ЦЬ** *-дую, -дуеш, -дуе; незак.* Памінаць продкаў. *У пятніцу перэд Сёмухою ідом до своіх **дзедова'ць*** [Вятчын Жытк.].

**ДЗЕДЫ'** *мн.* 1. Дзень, у які памінаюць продкаў. ***Дзеды'** бываюць увосень і вясною* [Мялешкавічы Маз.]. *У пятніцу перэд Тройцою ўсегда правім **дзеды'*** [Буда-Сафіеўка Лельч.].

2. Традыцыйная памінальная вячэра. *На **дзеды'** гатуем куццю, мясо, блінцы, кісель* [Казловічы Калінк.].

3. Памёршыя продкі. *На Радуніцу варым вечэру, зовём **дзедо'ў*** [Прудок Маз.].

**ДЗЕНЬ СВЕТО'Й ТРО'ІЦЫ** *гл.* СЁМУХА.

**ДЗЕСЯ′ТУХА** *ж.* Пятніца на дзесятым тыдні пасля Вялікадня. ***Дзеся′туха*** *– етэ ж дзесятая п'ятніца после Велікодня* [Чырвонабярэжжа Лельч.].

**ДЗЕЎЯ′ТНІК** *м.* Чацвер на дзевятым тыдні пасля Вялікадня. *На* ***дзеўя′тнік*** *возьму дзеўяць егодзін чарніц у лесе* [Вялікія Сялюцічы Петрык.]. *На* ***дзеўя′тнік*** *ідом у лес шукаць дзеўяту ягоду і прыказваем: "Новінка ў роток, а здороўечко ў жыввоток!"* [Навасёлкі Петрык.].

**ДРУГА′Я КУЦЦЯ′** *гл.* ДРУГА′ КУЦЦЯ′.

**ДРУГА′ ПРАЧЫ′СТА** *гл.* ПРАЧЫ′СТАЯ.

**ДРУГА′ ПРОЧЫ′СТА** *гл.* ПРАЧЫ′СТАЯ.

**ДРУГА′ ПРЭЧЫ′СТА** *гл.* ПРАЧЫ′СТАЯ.

**ДРУГА′ КУЦЦЯ′, ДРУГА′Я КУЦЦЯ′, БАГА′ТА КУЦЦЯ′, БАГА′ТА КУЦЬЯ′, БАГА′ТА КУЦЯ′, КУЦЦЯ′ СВЯТО′ГА КО′ЗЛІКА, СЕРЭ′ДНЯ КУЦЬЯ′, ШЧО′ДРАЯ КУЦЦЯ′.** Другая перадкалядная куцця, якая святкуецца 13 студзеня (31 снежня ст. ст.).

ДРУГА′ КУЦЦЯ′ *ж.* ***Друг′а куцця′*** *– ето перэд Новым годам, ето* ***серэ′дня куцця′*** [Камаровічы Петрык.].

ДРУГА′Я КУЦЦЯ′ *ж.* ***Друг′ая куцця′*** *бувае трынаццатого января* [Чырвонабярэжжа Лельч.].

БАГА′ТА КУЦЬЯ′ *ж.* ***Бага′та куцья′*** *перэд Новым годам* [Мялешкавічы Маз.].

БАГА′ТА КУЦЦЯ′ *ж.* *На* ***Бага′ту куццю′*** *гатуем усё с салом* [Навасёлкі Хойн.].

БАГА′ТА КУЦЯ′ *ж.* ***Бага′та куця′*** *шчодрая* [Малейкі Браг.].

* КУЦЦЯ′ СВЯТО′ГА КО′ЗЛІКА *ж.* *У нас колісь робілі* ***куццю′ свято′га Ко′зліка****, а цепер не, не празнуюць* [Крушнікі Маз.]. *За тое і стаўлімо* ***куццю′ свято′га Ко′зліка****, што Святы Козлік накрываў маленького Ісуса сеном, шоб не змерз* [Гарочычы Калінк.].

СЕРЭ′ДНЯ КУЦЬЯ′ *ж.* ***Серэ′дня куцья′*** *бувае перэд Васіллем* [Жахавічы Маз.].

ШЧО′ДРАЯ КУЦЦЯ′ *ж.* *На* ***Шчо′друю куццю′*** *зоўём мороза* [Сяменча Жытк.].

**ДРУГА′ ПРАЧЫ́СТА** *гл.* ПРАЧЫ́СТАЯ ў знач. 2.

**ДРУГА′ Я ПРАЧЫ́СТАЯ** *гл.* ПРАЧЫ́СТАЯ ў знач. 2.

**ДРУГА′ ПРОЧЫ́СТА** *гл.* ПРАЧЫ́СТАЯ ў знач. 2.

**ДРУГА′ ПРЭЧЫ́СТА** *гл.* ПРАЧЫ́СТАЯ ў знач. 2.

**ДРУГІ′ СПАС** *гл.* СПАС.

# Е

**ЕЙЦЭ′** *н.* Яйцо. *Бувало, на Паску моя бабка посвецонэ **ейцэ′** кочае па волосах і говорыць: "Нехай курочка знесе столькі еец, колькі волоскоў на голове"* [Малейкі Браг.].

**ЕЎДО′КІ** *гл.* АЎДО′КІ.

# Ж

**ЖОНКІ′** *мн.* ЖАНЧЫ′НЫ. *Ек жыто начыналі жаць, то ўсе **жонкі′** поўходзяць на поле да й жнуць* [Чырвонабярэжжа Лельч.].

**ЖО′ЎТА КВЕ′ТКА** *гл.* ПА′ПАРАЦЬ-КВЕ′ТКА.

# З

**ЗА′ГАВЕНЫ** *гл.* ЗА′ГАВІНЫ.

**ЗА′ГАВІНЫ ПОСТАВУ′Е, ЗА′ПУСКІ ПОСТОВЫ′Е.** Пярэдадзень Вялікага посту.

ЗА′ГАВІНЫ ПОСТАВУ′Е, *мн. У нас на **за′гавіны поставу′е** дзеўкі ўжэ весну гукаюць* [Махнавічы Маз.].

ЗА′ПУСКІ ПОСТОВЫ′Е *мн. Перэд Постом, у недзелю, собіраліса ўсе, пелі, вупівалі, наедаліса на етые **за′пускі постовы′е*** [Камаровічы Петрык.].

**ЗА′ГАВІНЫ, ЗА′ГАВЕНЫ, ЗА′ПУСКІ.** Пярэдадзень посту.

ЗА′ГАВІНЫ *мн. У нас буваюць **за′гавіны** пасля Масленіцы, у недзелю* [Махнавічы Маз.].

ЗА′ГАВЕНЫ *мн. **За′гавены** – перэд постом* [М. Аўцюкі Калінк.].

ЗА′ПУСКІ *мн. Усегда **за′пускі** ў недзелю* [Мялешкавічы Маз.]. ***За′пускі** буваюць перэд Постом, тогды ўжэ не едзяць скоромное, а толькі посное* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**ЗАЖЫ′НКІ** *мн.* 1. Пачатак жніва. *У нашай дзярэўні, бувала, рабілі так **зажы′нкі**: брыгадзір падзеліць поле на палосы, а жанчыны занімаюць іх і пачынаюць жыта жаць* [Бібікі Маз.].

2. Свята пачатку жніва. *У нас свято – **зажы′нкі*** [Дабрынь Ельск.].

3. Святкаванне пачатку жніва. *У той дзень гулялі **зажы′нкі*** [Зімовішчы Маз.]. *На **зажы′нках** була, горэлку піла* [В. Аўцюкі Калінк.]. *У етум месці будуць робіць **зажы′нкі*** [Скрыгалаў Маз.]. *Наш бацько любіць ходзіць на **зажы′нкі*** [Дзёрнавічы Нараўл.]. *Мое дзеці гулялі на **зажы′нках*** [Данілевічы Лельч.].

**ЗАКЛІКА′ЦЬ ВЕСНУ** *гл.* ВЕСНУ′ ГУКА′ЦЬ.

**ЗАЛАЖЭ′ННЕ** *н.* Заснаванне храма. *У нас колісь на Казанскую було **залажэ′нне**, дак много каго собраласа, і бацюшкаў було много* [Мялешкавічы Маз.].

**ЗА′ПУСКІ** *гл.* ЗА′ГАВІНЫ.

**ЗА'ПУСКІ ПЕТРО'ЎСКІЕ** *мн.* Пярэдадзень Пятроўскага посту. *Роблім запускі перэд Петром, дак зоўём йіх* ***за'пускі Петро'ўскіе****, а тады ўжэ пуоснэ йедзім* [Маркоўскае Лельч.].

**ЗА'ПУСКІ ПІЛІ'ПОЎЧАНЫ** *мн.* Пярэдадзень Піліпаўскага посту. ***За'пускі*** *бываюць* ***Пілі'поўчаны*** [Чырвонабярэжжа Лельч.].

**ЗА'ПУСКІ ПОСТОВЫ'Е** *гл.* ЗА'ГАВІНЫ ПОСТАВУ'Е.

**ЗА'ПУСКІ СПА'СОЎСКІЕ** *мн.* Пярэдадзень Спасаўскага посту. *Перэд Спасом усегда робім* ***за'пускі Спа'соўскіе*** [Грабаў Петрык.].

**ЗАСЕ'ЎКІ** *мн.* 1. Пачатак сяўбы. *У нас* ***засе'ўкі*** *рабілі ў аўторак, калі бувае поўны месяц* [Загорыны Маз.]. *Начынаюць* ***засе'ўкі*** *пад поўнае* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

2. Святкаванне пачатку сяўбы. *Ек почынаем правіць* ***засеўкі****, дак усе чысто сходзяцца* [Маркоўскае Лельч.].

3. Абрад хаджэння па хатах 14 студзеня і абсыпання хаты і гаспадароў зернем з пажаданнем дабрабыту. *На* ***засе'ўкі*** *калядоўшчыкі ходзяць у хаты, апсыпаюць зернем са словамі: "Сею, сею, засяваю, з Новым годам паздраўляю і здароўя жалаю!"* [Осаў Хойн.].

**ЗАСТРЫКА'ЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Затыкаць. *На Тройцу за вобразы* ***застрыка'лі*** *голінкі клёну і ліпу* [Чырвонабярэжжа Лельч.].

**ЗАХО'ДЗІЦЬ**, -у, -іш, -іць; *незак.* Надыходзіць, пачынацца (пра свята, дзень). *У нас говорылі, што кожнэ свято* ***захо'дзіць*** *звечэра* [Маркоўскае Лельч.]. *Ек Казанска* ***захо'дзіць****, не можно робіці* [Камаровічы Петрык.]. *Калі* ***захо'дзіць*** *субота, му ўжэ не робім* [Мялешкавічы Маз.].

**ЗБО'РОВА СУБО'ТА** *ж.* Субота на першым тыдні Вялікага поста. *Раней у* ***Збо'рову субо'ту*** *не ўчынялі хлеба* [Махнавічы Маз.].

**ЗВЕЗДА', ЗВЯЗДА'.** Атрыбут каляднай абраднасці ў выглядзе асветленай знутры зоркі, прымацаванай на высокім кіі.

ЗВЕЗДА' *ж. У нас шчодроўнікі ходзяць со* ***звездо'ю*** *і козою* [Буйнавічы Лельч.].

ЗВЯЗДА' *ж. На Шчадруху бралі сайкі, піражкі і са* ***звяздо'ю*** *хадзілі па хатах, песні пелі* [Слабаджанка Хойн.].

**ЗВЕЗДА'Р, ЗВЯЗДА'Р.** Той, хто носіць звязду ў час Каляд.

ЗВЕЗДА'Р *м. І цяпер ходзяць, калядуюць, звезду робяць. Надзяецца мушчына за козу, звезду носіць* ***звезда'р*** [Навасёлкі Петрык.].

ЗВЯЗДА'Р *м. На Шчадруху са звяздою ў клуб ходзіць* ***звязда'р*** [Слабаджанка Хойн.].

**ЗВЕСТАВА'ННЕ** *гл.* БЛАГАВЕ'ШЧАННЕ.

**ЗВІ'ЖЭННЕ** *гл.* УЗВІ'ЖАННЕ.

**ЗВЯЗДА'** *гл.* ЗВЕЗДА'.

**ЗВЯЗДА'Р** *гл.* ЗВЕЗДА'Р.

**ЗДВІ'ЖАННЯ** *гл.* УЗВІ'ЖАННЕ.

**ЗДВІ'ЖЭННЕ** *гл.* УЗВІ'ЖАННЕ.

**ЗДЗЮ′ЖЭННЕ** *гл.* УЗВІ′ЖАННЕ.

**З'Ю′ЖЭННЕ** *гл.* УЗВІ′ЖАННЕ.

**ЗЕ′ЛЬНАЯ** *гл.* ПРАЧЫ′СТАЯ ў знач. 1.

**ЗЕЛЬЯ′** *мн.* Зборы лекавых раслін. *У нас на Макавея свецяць **зелья′**, мак* [Грабаў Петрык.].

**ЗІМІ′ЦЕР** *гл.* ЗМІ′ЦЕР.

**ЗІМО′ВЫ Ю′РАЙ** *м. гл.* Ю′Р'Я.

**ЗІМО′ВЫ Ю′РЭЙ** *м.* Старажытнае веснавое свята народнага календара, якое адзначаецца 9 снежня. *Кажуць, колькі **зімо′вы Ю′рэй** снегу намеце, столькі жэ будзе пашы* [Прыбалавічы Лельч.].

**ЗМІ′ТАР** *гл.* ЗМІ′ЦЕР.

**ЗМІ′ТРАВЫ ДЗЯДЫ′, ЗМІ′ТРАЎСКАЯ СУБО′ТА**. Памінанне продкаў, якое праходзіць на Змітра – 8 лістапада.

ЗМІ′ТРАВЫ ДЗЯДЫ′ *мн. Гавораць, што **Змі′травы дзяды′** – самые галоўные* [Новыя Навасёлкі Калінк.]. *У суботу – **Змі′травы дзяды′**, а тады ўжо Змітар* [Прудок Маз.].

ЗМІ′ТРАЎСКАЯ СУБО′ТА *ж. У **Змі′траўскую субо′ту** обязацельно гатуем вечэру, успамінаем памерлых сваякоў* [Балажэвічы Маз.]. *У **Змі′траўскую субо′ту** на вечэру прасілі сваякоў, суседаў* [Крыўча Браг.].

**ЗМІ′ТРАЎСКАЯ СУБО′ТА** *гл.* ЗМІ′ТРАВЫ ДЗЯДЫ′.

**ЗМІТРО′** *гл.* ЗМІ′ЦЕР.

**ЗМІ′ЦЕР, ЗІМІ′ЦЕР, ЗМІ′ТАР, ЗМІТРО′**. Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 8 лістапада (28 кастрычніка ст. ст.); дзень наступлення халадоў.

ЗМІ′ЦЕР *м. Як прыйдзе **Змі′цер**, дык замерзнуць рэкі* [Балажэвічы Маз.]. *У нас гавораць: "Святы **Змі′цер** зямлю выцер, на груды пабіў і снег напусціў"* [Аляксандраўка Калінк.]. *Калі на **Змі′тра** снег падае, то зіма будзе снежная* [Буда-Сафіеўка Лельч.]. *Які **Змі′цер** прыйдзе, такія будуць і Каляды* [Казловічы Калінк.]. *Да **Змі′тра** дзеўка хітра, а пасля **Змі′тра** хоць анучай вытры* (прыказка) [Малейкі Браг.].

ЗІМІ′ЦЕР *м. **Зімі′цер** будзе восьмага, у лістападзе, а перад ім – дзедавая субота* [Буйнавічы, Лельчыцкі]. ***Зімі′цер**, кажуць, хіцер, ён сыноў жэніць, а дзеўкам перабіраць не дае* [Мялешкавічы, Мазырскі].

ЗМІ′ТАР *м. Було такое свято **Змі′тар**, не можно було ткаць і прасці, а цепер усё робім* [Мялешкавічы Маз.]. *Як пройдзе **Змі′тар**, дзеўкі замуж ужо не йдуць* [Глініца Маз.]. *Уперадзі ідуць дзеды, а тады – **Змі′тар*** [Загорыны Маз.].

ЗМІТРО′ *н. Колі **Змітро′**, тогды бацюшко ў цэркві поздроўляе тых, у кого буў бацько Змітр′о* [Града Жытк.]. *На **Змітро′** рэкі замерзаюць* [Баравое Лельч.].

**ЗНАХОРО′ЎСТВО, ЗНА′ХОРСТВО** *н.* Варажба.

ЗНАХОРО'ЎСТВО *н.* *Которы знае ўсё **знахоро'ўство**, той нікому не кажэ, колі пахаць начынае* [Чырвонабярэжжа Лельч.].

ЗНА'ХОРСТВО *н.* *Мой чоловек ведаў **зна'хорство**, дак да яго прывозілі і з городу хворых* [Буйнавічы, Лельчыцкі].

**ЗНА'ХОРСТВО** *гл.* ЗНАХОРО'ЎСТВО.

**ЗЮ'ЖЭННЕ** *гл.* УЗВІ'ЖАННЕ.

**З'Ю'ЖЭННЕ** *гл.* УЗВ'ІЖАННЕ.

**ЗЯЛЁНАЯ** *гл.* ПРАЧЫ'СТАЯ ў знач. 1.

**ЗЯЛЁНАЯ СУБО'ТА** *гл.* ДЗЕ'ДОВА СУБО'ТА.

# І

**ІВА'Н БАГАСЛО'Ў** *гл.* БАГАСЛО'Ў.

**ІВА'Н БОГОСЛО'Ў** *гл.* БАГАСЛО'Ў.

**ІВА'Н БОГУСЛА'Ў** *гл.* БАГАСЛО'Ў.

**ІВА'Н ВЕ'ДЗЬМІН** *гл.* КУПА'ЛА.

**ІВА'Н ВЯДЗЁМСКІ** *гл.* КУПА'ЛА.

**ІВА'Н ГОЛОВОСЕ'К** *гл.* ГАЛАВАСЕ'К.

**ІВА'Н КАЛІ'НАВІК** *гл.* КАЛІ'НАВІК.

**ІВА'Н КАЛІ'ННІК** *гл.* КАЛІ'НАВІК.

**ІВА'Н КУПА'ЙЛА** *гл.* КУПА'ЛА ў знач. 1.

**ІВА'Н КУПА'ЙЛО** *гл.* КУПА'ЛА ў знач. 1.

**ІВА'Н КУПА'ЛА** *гл.* КУПА'ЛА. ў знач. 1.

**ІВА'Н КУПА'ЛНЫ** *гл.* КУПА'ЛА ў знач. 1.

**ІВА'Н КУПА'ЛО** *гл.* КУПА'ЛА ў знач. 1.

**ІВА'Н КУПА'ЛЬНЫ** *гл.* КУПА'ЛА ў знач. 1.

**ІВА'Н ЛЕ'ТНІ** *гл.* КУПА'ЛА ў знач. 1.

**ІВА'Н МІ'ЛОСЦІВЫ** *м.* Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 25 лістапада (12 лістапада ст. ст.); дзень выказвання добрых, велікадушных, прыязных адносін. *На **Іва'на Мі'лосціва** не можно обіжаць кого-небудзь* [Чырвонабярэжжа Лельч.]. *На **Іва'на Мі'лосціва** ходзімо до хворых, молімса за іх* [Града Жытк.].

**ІВА'Н ПАКРО'ЎНЫ** *гл.* БАГАСЛО'Ў.

**ІВА'Н ПЕТРО'ЎСКІ** *гл.* КУПА'ЛА ў знач. 1.

**ІВА'Н ПОКРО'ЎНЫ** *гл.* БАГАСЛО'Ў.

**ІВА'Н ПЯТРО'Ў** *гл.* КУПА'ЛА ў знач. 1.

**ІВА'Н ПЯТРО'ЎСКІ** *гл.* КУПА' ЛА ў знач. 1.

**ІВА'Н ПЯТРО'ЎЧАНЫ** *гл.* КУПА'ЛА ў знач. 1.

**ІВА'Н** *гл.* КУПА'ЛА ў знач. 1.

**ІЛЛЯ', ІЛЬЯ', ЛЬЯ, ЛЛЯ**. Свята народнага календара, якое адзначаецца 2 жніўня (20 ліпеня ст. ст.) і з'яўляецца мяжой паміж летам і восенню. Адметнае дажджамі і навальніцамі, што пачынаюцца ў гэты час пасля летняй спёкі.

ІЛЛЯ′ *м. На **Іллю′** пойдзе дождж* [Букча Лельч.]. *На **Іллю′** напекла хрушчыкаў поўна рэшата* [Хвойнае Хойн.]. *Поба, ужэ дождж збіраецца на **Іллю*** [Ляскавічы Петрык.]. *У етум годзі на **Іллю′** не було даждджу* [Замошша Лельч.]. *Да **Іллі′** зрабі ўсё даладу, тады ідзі гуляць* [Юркавічы Браг.]. *Така погода стоіць на **Іллю′**, і старые, і малые повуходзілі* [Верасніца Жытк.]. *Пойдзем заўтра на **Іллю′*** [Карма Ельск.]. ***Ілля′** лето кончае* [Слабада Маз.]. *На **Іллю′** суседка частавала* [Крушнікі Маз.]. *Мой сусед помёр на **Іллю′*** [Ляскавічы Петрык.]. *На **Іллю′** адзеўся Іван, сарочку патперазаў, тай пашоў па вуліцы* [Карчовае Хойн.]. *Хай дачка ідзе замуж на **Іллю′**, кеб толькі добра було ўсё* [Каманоў Браг.].

ІЛЬЯ′ *м. Да **Ільі′** трэбо сено звозіць* [Дуброўнае Браг.]. *На **Ілью′** прыходзіла вятроўка* [Смятанічы Петрык.]. *Вецер зломаў дзве яблуні на **Ілью′*** [Зімовая Буда Маз.]. *І ўчора ходзілі да суседа на **Ілью′**, і сегонні зноў пойдзем* [Казловічы Калінк.]. *Колісь до нас прыходзілі й хлопцы на **Ілью′** гуляць* [Курыцічы Петрык.].

ЛЬЯ. *На **Лью** дзень убаўляецца* [Хвойнае Хойн.]. ***Лья** бувае ек жыто ўжо жнуць* [Вубалаць Калінк.].

ЛЛЯ. *На **Ллю** мекіны нагрэбу* [Кротаў Калінк.].

**ІЛЬЯ′** *гл.* ІЛЛЯ′ .

**ІСПА′С** *гл.* СПАС.

**ІСПА′САЎКА** *гл.* СПА САЎКА.

# К

**КАЗА′, КОЗА′**. 1. Хлопец, які выконвае ролю “казы”, што сімвалізуе ўрадлівасць, дастатак, багацце. *Хлопца перэдзевалі ў **казу′**: надзевалі вувернуты кажух, прыв'язвалі бораду, рогі, хвост з саломы. Ета **каза′** ужэ і падскоквала, тупала, біласа рожкамі, просіла есці, тоды давалі ўсім коляднікам коўбасы, сало, канфеты, грошы* [Махнавічы Маз.].

2. Маска з выявай казы. *У нас **козу′** робяць з дошчэчок, накідаюць на іх кожух выворочаны, прыкручваюць рогі з лозін – і коза на кіі* [Чырвонабярэжжа Лельч.].

**КАЗА′НСКА** *гл.* КАЗА′НСКАЯ.

**КАЗА′НСКА БОГОРО′ДЗІЦА** *гл.* КАЗА′ НСКАЯ.

**КАЗА′НСКА БО′ЖОЙ МА′ТЭРЫ** *гл.* КАЗА′НСКАЯ.

**КАЗА′НСКАЯ БОГОРО′ДЗІЦА** *гл.* КАЗА′НСКАЯ.

**КАЗА′НСКАЯ, КАЗА′НСКА; КАЗА′НСКА БОГОРО′ДЗІЦА, КАЗА′НСКА БО′ЖОЙ МА′ТЭРЫ, КАЗА′НСКАЯ БОГОРО′ДЗІЦА.** Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 4 лістапада (22 кастрычніка ст. ст.) і адметны шлюбнай варажбой, вяселлямі, метэаралагічнымі назіраннямі.

КАЗА'НСКАЯ *ж. Раней обязацельно молодые ішлі пад венец на **Каза'нскую*** [Казловічы, Калінкавіцкі]. *На **Каза'нскую** веселлі робілі, тады жэніх з невестою будуць дужэ шчаслівые* [Мялешкавічы Маз.].

КАЗА'НСКА *ж. Говораць, на **Каза'нску** Богородзіца ў Казані яўляласа тры разы* [Баравое Лельч.]. *На **Каза'нску** ўжэ можэ ісці дошч і з с'негом* [Чырвонабярэжжа Лельч.].

КАЗА'НСКА БОГОРО'ДЗІЦА *ж. На **Каза'нску Богоро'дзіцу** не можно робіці* [Камаровічы, Пертыкаўскі].

КАЗА'НСКА БО'ЖОЙ МА'ТЭРЫ *ж. **На Каза'нску Бо'жой Ма'тэры** ходымо ў цэркоў моліцца той іконэ* [Града Жытк.].

КАЗА'НСКАЯ БОГОРО'ДЗІЦА *ж. На **Каза'нскую Богоро'дзіцу** усегда іду ў цэркоў, молюса* [Турцэвічы Калінк.].

**КАЛЕДА', КАЛЕ'НДЫ, КОЛЕДА'.** Сяткі ад Ражаства да Крашчэння.

КАЛЕДА' *адз. На **Каледу'** хлопцы бегуць шчэдруваці* [Валаўск Ельск.].

КАЛЕ'НДЫ *мн. На **Кале'нды** буў мороз такі добры* [Мікулічы Браг.]. *На еты **Кале'нды** земля замерзла без снегу* [Каманоў Браг.].

КОЛЕДА' *адз. На **Коледу'** куццю вараць* [Галубіца Петрык.].

**КАЛЕДО'ЎШЧЫКІ** *гл.* КАЛЯ'ДНІКІ.

**КАЛЕ'НДЫ** *гл.* КАЛЕДА'.

**КАЛІ'НА** *ж.* Ягады каліны. *На Калінавіка збіраюць **калі'ну**, тады п'юць, коб не болела голова* [Мікулічы Браг.].

**КАЛІ'НАВІК, КАЛІ'ННІК; ІВА'Н КАЛІ'НАВІК, ІВА'Н КАЛІ'ННІК.** Народнае свята, якое адзначаецца 11 верасня (29 верасня ст. ст.) і звязваецца з выспяваннем пладоў каліны.

КАЛІ'НАВІК *м. На **Калі'навіка** ломалі каліну і варылі з ее кашу, говораць, не будзе болець голова* [Даманавічы Калінк.].

КАЛІ'ННІК *м. На **Калі'нніка** пачынаюць збіраць ягады каліны* [Крукавічы Калінк.].

* ІВА'Н КАЛІ'НАВІК *м. На **Іва'на Калі'навіка** з каліны варылі кісель і пілі его, каб не булела голова* [Гарочычы Калінк.]. *На **Іва'на Калі'навіка** дзеўкі косы не расчэсваюць, каб волосы не секліса* [Паселічы Хойн.].

* ІВА'Н КАЛІ'ННІК *м. На **Іва'на Калі'нніка** трэ жыто засеваці, добрэ будзе* [Юркавічы Браг.].

**КАЛІ'ННІК** *гл.* КАЛІ'НАВІК.

**КАЛЯДАВА'ЦЬ, КОЛЕДОВА'ЦЬ, ШЧОДРОВА'ЦЬ, ШЧЭДРОВА'ЦІ, ШЧЭДРУВА'ЦІ.** Хадзіць па дварах з велічальна-віншавальнымі песнямі.

КАЛЯДАВА'ЦЬ, *-ю, -еш, -е; незак. Заходзяць ў хату і **каляду'юць**, ды так прыгожа* [Васькаўка Маз.].

КОЛЕДОВА'ЦЬ, *-ю, -еш, -е; незак. І ў етум годзі **коледова'ць** будом* [Маркоўскае Лельч.].

ШЧОДРОВА'ЦЬ, *-ю, -еш, -е; незак. У нас **шчодру'юць** – тое, што коледуюць* [Буйнавічы Лельч.].

ШЧЭДРОВА'ЦІ, *-ю, -еш, -е; незак. Заўтрэ пойдэмо шчэдроваці* [Хачэнь Жытк.].

ШЧЭДРУВА'ЦІ, *-ю, -еш, -е; незак. Увечэры ходзьмо **шчэдруваці*** [Навасёлкі Петрык.].

**КАЛЯ'ДКІ, КОЛЯ'ДКІ**. Традыцыйны калядны абрад абходу двароў з велічальна-віншавальнымі песнямі.

КАЛЯ'ДКІ *мн. У нас на **каля'дкі** па хатах хадзілі і старые, і малые, песні пелі* [Васькаўка Маз.].

КОЛЯ'ДКІ *мн. На **коля'дкі** водзілі козу, звезду носілі* [Буйнавічы Лельч.].

**КАЛЯ'ДНІКІ, КАЛЕДО'ЎШЧЫКІ, КОЛЯ'ДНІКІ, ШЧАДРАВА'ЛЬНІКІ, ШЧОДРО'ЎНІКІ, ШЧЭДРО'ЎШЧЫКІ, ШЧЭДРЭЦЫ'**. Тыя, хто выконвае традыцыйны абрад абходу двароў з велічальна-віншавальнымі песнямі.

КАЛЯ'ДНІКІ *мн. **Каля'днікам** усегда даем каўбасу і грошы* [Бібікі Маз.].

КАЛЕДО'ЎШЧЫКІ *мн. Цепер вечарам прыйдуць **каледо'ўшчыкі,** трэба іх прыняць добра* [Хамічы Калінк.].

КОЛЯ'ДНІКІ *мн. У нас **коля'днікі** ўсегда козу з собою водзяць* [Смалегаў Нараўл.].

ШЧАДРАВА'ЛЬНІКІ *мн. У калядны вечэр не можно замукацца і вугоняць **шчадрава'льнікаў*** [Крукавічы Калінк.].

ШЧОДРО'ЎНІКІ *мн. **Шчодро'ўнікі** прыйшлі* [Буйнавічы Лельч.].

ШЧЭДРО'ЎШЧЫКІ *мн. На Стары Новуй год пойдуць **шчэдро'ўшчыкі*** [Хачэнь Жытк.].

ШЧЭДРЭЦЫ' *мн. У нас несуць звезду **шчэдрэцы'** і козу, бувае, ведуць* [Навасёлкі Петрык.].

**КАЛЯ'ДЫ, КО'ЛЕДЫ, КО'ЛЯДЫ, ШЧАДРО', ШЧО'ДРЫ**.

1. Зімовае свята народнага календара, якое адзначаецца 7 студзеня (25 снежня ст. ст.), адметнае багатым комплексам абраднасці, варажбой.

КАЛЯ'ДЫ *мн. У **Каля'ды** бувае пурга і снегу много* [Крукавічы Калінк.].

КО'ЛЕДЫ *мн. У **Ко'леды**, колі родзіўса Ісус, тоды загорэласа на небе зорка* [Завайць Нараўл.].

КО'ЛЯДЫ *мн. У тые **Ко'ляды** буў страшны мароз* [Загорыны Маз.].

ШЧАДРО' *н. **Шчадро'** ці Коляды – одно* [Буйнавічы Лельч.].

ШЧО'ДРЫ, *мн. **Шчо'дры** – ето Коляды* [Буйнавічы Лельч.].

2. Перыяд ад Ражаства да Вадохрышча.

КАЛЯ'ДЫ *мн. У **Каля'ды** бабэ не ткуць* [Гарбавічы Калінк.]. *У **Каля'ды** шчадруюць* [Амелькаўшчына Хойн.].

КО'ЛЕДЫ, *мн. У **Ко'леды** дзеўкі ворожаць* [Канатоп Нараўл.].

КО'ЛЯДЫ *мн. На **Ко'ляды** прыходзяць пуд вокна* [Буда-Сафіеўка Лельч.]. *На **Ко'ляды** варылі куццю* [Валаўск Ельск.]. *На **Ко'ляды** му збіраліса до мацеры* [Зімовая Буда Маз.].

**КАРО'ВЯЧЫ ЎЛАС** *гл.* АЎЛА'С.

**КАЦЕРЫ'НЫ** *гл.* КАЦЯРЫ'НЫ.

**КАЦЯРЫ'НА-СА'ННІЦА** *гл.* КАЦЯРЫ'НЫ.

**КАЦЯРЫ'НЫ, КАЦЕРЫ'НЫ; КАЦЯРЫ'НА-СА'ННІЦА, СВЕТО'Е КАТЭРЫ'НЫ**. Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 7 снежня (24 лістапада ст. ст.); дзень пачатку зімы, адметны варажбой, метэаралагічнымі назіраннямі.

КАЦЯРЫ'НЫ *мн. Колісь на **Кацяры'ны** дзяўчаты варажылі: пеклі аладку, хавалі пад падушку, а той, хто ў сне прыйдзе за аладкою, той і е суджаны* [Загорыны Маз.].

КАЦЕРЫ'НЫ *мн. У нас на **Кацеры'ны** почыналі катацца на конях з санкамі, на санках* [Прыбалавічы Лельч.]. *На **Кацяры'ны** дні булі кароткія і з снегум* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

КАЦЯРЫ'НА-СА'ННІЦА *ж. У нас говорылі **Кацяры'на-са'нніца**, етэ ж і е Кацерыны. У еты дзень було много снегу, і ўсе вывозілі санкі, хто куды ездзіў на санках – таму і **Кацяры'на-са'нніца*** [Мялешкавічы Маз.].

* СВЕТО'Е КАТЭРЫ'НЫ. *Е і цепер такі празнік – **Свето'е Катэры'ны*** [Града Жытк.]. *На **Свето'е Катэры'ны** му ходымо ў цэркоў, молымоса, споведаемоса* [Града Жытк.].

**КЛЕНОВА' СУБО'ТА** *гл.* ДЗЕ'ДОВА СУБО'ТА.

**КЛЁН** *м.* Галінкі клёна, якімі ўпрыгожваюць хаты, падвор'і на Сёмуху (Тройцу). *На Тройцу **клёна** вешаюць, хто ў хаце, у цэркві тожэ* [Буйнавічы Лельч.].

**КОЗА'** *гл.* КОЗА' ў знач. 2.

**КОЛЕДА'** *гл.* КАЛЕДА'.

**КОЛЕДА'** I *ж.* 1. Калядны гасцінец дзецям. *На Роздво усегда готуем **коледу'** доццэ* [Маркоўскае Лельч.].

2. Пачастунак гаспадара каляднікам. *У етум годзе **коледу'** нікому не давалі* [Мялешкавічы Маз.].

**КОЛЕДОВА'ЦЬ** *гл.* КАЛЯДАВА'ЦЬ.

**КО'ЛЕДЫ** *гл.* КАЛЯ'ДЫ ў знач. 1. 2.

**КОЛО'ДА** *ж.* Атрыбут забаў на Масленіцу. *Калі хлопец не поспеў узяць дзеўку за себе до Масленіцы, то повесяць **коло'ду** ему на Масленіцу* [Буйнавічы Лельч.].

**КОЛЯДА'** II *ж.* Песня калядніkaў. *У нас і малые ўмеюць пець **коляду'*** [Махнавічы Маз.]. *Прыбегуць дзеўкі і пеюць **коляду'*** [Багуцічы Ельск.].

**КОЛЯ'ДКІ** *гл.* КАЛЯ'ДКІ.

**КОЛЯ′ДНІКІ** *гл.* КАЛЯ′ДНІКІ.

**КО′ЛЯДЫ** *гл.* КАЛЯ′ДЫ ў знач. 1. 2.

**КРА′СНА СУБО′ТА** *гл.* КРА′СНАЯ СУБО′ТА.

**КРА′СНАЯ СУБО′ТА, КРА′СНА СУБО′ТА**. Субота перад Вялікаднем (Паскай).

КРА′СНАЯ СУБО′ТА, *жс. **Кра′сная субо′та**, таму што красяць ейцэ ў краснае шалупкамі ат цыбулі* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

КРА′СНА СУБО′ТА *жс. Субота перэд Вэліконнем зоўецца **Кра′сна субо′та*** [Града Жытк.]. *У **Кра′сну субо′ту** му ўжэ свецім паску, ейцэ, соль* [Чырвонабярэжжа Лельч.]. *Перэд Веліконнем у **Кра′сну субо′ту** цыбулю садзім* [Камаровічы Петрык.].

**КРАШЧЭ′ННЕ** *гл.* ВАДО′ХРЫШЧЭ.

**КРЭПАКІ′** *мн.* Драўляныя яйца, зробленыя для гульні ў біткі на Вялікдзень. *На Веліконне мушчыны гуляюць у біткі, падстройваюць, каб **крэпака′мі** біць, а тогды пачнуць сварыцца* [Грабаў Петрык.].

**КРЭСЦІ′ЦЕЛІ** *гл.* КРЭСЦІ′ЦЕЛЬ.

**КРЭСЦІ′ЦЕЛЬ, КРЭСЦІ′ЦЕЛІ; ХРЭСЦІ′ЦЕЛЬ ГОСПО′ДНЫ**. Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 20 студзеня; дзень заканчэння калядных свят.

КРЭСЦІ′ЦЕЛЬ *м. **Крэсці′цель** бувае пасле Водохрышча* [Баравое Лельч.]. *На **Крэсці′целя** робім провады Каляд* [Бывалькі Лоеўск.].

КРЭСЦІ′ЦЕЛІ *мн. Вадохрышчэ пройдзе, а тады будуць **Крэсці′целі*** [Махнавічы Маз.].

* ХРЭСЦІ′ЦЕЛЬ ГОСПО′ДНЫ *м. Прыйдэ **Хрэсці′цель Госпо′дны**, а му вугоняймо Коледу* [Сяменча Жытк.].

**КРЭШЧЭ′ННЕ** *гл.* ВАДО′ХРЫШЧЭ.

**КРЭШЧЭ′ННЬЕ** *гл.* ВАДО′ХРЫШЧЭ.

**КУЗЬМА′ І ДЗЕМ′Я′Н** *гл.* КУЗЬМА′ І ДЗЯМ′Я′Н.

**КУЗЬМА′ І ДЗЯМ′Я′Н, КУЗЬМА′ І ДЗЕМ′Я′Н, КУЗЬМА′-ДЗЯМ′Я′Н, КУЗЬМА′-ДЗЕМ′Я′Н, КУЗЬМА′-ДЗЕМЯ′Н, КУЗЬМА′-ЗЕМЯ′Н**. Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 14 лістапада (1 лістапада ст. ст.); свята кавалёў, шаўцоў.

КУЗЬМА′ І ДЗЯМ′Я′Н. *За Параскімкай – **Кузьма′ і Дзям′я′н*** [Навасёлкі, Хойніцкі]. *Колісь було свято – **Кузьма′ і Дзям′я′н*** [Мікулічы Браг.].

КУЗЬМА′ І ДЗЕМ′Я′Н. *Перэд Міхайлом – **Кузьма′ і Дзем′я′н*** [Камаровічы Петрык.].

КУЗЬМА′-ДЗЯМ′Я′Н. *На **Кузьму′-Дзям′я′на** не прадуць* [Паселічы Хойн.].

КУЗЬМА′-ДЗЕМ′Я′Н. *Колісь на **Кузьму′-Дзем′я′на** хлопцы ішлі ў армію* [Завайць Нараўл.].

КУЗЬМА′-ДЗЕМЯ′Н. *Той не будзе голонной смерцю поміраці, хто будзе посціць у пятніцу перэд **Кузьма-Дземян*** [Маркоўскае Лельч.].

КУЗЬМА'-ЗЕМЯ'Н. *Святко **Кузьма'-Земя'н** було такое, а цепер его мало хто знае* [Казловічы Калінк.]. ***Кузьма'-Земя'н** було свята кавалёў* [Лукі Калінк.].

**КУЗЬМА'-ДЗЕМ'Я'Н** *гл.* КУЗЬМА' І ДЗЯМ'Я' Н.

**КУЗЬМА'-ДЗЕМЯ'Н** *гл.* КУЗЬМА' І ДЗЯМ'Я'Н.

**КУЗЬМА'-ДЗЯМ'Я'Н** *гл.* КУЗЬМА' І ДЗЯМ'Я'Н.

**КУЗЬМА'-ЗЕМЯ'Н** *гл.* КУЗЬМА' І ДЗЯМ'Я'Н.

**КУМІ'ЦЦА** *незак.* Устанаўліваць сяброўскія, прыязныя адносіны паміж дзяўчатамі. *Раней на Тройцу **кумі'ліса*** [Ляскавічы Петрык.].

**КУМЛЕ'ННЕ** *н.* Старажытны абрад устанаўлення прыязных адносін, які праводзіцца ў час Сёмухі (Тройцы) або Юр'я. *У нас, бувала, весной, на Сёмуху ці Юр'е, усегда **кумле'нне** заводзілі* [Казловічы Калінк.].

**КУПА'ЙЛА** *гл.* КУПА' ЛА ў знач. 1, 2.

**КУПА'ЙЛО**[1] *гл.* КУПА'ЛА ў знач. 1, 2.

**КУПА'ЙЛО**[2] *н. гл.* КУПА'ЛЬНОЕ ВО'ГНІШЧА.

**КУПА'ЛА** *гл.* КУПА'ЛА ў знач. 3.

**КУПА'ЛА, КУПА'ЛО, КУПАЙЛА, КУПА'ЙЛО, КУПА'ЛЛЕ, КУПА'ЛЬНО, КУПА'ЛА; ІВА'Н, ІВА'Н ВЕ'ДЗЬМІН, ІВА'Н ВЯДЗЁМСКІ, ІВА'Н КУПА'ЛА, ІВА'Н КУПА'ЛО, ІВА'Н КУПА'ЙЛА, ІВА'Н КУПА'ЙЛО, ІВА'Н КУПА'ЛЬНЫ, ІВА'Н ЛЕТНІ, ІВА'Н ПЕТРО'ЎСКІ, ІВА'Н ПЯТРО'Ў, ІВА'Н ПЯТРО'ЎСКІ, ІВА'Н ПЯТРО'ЎЧАНЫ, КУ'ПАЛЬ ІВА'Н.**

1. Старажытнае аграрна-земляробчае абрадавае свята, якое прымяркоўвалася да летняга сонцастаяння і адзначалася з 6 ліпеня на 7 ліпеня (з 23 чэрвеня на 24 чэрвеня ст. ст.), адметнае абрадамі, павер'ямі, варажбой.

КУПА'ЛА *н. Сёні **Купала*** [Ямнае Калінк.]. *Колісь на **Купа'лу** хлопцы ідуць і песні спеваюць* [Веляцін Хойн.]. *Гавораць, што на **Купа'лу** нельга нікому позычаці* [Тульгавічы Хойн.]. *У етум месці дзеўкі венкі пускаюць на **Купа'лу*** [Аляксандраўка Калінк.].

КУПА'ЛО *н. Дзеўкі венкі плетуць на **Купа'ло*** [Смалегаў Нараўл.]. *На **Купа'ло** дзеўкі ворожаць на чоловека* [Глушкавічы Лельч.].

КУПА'ЙЛА *н. На **Купа'йла** дзеці прыедуць* [Барбароў Маз.].

КУПА'ЙЛО *н. На **Купа'йло** бегуць у лес па кветкі* [Галубіца Петрык.]. *Усе ведзьмы выходзяць на **Купа'йло*** [Малешаў Жытк.]. *Ек ідзе **Купа'йло**, дак усё добро ховай* [Вербавічы Нараўл.].

КУПА'ЛЛЕ *н. На **Купа'лле** пачыналі купацца ў вадзе і расе* [Глінішча Хойн.].

КУПА'ЛЬНО *н. **Купа'льно** бувае сёмого юля, шо купаюцца да венкі на воду кідаюць* [Прыбалавічы Лельч.].

ІВА'Н *м. З суседкой хадзілі ў лес на **Іва'на*** [Крыўча Браг.]. *Не йдзі одна ў лес на **Іва'на**, а то заблудзіш* [Вялікія Аўцюкі Калінк.]. *На **Іва'на** крапіву затыкаюць у хляве, каб ведзьмы не адабралі молоко ў скаціны*

[Навасёлкі Калінк.]. *На **Іва'на** столькі кветак жоўтых цвіце* [Карчовае Хойн.]. *Ек на **Іва'на** будзе много зорок на небе – будзе много грыбоў* [Завайць Нараўл.].

* ІВА'Н ВЕ'ДЗЬМІН *м.* ***Іва'н Ве'дзьмін** ідзе – зачыняй вароты* [Аляксандраўка Калінк.].

* ІВА'Н ВЯДЗЁМСКІ *м. На **Іва'на Вядзёмскага** ведзьмы выходзяць* [Крыўча Браг.].

* ІВА'Н КУПА'ЛА *м. На **Іва'на Купа'ла** дзеўкі і хлопцы збіраліса і клалі костры* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

* ІВА'Н КУПА'ЛО *м.* ***Іва'н Купа'ло** называлі свято* [Мялешкавічы Маз.].

* ІВА'Н КУПА'ЙЛА *м. У нас была баба, дак ана на **Іва'на Купа'йла** ходзіла ў лес прыробляць* [Мялешкавічы Маз.].

* ІВА'Н КУПА'ЙЛО *м. Ек прыдзе **Іва'н Купа'йло**, дак бацько не можэ отыйці от коровы, гледзіць, кеб ведзьма не звела* [Аўрамаўская Хойн.]. ***Іван Купа'йло** хворобы гоіць* [Юравічы Калінк.]. *На **Купа'йло Іва'на** не позычай нічого* [Валаўск Ельск.].

* ІВА'Н КУПА'ЛЬНЫ *м. На **Купа'льного Іва'на** бабы з лесу ідуць да песні пеюць* [Махнавічы Маз.]. ***Купа'льны Іва'н** – свято, ды ўсё робім* [Алексічы Хойн.].

* ІВА'Н ЛЕТНІ *м.* ***Іва'н Ле'тні** е перат Пятром* [Аляксандраўка Калінк.].

* ІВА'Н ПЕТРО'ЎСКІ *м. На **Петро'ўскаго Іва'на** дзеўкі жоўту кветку шукаюць* [Казловічы Калінк.].

* ІВА'Н ПЯТРО'Ў *м. На **Іва'на Пятро'ва** дзеўкі венкі плетуць* [Ляскавічы Петрык.].

* ІВА'Н ПЯТРО'ЎСКІ *м.* ***Пятро'ўскі Іва'н** – е такое свято* [Юркавічы Браг.].

* ІВА'Н ПЯТРО'ЎЧАНЫ *м. Увечары спраўляемо **Пятро'ўчаного Іва'на*** [Капцэвічы Петрык.].

* КУ'ПАЛЬ ІВА'Н *м. Прыйдзе **Ку'паль Іва'н** – соўнейко купаецца* [Вятчын Жытк.].

2. Ігрышча ў ноч на Івана Купалу.

КУПА'ЛА *н. Мой хлопец шчэ не хадзіў на **Купа'лу*** [Зарэчча Брагі.]. *Дзеўкі зовуць на **Куп'алу*** [Балажэвічы Маз.].

КУПА'ЛО *н. Я не пошла п на **Купа'ло**, коб ён за мной не зайшоў* [Ліснае Лельч.]. *Унека побеглі твое на **Купало*** [Азяраны Жытк.].

КУПА'ЙЛА *н. Як пашоў зрання на **Купа'йла**, дак і дацюль нема* [Загалле Хойн.]. *У нас на **Купа'йла** спеваюць петроўкі* [Гарбавічы Калінк.].

КУПА'ЙЛО *н. Як хто на **Купа'йло** не прыйшоў, нехай его прыкопаюць* [Мялешкавічы Маз.].

КУПА'ЛЛЕ *н. Дакуль ты будзеш кубліцца ў хаці, на **Купа'лле** ўсе пошлі* [Валаўск Ельск.]. На ***Купа'лле** дзеўкі вышлі ў венках* [Гарбавічы Калінк.]. *У нас на **Купа'лле** гуляюць у Марусіначку, гульня такая е, як вяселле* [Ужынец Калінк.].

3. Персанаж у вобразе дзяўчыны.

КУПА'ЛА *ж. У нас **Купа'лу** выбіраюць, веночак звіваюць і ёй на голову напранаюць* [Каманоў Браг.]. *Пад вечар **Купа'ла** ў селе кветкі раздае* [Небытаў Хойн.]. *Бувала, усе бегуць гледзець на **Купа'лу*** [Катловіца Браг.].

**КУПА'ЛАВА НОЧ** *гл.* КУПА'ЛЬНАЯ НОЧ.

**КУПА'ЛІШ** *м.* Персанаж у вобразе хлопца. *Колісь, бувало, едзе **Купа'ліш** на коніку і дзевоньку вугледае і до себе зове* [Глініца Маз.]. ***Купа'ліш** буў мой сын, ек пакупаўса, дак застудзіў ногу, цепер покульгвае* [Малешаў Жытк.]. *Кажуць, **Купа'ліш** з Купалкою ў лес бегаюць удвоіх на Купалу* [Загорыны Маз.].

**КУПА'ЛКА** *памянш.-ласк.* да КУПА'ЛА ў знач. 3. *Ек **Купа'лка** йдзе, дак усе хлопцы вубегаюць* [Скалодзін Маз.]. *Ко мне прыходзіла суседка, казала **Купа'лкою** будзе* [Смятанічы Петрык.]. *Погледзі, собралоса много хлопцаў, а **Купа'лка** одного шукае* [Дзёрнавічы Нараўл.].

**КУПА'ЛЛЕ** *гл.* КУПА'ЛА ў знач. 1, 2.

**КУПА'ЛО** *гл.* КУПА'ЛА ў знач. 1.

**КУПА'ЛОВА НОЧ** *гл.* КУПА'ЛЬНАЯ НОЧ.

**КУ'ПАЛЬ ІВА'Н** *гл.* КУПА'ЛА ў знач. 1.

**КУПА'ЛЬНА НОЧ** *гл.* КУПА'ЛЬНАЯ НОЧ.

**КУПА'ЙЛО[2], КУПА'ЛЬНАЕ ВО'ГНІШЧА, КУПА'ЛЬНЫ ОГО'НЬ, ПАЖА'РЫШЧА.** Вогнішча са старых рэчаў, паношанай вопраткі, якое раскладаецца ў купальскую ноч і валодае вялікай ачышчальнай сілай.

КУПА'ЙЛО[2] *н. Сонцэ заходзіць – **купа'йло** разложым* [Мялешкавічы Маз.]. *На Івана Купального раскладалі **купа'йло*** [Буйнавічы Лельч.].

КУПА'ЛЬНАЕ ВО'ГНІШЧА *н. **Купа'льнае во'гнішча** хлопцы рабілі дзесьці на беразе рэчкі ці каля жыта* [Загорыны Маз.]. *Гавораць, хто пераскочэ праз **купа'льнае во'гнішча**, той не будзе хворэць* [Васькаўка Маз.].

КУПА'ЛЬНЫ ОГО'НЬ *м. Калі той, хто хворэе, попаліць на **купа'льным огні'** свое зношаны рэчы, у того атыдзе хвороба* [Завайць Нараўл.]. *Вакол **купа'льного огню'** дзеўчаткі ў корогоды беруцца* [Маркоўскае Лельч.].

ПАЖА'РЫШЧА *н. На Івана Купального пойдам **пажа'рышча** рабіць* [Вятчын Жытк.].

**КУПА'ЛЬНАЯ НОЧ, КУПА'ЛЬНА НОЧ, КУПА'ЛАВА НОЧ, КУПА'ЛОВА НОЧ.** Ноч напярэдадні Івана Купалы.

КУПА'ЛЬНАЯ НОЧ *ж. У **купа'льную ноч** паляць агонь* [Івашкавічы Петрык.].

КУПА'ЛЬНА НОЧ *ж. У **купа'льну ноч** злёталіса ведзьмы* [Буйнавічы Лельч.].

КУПА'ЛАВА НОЧ *ж. Кажуць, у **купа'лаву ноч** страхоцце на людзей находзіць* [Валаўск Ельск.].

КУПА'ЛОВА НОЧ *ж. Мой чоловек бачыў, ек у **купа'лову ноч** русаўка стояла коло самое воды, дак спужаўса сільнэ* [Пагоннае Жытк.].

**КУПА'ЛЬНО** *гл.* КУПА'ЛА ў знач. 1.

**КУПА'ЛЬНЫ ОГО'НЬ** *гл.* КУПА'ЛЬНАЕ ВО'ГНІШЧА.

**КУПОВА'ЦЬ** *незак.* Купляць. *Цепер усе **купу'юць** рушнікі, не ткуць ужэ* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**КУЦЦЯ' СВЯТО'ГА КО'ЗЛІКА** *гл.* ДРУГА'Я КУЦЦЯ'.

**КУЦЦЯ', КУЦЬЯ', КУЦЯ'.** 1. Абрадавая страва, прыгатаваная з круп.

КУЦЦЯ' *ж. Колісь **куццю'** елі ў час вечэры пeрэд Колядамі, Новым годам, Водохрышчам* [Грабаў Петрык.]. *На **куццю'** звалі своіх* [Азяраны Жытк.].

КУЦЬЯ' *ж. На **куцью'** зоўём: "Мороз, мороз! Ходзі **куцью'** есці"* [Сямурадцы Жытк.]. *На Коляды робілі **куцью'*** [Канатоп Нараўл.].

КУЦЯ'*ж. **Куцю'**, бувало, вараць і з адных круп* [Канатоп Нараўл.].

2. Навячэр'е Раства Хрыстова'.

КУЦЦЯ' *ж. Пeрэд Рождвом **куцця'*** [Васькаўка Маз.]. *Шостае – **куцця'*** [Навасёлкі Хойн.].

КУЦЬЯ' *ж. **Куцья'** бувае пeрэд Рождвом* [Града Жытк.].

КУЦЯ' *ж. На Коляды робілі **куцю'*** [Канатоп Нараўл.].

**КУЦЬЕВА'ЦЬ** *незак.* Есці. *Куцью звараць і стаўляць у куток на сено і тогды садзяцца за стол і зовуць: "Мороз, мороз! Ходзі куцью **куцьева'ць**, штоб на лету ў нас не буваць!"* [Навасёлкі Петрык.].

**КУЦЬЯ'** *гл.* КУЦЦЯ' ў знач. 1, 2.

**КУЦЯ'** *гл.* КУЦЦЯ' ў знач. 1. 2.

# Л

**ЛА'ДКА** *ж.* Аладка. *А мы пеком усегда то блінцы, то **ла'дкі** на ўсе празнікі* [Гурыны Маз.].

**ЛЕКСЕ'Й** *гл.* АЛЯКСЕ'Й.

**ЛЛЯ** *гл.* ІЛЛЯ' .

**ЛЬЯ** *гл.* ІЛЛЯ' .

**ЛЯКСЕ'Й** *гл.* АЛЯКСЕ'Й.

**ЛЯКСЕ'Й ВЕСНЯ'НЫ** *гл.* АЛЯКСЕ'Й.

# М

**МАЙ** *м.* Троіцкая зеляніна: галінкі клёна, ліпы, явара. *На Тройцу **май** ломалі* [Астрагаляды Браг.]. ***Май** поможэ ад грому* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

**МАК** *м.* Атрыбут абрадавых дзеянняў, што суправаджаюць свята Макавей. У народным уяўленні мак надзяляецца ачышчальнай сілай. *На Маковея **мак** свеціли і опсыпалі ім жывёлу, хлеў* [Буйнавічы Лельч.].

**МАКАВЕ'Й**, **МАКОВЕ'Й**, **МА'КАЎКА**; **МЕДО'ВЫ СПАС**, **МЯДО'ВЫ СПАС**, **ПЕ'РШЫ СПАС**. Земляробчае свята народнага календара, якое адзначаецца 14 жніўня (1 жніўня ст. ст.); свята маку.

МАКАВЕ'Й *м.* ***Макаве'я** мак свецяць, коб рос* [Жахавічы Маз.]. ***Макаве'й** – у Спасаўку* [Лукі Калінк.]. *На **Макаве'я** бувае дошч* [Макрэц Браг.]. *Кажуць, як на **Макаве'я** дошч пойдзе, значыць ня будзе жолудзей, чэрві поедзяць* [Мялешкавічы Маз.]. *Еслі на **Макаве'я** жэншчына родзіць сына, называлі Панцялей* [Мялешкавічы Маз.].

МАКОВЕ'Й *м.* *На **Макове'я** опсыпалі хлеў, коб добра худоба була* [Малешаў Жытк.]. *На **Макове'я** ўсяко зел'е свецяць* [Буйнавічы Лельч.]. *У спасоўку бувае **Макове'й*** [Зімовая Буда Лельч.].

* МЕДО'ВЫ СПАС *м.* *На **Медо'ваго Спаса** свецяць мед* [Буйнавічы Лельч.].

* МЯДО'ВЫ СПАС *м.* *Макавей – ето **Мядо'вы Спас*** [Казловічы Калінк.]. *У **Мядо'вы Спас** несом мед у цэркву* [Асавец Маз.]. *У нас е такое свято **Мядо'вы Спас*** [Малыя Аўцюкі Калінк.].

* ПЕ'РШЫ СПАС *м.* *У **Пе'ршы Спас** робім адправу* [Загорыны Маз.]. ***Пе'ршы Спас**, як і Макавей, свято* [Крушнікі Маз.].

**МА'КАЎКА** *ж.* *На **Ма'каўку** цветы і мак свецім* [Крукавічы Калінк.].

**МАКА'РЭЙ** *м.* Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 14 мая (1 мая ст. ст.); дзень асвячэння вады. *Колісь на **Мака'рэя** хадзілі ў цэркоў* [Мялешкавічы Маз.]. *Бувало, на **Мака'рэя** заходзілі ў рэчку і тэю водою мулі вочы, штоб не болелі* [Чырвонабярэжжа Лельч.].

**МА'КАЎКА** *гл.* МАКАВЕ'Й.

**МАКОВЕ'Й** *гл.* МАКАВЕ'Й.

**МАЛА'Я ПРАЧЫ'СТА** *гл.* ПРАЧЫ'СТАЯ ў знач. 2.

**МАЛАКО' З КАНО'ПЛЕНАГО СЕ'МЯ.** Вадкасць, якая здабываецца з семя канапель. У *нас як бедная куцья, дак канопленае семя таўкуць, покі белае молоко не стане. Тогды ўжэ етэ **малако' з кано'пленага се'мя** разводзяць водой, яшчэ й пудсолодзяць ды ў кашу* [Грабаў Петрык.].

**МА'СЛЕНА НЕДЗЕ'ЛЯ** *гл.* МА'СЛЕНАЯ НЕДЗЕ'ЛЯ.

**МА'СЛЕНАЯ НЕДЗЕ'ЛЯ**, **МА'СЛЕНА НЕДЗЕ'ЛЯ**, **МА'СЛЯНА НЕДЗЕ'ЛЯ**. Маслены тыдзень.

МА'СЛЕНАЯ НЕДЗЕ'ЛЯ *жс.* *У концы **Ма'сленай недзе'лі** робілі запускі* [Слабада Маз.]. *Вечары ўсе светые на **Ма'сленой недзе'ле*** [Багуцічы Ельск.].

МА'СЛЕНА НЕДЗЕ'ЛЯ *жс.* *Вот кончаецца **Ма'слена недзе'ля**, тоды ўсе свое прошчэння одзін у одного просяць* [Навасёлкі Хойн.].

МА'СЛЯНА НЕДЗЕ'ЛЯ *жс.* *Ек **Ма'сляна недзе'ля** – веселлі не робяць* [Казловічы Калінк.].

**МА'СЛЕНАЯ ПАРАСКІ'МКА** *гл.* МА'СЛЕНІЦА.

**МА'СЛЕНІЦА, МА'СЛЕНКА, МА'СЛЯНІЦА; МА'СЛЕНАЯ ПАРАСКІ'МКА.** Старажытнае славянскае свята народнага календара, якое адзначаецца на 8-м тыдні перад вялікім постам; дзень провадаў зімы.

МА'СЛЕНІЦА *жс.* *На **Ма'сленіцу** зіму адпускаюць* [Загорыны Маз.]. *Самы первы блін на **Ма'сленіцу** не емо, а стаўлімо на окно для дзедоў* [Сяменча Жытк.]. *У понедзелок на **Ма'сленіцу** во ўсіх домах з раніцы пекуць блінцы: будуць бегаці дзеці і просіць блінцы* [Завайць Нараўл.].

МА'СЛЕНКА *жс.* *На **Ма'сленку** пеклі блінцы з прысмакамі: з маслом, з грыбамі* [Новыя Навасёлкі Калінк.]. *На **Ма'сленку** му гледзім, дзе снег растане і ідзе на воду – весна скоро пройдзе* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

МА'СЛЯНІЦА *жс.* ***Ма'сляніцу** празнувалі на сорок п'яты дзень после Каляд* [Казловічы Калінк.].

* МА'СЛЕНАЯ ПАРАСКІ'МКА *жс.* *На **Ма'сленую Параскі'мку** пекуць блінцы, гасцююць* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

**МА'СЛЕНКА** *гл.* МА'СЛЕНІЦА.

**МА'СЛЕНЫ ТЫ'ЖДЗЕНЬ, МА'СЛЯНЫ ТЫ'ЖДЗЕНЬ.** Маслены тыдзень.

МА'СЛЕНЫ ТЫ'ЖДЗЕНЬ *м.* *У **Ма'слены ты'ждзень** кожэн дзень робілі своё свято, а му ў сераду робімо чэшчыны бліны – ето чэшча зоўе з'яця на бліны, а ў п'ятніцу – чэшчын вечэр, ето ўжэ з'яць зоўе чэшчу на бліны* [Града Жытк.]. *Раней гулялі Масленіцу тры дні, а цепер цэлы тыждзень, тому і зовуць **Ма'слены ты'ждзень*** [Ляскавічы Петрык.].

МА'СЛЯНЫ ТЫ'ЖДЗЕНЬ *м.* *У **Ма'сляны ты'ждзень**, у суботу, усегда робілі проводы – палілі пудзіло* [Міроненкі Калінк.].

**МА'СЛЕНЫЯ ДЗЕДЫ'** *мн.* Памінальныя дні ў час Масленіцы. ***Масленые дзеды** – перэд постам* [Васькаўка Маз.]. *На **ма'сленые дзеды'** ходзяць на могілкі і ставяць блінцы дзедам нашым* [Аляксандраўка Калінк.]. *На Масленіцу ўсегда робім **ма'сленые дзеды'**, зоўём дзедоў есці з намі* [Завайць Нараўл.]. ***Ма'сленые дзеды'** былі ў пятніцу ўвечэры, а ў суботу рано* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**МА'СЛЕНЫЯ ЗА'ПУСКІ** *мн.* Нядзеля на масленым тыдні, пярэдадзень Вялікага посту. *Масленіца кончалася **масленымі запускамі** на молочно* [Буда-Сафіеўка Лельч.]. *На **ма'сленыя за'пускі** дзеўке пеюць песні*

[Галубіца Петрык.]. *На **ма'сленыя за'пускі** весну клікаюць* [Кочышчы Ельск.]. *У недзелю елі блінцы, сыр, сметану, наедаліса хорошо, бо зналі, што ідуць **ма'сленыя за'пускі*** [Мялешкавічы Маз.].

**МА'СЛЯНА НЕДЗЕ'ЛЯ** *гл.* МА'СЛЕНАЯ НЕДЗЕ'ЛЯ.

**МА'СЛЯНІЦА** *гл.* МА'СЛЕНІЦА.

**МА'СЛЯНЫ ТЫ'ЖДЗЕНЬ** *гл.* МА'СЛЕНЫ ТЫ'ЖДЗЕНЬ.

**МАТРЫПА'Н, МАТРЫХВА'НЫ** *мн.* Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 23 лістапада (6 снежня ст. ст.); дзень, вольны ад працы, ад прадзення і адметны варажбой.

МАТРЫПА'Н *м. Колісь ек прыходзіў **Матрыпа'н** – ніхто не садзіўса прасці* [Буйнавічы Лельч.]. *На **Матрыпа'на** дзеўкі ўсегда гадалі, не можно було говорыць, а то не спраўдзіцца гаданне* [Чырвонабярэжжа Лельч.].

МАТРЫХВА'НЫ *мн. **Матрыхва'ны** бувалі ў Пиліпоўку, тады ужэ не прэдуць* [Валаўск Ельск.]. *На **Матрыхва'ны** забаранялоса прасці, можно було соўсім не робіці* [Санюкі Ельск.].

**МАТРЫХВА'НЫ** *гл.* МАТРЫПА'Н.

**МЕДО'ВЫ СПАС** *гл.* МАКАВЕ'Й.

**МЕСОЕ'Д** *гл.* МЯСОЕ'Д.

**МЁРТВАЯ НЕДЗЕ'ЛЯ** *ж.* Тыдзень напярэдадні Радуніцы. *Тыжджэнь перэд Радоўніцай называецца **мёртвая недз'еля**. На естом тыжні нічого не садзяць, бо не вурэсце* [Чырвонабярэжжа Лельч.].

**МЁРТВЫ ДЗЕНЬ** *гл.* РА'ДОЎНІЦА.

**МІЖБЛАГАВЕ'ШЧЫНЫ** *мн.* Перыяд паміж каталіцкім (4 красавіка) і праваслаўным Благавешчаннем (7 красавіка): *У **Міжблагаве'шчыны** короў не вугоняюць пасці* [Паселічы Хойн.]. *У **Міжблагаве'шчыны** не трэ аддаваць нічога суседу, а то будзе няшчасце* [Паселічы Хойн.].

**МІКО'ЛА, МІКУ'ЛА, МІКО'ЛЫ; МІКО'ЛА ВЕСНЯ'НЫ, МІКО'ЛА ВЕСНЯ'НАЯ, МІКО'ЛА ЗІМОВЫ, МІКО'ЛІН ДЗЕНЬ**.

1. Старажытнае свята народнага календара, якое адзначаецца 22 мая (9 мая ст. ст.); свята пастухоў і конюхаў.

МІКО'ЛА *м. **Міко'ла** бувае ў маі* [Буйнавічы Лельч.]. *До **Міко'лы** нема весны* (прымаўка) [Прудок Маз.]. *На **Міко'лу** ўжэ не робляць* [Казловічы Калінк.] *На **Міко'лу** своіх зовуць* [Санюкі Ельск.]. ***Міко'ла** – у нас дужэ векікі празнік* [Гарочычы Калінк.].

МІКО'ЛА *ж. У естую **Міко'лу** буў град* [Канатоп Нараўл.]. *Ек була **Міко'ла**, дык бабу гуркі садзілі* [Маркоўскае Лельч.].

МІКУ'ЛА *м. На **Міку'лу** пастухі ўжо ходзяць по хатах, збіраюць усё, што ім даюць* [Стадолічы Лельч.].

* МІКО'ЛА ВЕСНЯ'НЫ *м. Е ў маі **Весня'ны Міко'ла*** [Буйнавічы Лельч.]. *Колісь **Міко'ла Весня'ны** було велікое свято* [Макрэц Браг.].

* МІКО'ЛА ВЕСНЯ'НАЯ *ж. І цепер **Весня'ную Міко'лу** празнуем і ў цэркоў ходзім* [Капцэвічы Петрык.]. *На **Весня'ную Міко'лу** і колоскі повуходзяць* [Града Жытк.].

2. Старажытнае свята народнага календара, якое адзначаецца 19 снежня (6 снежня ст. ст.); свята пастухоў і конюхаў.

МІКО'ЛА *м. Кажуць, што без **Міко'лы** зімы не бывае* [Скрыгалаў Маз.]. *Калі да **Міко'лы** не выпадае снег, то доўгая будзе весна* [Прудок Маз.].

МІКО'ЛЫ *мн. На **Міко'лы** пачынаецца зіма* [Хобнае Калінк.]. *На **Міко'лы** будуць морозы* [Смятанічы Петрык.]. *На **Міко'лы** не трэба работы рабіць* [Бывалькі Лоеўск.].

* МІКО'ЛА ЗІМО'ВЫ *м. **Міко'ла Зімо'вы** ведзе сільные морозы* [Паселічы Хойн.]. *Калі на **Міко'лу Зімо'ваго** бувае богато снегу, то і год будзе богаты на хлеб* [Юркевічы Жытк.]. ***Міко'ла Зімо'вы** коня загоняе* (прымаўка) [Паташня Хойн.].

* МІКО'ЛІН ДЗЕНЬ *м. Колісь раней у **Міколін дзень** ікону по хатах носілі* [Сяменча Жытк.].

**МІКО'ЛА ВЕСНЯ'НАЯ** *гл.* МІКО'ЛА ў знач. 1.

**МІКО'ЛА ВЕСНЯ'НЫ** *гл.* МІКО'ЛА ў знач. 1.

**МІКО'ЛА ЗІМО'ВЫ** *гл.* МІКО'ЛА ў знач. 2.

**МІКО'ЛІН БА'ЦЬКО** *гл.* МІКО'ЛЬНІК[1].

**МІКО'ЛІН ДЗЕНЬ** *гл.* МІКО'ЛА ў знач. 2.

**МІКО'ЛЫ** *гл.* МІКО'ЛА ў знач. 2.

**МІКО'ЛЬНІК**[1], **МІКУ'ЛЬНІК**; **МІКО'ЛІН БА'ЦЬКО**, **МІКО'ЛЬНЫ ІВА'Н**, **МІКУ'ЛІН ІВА'Н**, **МІКУ'ЛЬНЫ ІВА'Н**. Пярэдадзень свята Міколы.

МІКО'ЛЬНІК[1] *м. **Міко'льнік** бувае перэд Міколай* [Васькаўка Маз.]. *А і **Міко'льніка** і Міколу празнуем, не робімо* [Казловічы Калінк.]. ***Міко'льнік** – ето святко перэд Міколой* [Скароднае Ельск.].

МІКУ'ЛЬНІК *м. У нас дзень перэд Мікулою зовецца **Міку'льнік*** [Запясочча Жытк.]. *На **Міку'льніка** грып найшоў* [Грабаў Петрык.].

* МІКО'ЛІН БА'ЦЬКО *м. Ідзе **Міко'лін ба'цько**, а за ім – Мікола* [Аляксандраўка Калінк.]. *Було такое: ек пошоў дошч со снегом, калі буў **Міко'лін ба'цько**, дак обіў цвет з яблонкі* [Мялешкавічы Маз.]. *Сёння **Міко'лін ба'цько**, а заўтра Мікола* [Глініца Маз.].

* МІКО'ЛЬНЫ ІВА'Н *м. Прыдзе **Міко'льны Іва'н**, з ім много мошак леціць* [Жахавічы Маз.]. *На **Міко'льного Іва'на** ў нас гуркі сеюць* [Навасёлкі Хойн.].

* МІКУ'ЛІН ІВА'Н *м. На **Міку'ліна Іва'на** раненько, покуль коровы ў хлеве лежаць, сеймо гарбузы, гуркі, штоб булі такі, як коровы* [Зарэчча Браг.].

МІКУ′ЛЬНЫ ІВА′Н *м. Ек настане **Міку′льны Іва′н**, хозяін ідзе ў поле, оглядае ўсё* [Запясочча Жытк.]. ***Міку′льны Іва′н**, а тоды ўжо Мікула* [Глушкавічы Лельч.].

**МІКО′ЛЬНІК², МІКО′ЛЬНЫ ГРЫБ, МІКО′ЛЬСКІ ГРЫБ** *бат.* Баравік, які расце ў час свята Міколы.

МІКО′ЛЬНІК² *м. У нас **Міко′льнік** завуць майскі грыб, баравік* [Паселічы Хойн.].

* МІКО′ЛЬНЫ ГРЫБ *м. **Міко′льны грыб** – белы грыб* [Мялешкавічы Маз.].

* МІКО′ЛЬСКІ ГРЫБ *м. **Міко′льскіе грыбы′** – ранніе боровікі* [Буда-Сафіеўка Лельч.].

**МІКО′ЛЬНЫ ГРЫБ** *гл.* МІКО′ЛЬНІК².

**МІКО′ЛЬНЫ ІВА′Н** *гл.* МІКО′ЛЬНІК¹.

**МІКО′ЛЬСКІ ГРЫБ** *гл.* МІКО′ЛЬНІК².

**МІКУ′ЛА** *гл.* МІКО′ЛА ў знач. 1.

**МІКУ′ЛІН ІВА′Н** *гл.* МІКО′ЛЬНІК¹.

**МІКУ′ЛЬНІК** *гл.* МІКО′ЛЬНІК¹.

**МІКУ′ЛЬНЫ ІВА′Н** *гл.* МІКО′ЛЬНІК¹.

**МІХАІ′Л** *гл.* МІХА′ЙЛА.

**МІХА′ЙЛА, МІХА′ЙЛО, МІХАІ′Л; МІХА′ЙЛАЎ ДЗЕНЬ, МІХА′ЙЛОЎ ДЗЕНЬ.** Свята народнага календара, якое адзначаецца 21 лістапада (8 лістапада ст. ст.) і звязваецца з метэаралагічнымі назіраннямі.

МІХА′ЙЛА *м. **Міха′йла** ўсіх з поля гоніць* [Прудок Маз.]. *Ідзе **Міх′айла** – з поля ўцекай* [Аляксандраўка Калінк.]. *На **Міха′йла** бываюць адлігі* [Веляцін Хойн.].

МІХА′ЙЛО *м. Пройдзе **Міха′йло** – тады почынаем прасці* [Грабаў Петрык.]. *Колі **Міха′йло** – зімы шчэ нема* [Вербавічы Нараўл.]. *Перэд **Міхайлом** бываюць дзеды* [Маркоўскае Лельч.].

МІХАІ′Л *м. У нас празнік – **Міхаі′л*** [Аляксандраўка Калінк.]. *А мы говорымо і Міхайло, і **Міхаі′л*** [М. Аўцюкі Калінк.].

* МІХА′ЙЛАЎ ДЗЕНЬ, *м. На **Міха′йлаў дзень** толькі худобу доілі* [Казловічы Калінк.].

* МІХА′ЙЛОЎ ДЗЕНЬ, *м. У **Міха′йлоў дзень** товар загоняем у хлеў і ставім ужэ на зімовы корм* [Балажэвічы Маз.]. *На **Міха′йлоў дзень** до бабы ўнукі бегуць* [Мікулічы Браг.]. *Калі на **Міха′йлоў дзень** будзе снег ісці, то і на Велікдзень будзе снег* [Веляцін Хойн.].

**МІХА′ЙЛАЎ ДЗЕНЬ** *гл.* МІХА′ЙЛА.

**МІХА′ЙЛАЎСКІЕ ДЗЕДЫ′, МІХА′ЙЛОЎСКІЕ ДЗЕДЫ′, МІХА′ЛЬСКІЯ ДЗЕДЫ′.** Памінальныя дні [пятніца і субота] напярэдадні Міхайлавага дня.

МІХА′ЙЛАЎСКІЕ ДЗЕДЫ′ *мн. У ету пятніцу булі **Міха′йлаўскіе дзеды′*** [Асавец Маз.].

МІХА'ЙЛОЎСКІЕ ДЗЕДЫ' *мн.* *У **Міхайлоўскіе дзеды'** бувае гразнік, адліга* [Веляцін Хойн.].

МІХА'ЛЬСКІЯ ДЗЕДЫ' *мн.* *У нас празнік – **Міха'льскіе дзеды'*** [Буйнавічы Лельч.]. *У нас правяць **Міха'льскіе дзеды'*** [Завайць Нараўл.]. *Перэд Міхайлом – **Міха'льскіе дзеды'*** [Ляскавічы Петрык.].

**МІХА'ЙЛО** *гл.* МІХА'ЙЛА.

**МІХА'ЙЛОЎ ДЗЕНЬ** *гл.* МІХА'ЙЛА.

**МІХА'ЙЛОЎСКІЕ ДЗЕДЫ'** *гл.* МІХА'ЙЛАЎСКІЕ ДЗЕДЫ'.

**МІХА'ЛЬСКІЯ ДЗЕДЫ'** *гл.* МІХА'ЙЛАЎСКІЕ ДЗЕДЫ'.

**МОЛО'ЧНО, МОЛО'ЧНЭ.** Малочныя стравы.

МОЛО'ЧНО. *Увесь Маслены тыждзень едзім больш **моло'чно*** [Ляскавічы Петр.]

МОЛО'ЧНЭ. *У строгі пост дажэ **моло'чнэ** не можно есці* [Чырвонабярэжжа Лельч.]

**МОЛО'ЧНЭ** *гл.* МОЛО'ЧНО.

**МЯДО'ВЫ СПАС** *гл.* МАКАВЕ'Й.

**МЯСОЕ'Д, МЕСОЕ'Д, М'ЯСОЕ'Д.** Перыяд пасля Каляд, калі дазваляецца есці мяса.

МЯСОЕ'Д *м.* ***Мясое'д** бувае перэд Вялікім постом* [Мялешкавічы Маз.].

МЕСОЕ'Д *м.* *Ек скончуцца Коледы, то почынаецца **месое'д*** [Буйнавічы Лельч.].

М'ЯСОЕ'Д *м.* *За Пэтровіцэй – **м'ясое'д*** [Града Жытк.].

**М'ЯСОЕ'Д** *гл.* МЯСОЕ'Д.

# Н

**НАШЧАДРОВА'ЦЬ, НАШЧОДРОВА'ЦЬ** *зак.* Назбіраць калядныя пачастункі.

НАШЧАДРОВА'ЦЬ *зак.* *Мое дзеці бегалі па хатах, дак **нашчадрова'лі** ўсего: печэння, канфет, арэхаў, грошэй* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

НАШЧОДРОВА'ЦЬ *зак.* *Дзелілі што **нашчодрова'лі*** [Буйнавічы Лельч.].

**НАШЧОДРОВА'ЦЬ** *гл.* НАШЧАДРОВА'ЦЬ.

**НЕЧЫ'СТАЯ СІ'ЛА** *ж.* Ведзьмы, русалкі, хлеўнік. *На Стрэчанне ў хлеў носяць свечку ад **нечы'стае сі'лы*** [Зарэчча Браг.]. *Ад **нечы'стае сі'лы** прывязвалі короўцы на рогі громнічну свечку* [Буда-Сафіеўка Лельч.].

**НО'ВЫ ГОД** *м.* Свята, якім пачынаецца каляндарны год; адзначаецца з 31 снежня на 1 студзеня (з 13 студзеня на 14 студзеня ст. ст.). Адметнае комплексам каляднай абраднасці, варажбой, накіраванымі на прадугадванне будучага ў новым годзе; надзяляецца магічнай сілай, якая прыносіць паляпшэнне дабрабыту, шчасце ў сям'ю.

Галоўным атрыбутам свята з'яўляецца ёлка як сімвал урадлівасці, жыцця, здароўя. ***Но'вы Год*** *усегда празнуем* [Прудок Маз.]. *На* ***Но'вы Год*** *бываюць морозы* [Махнавічы Маз.]. *Той* ***Но'вы Год*** *буў з дошчом і снегом* [Буйнавічы Лельч.]. *Кажуць, ек стрэнеш* ***Но'вы Год****, так і прожывеш его* [Завайць Нараўл.]. *Пуд* ***Но'вы Год*** *дзеўчаты ворожаць, кажуць, усё споўняецца* [Камаровічы Петрык.].

**НУПРЭ'Й** *гл.* АНАПРЭ'Й.

# О

**ОБРЭКНУ'ЦЦА** *зак.* Пайсці памаліцца аб здароўі і занесці што-небудзь у храм на Раство. *Говорылі мне, як донька булела: «Сходзі на Рожджэство ў Петрыкоў,* ***обрэкні'са****, штоб Бог даў здороўе, штоб вона жыла». Я ходзіла, рушнікі носіла і грошы клала* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**ОБЫ'ДЗЕННІК** *м.* Ручнік, які быў вытканы жанчынамі на працягу дня і ночы і меў магічную сілу. *Казалі, калі* ***обы'дзеннік*** *повісіць на абразе светой Параскі, то трэ выцерці вочы, загоіць хворые вочы* [Вятчын Жыт.].

**ОДПРА'ВА** *гл.* АДПРА'ВА.

**ОЛЕКСЕ'Й** *гл.* АЛЯКСЕ'Й.

**ОНАПРЭ'Й** *гл.* АНАПРЭ'Й.

**ОНДРЭ'Й** *гл.* АНДРЭ'Й.

**ОРЭ'Х** *м.* Галінкі дрэва, якое надзяляецца магічнымі ўласцівасцямі: прыносіць удачу; галінкамі арэха адганяюць нячыстую сілу, ведзьмаў, змей. *Хто сховае галінку* ***орэ'ха*** *з цветком, той знойдзе клад пад землёю ў купалаву ноч* [Валаўск Ельск.].

**ОЎДО'КІ** *гл.* АЎДО' КІ.

**ОЎДО'ЦЦЯ** *гл.* АЎДО'КІ.

# П

**ПАЖА'РЫШЧА** *гл.* КУПА'ЛЬНАЕ ВО'ГНІШЧА.

**ПАКРО'ВА** *гл.* **ПАКРО'Ў.**

**ПАКРАВО' БО'ЖАЙ МА'ЦЕРЫ** *гл.* ПАКРО'Ў.

**ПАКРО'Ў, ПАКРО'ВА, ПОКРО'ВОЧКА, ПОКРО'ВА, ПОКРО'Ў; ПАКРАВО' БО'ЖАЙ МА'ЦЕРЫ.** Земляробчае свята народнага календара, якое адзначаецца 14 кастрычніка (1 кастрычніка ст. ст.); свята заканчэння палявых работ.

ПАКРО'Ў *м.* ***Пакро'ў*** *зовецца таму, што Дзева Марыя пакрывае ўсіх людзей сваёй накідкою* [Загорыны Маз.]. *На* ***Пакро'ў*** *людзі ў цэркоў ішлі, моліліса* [Тэльман Браг.]. ***Пакро'ў****, кажуць, пакрые людзей ад грахоў* [Вубалаць Калінк.].

ПАКРО'ВА *ж.* ***Пакро'ва** ўжэ суцеле лістом* [Навасёлкі Калінк.]. ***Пакро'ва** ў гэты дзень малілася за ўсіх людзей* [Бывалькі Лоеўск.]. *На **Пакро'ву** лісце пасыпаецца на землю* [Небытаў Хойн.]. *На **Пакро'ву** неможно було чапаць землю* [Веляцін Хойн.].

ПОКРО'ВА *ж.* ***Покро'ва** – ужэ конец восені* [Махнавічы Маз.]. *Ека **Покро'ва**, така і зіма* [Завайць Нараўл.]. *На **Покро'ву** последня птушка леціць ад нас* [Багуцічы Ельск.]. *На **Покро'ву** ідэмо ў цэркоў, стоімо службу* [Града Жытк.]. *До **Покро'вы** ўсё трэ звозіць з поля* [Ляскавічы Петрык.]. *На **Покро'ву** короў не вугоняюць у поле* [Маркоўскае Лельч.].

ПОКРО'ВОЧКА *ж.* *Хутко прыдзе **Покро'вочка**, прынясе платочка і пакрые.* [Махнавічы Маз.].

ПОКРО'Ў *м.* *У царкве на **Покро'ў** отправа була* [Замошша Лельч.]. *Богослаў – тады **Покро'ў*** [Валаўск Ельск.]. *На **Покро'ў** нічого не робілі, празнувалі ўсе* [Вербавічы Нараўл.]. ***Покро'ў** не покрыў землю снегом – покрые лістом* [Сяменча Жытк.].

* ПАКРАВО' БО'ЖАЙ МА'ЦЕРЫ *н.* *На **Пакраво' Бо'жай Ма'церы** ідом ў цэркоў і молімса, коб спасціса ад хваробы, злых людзей* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

**ПАЛІКО'П** *м.* Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 9 жніўня (27 ліпеня ст. ст.). *На **Паліко'па** не робім, можэ бліскавіца ўдарыць* [Балажэвічы Маз.]. ***Паліко'п** бувае ек жыто жнуць* [Вялікія Аўцюкі Калінк.]. *З **Паліко'па**, кажуць, качанкі у капусце завязваюцца* [Прудок Маз.]. *На **Паліко'па** можэ налецець дошч з моланкою* [Буйнавічы Лельч.]. *На **Паліко'па** нельга звозіць сено ў гумно, бо можэ спаліць яго моланкай* [Буда-Сафіеўка Лельч.]. *На **Паліко'па** не робім, і сено не складаем у копы, можэ спаліць блісканіца* [Навасёлкі Петрык.]. *Як поскладаеш на **Паліко'па** сено ў копы, то Палікоп попаліць етыя копы, того ж і зовуць его **Паліко'п** – не робі ў еты* дзень [Рычаў Жытк.]. *На **Паліко'па** можэ моланка ўбіць і чоловека, калі ён на полі робіць* [Сярэднія Печы Лельч.]. *У нас кажуць: "Хто на **Паліко'па** працуе, таму не шануе"* [Казловічы Калінк.].

**ПАЛЫ'Н** *м.* Расліна з характэрным пахам і смакам як атрыбут купальскага абрадавага комплекса, надзеленая аберагальнай сілай. *У купальную ноч дзеўкі клалі пад паху **палы'н**, шоб ведзьмы не завелі ў лес* [Махнавічы Маз.]. *У нас на Купало пуд дзверы ў хлеве клалі **палы'н** , коб ведзьмы не пробраліса* [Маркоўскае Лельч.].

**ПА'ПАРАЦЬ-КВЕ'ТКА, ЖО'ЎТА КВЕ'ТКА**. Кветка папараці, якая паводле купальскага павер'я расцвітае апоўначы раз у год, на Купалле, і надзяляецца магічнай сілай.

ПА'ПАРАЦЬ-КВЕ'ТКА. ***Па'парать-кве'тку** шукаюць у купальную ноч* [Слабада Маз.]. *Хто ўбачыць **па'параць-кве'тку**, той усё будзе бачыць, і клад пуд землёй убачыць* [Хамічы-2 Калінк.].

ЖО′ЎТА КВЕ′ТКА. *На Купайло і хлопцы і дзеўкі бегаюць у лес* ***жо′ўту кве′тку*** *шукаці* [Галубіца Петрык.].

**ПА′СКА**[1] *гл.* ВЕЛІКДЗЕ′НЬ.

**ПА′СКА**[2]**, ВЕЛІКО′ДНЫ ПІРО′Г**. Пірог, які пякуць к Вялікадню.

ПА′СКА[2] *ж. Раней* ***па′ску*** *клалі на кленовы ліст – ды ў печ, вот пекліса пухнаты булкі* [Загорыны Маз.]. *Цепер* ***па′ску*** *самі рэдко пеком, а ідом у магазін за паскою* [Веляцін Хойн.]. *На Велікдзень пеку* ***па′ску*** [Аляксандраўка Калінк.].

ВЕЛІКО′ДНЫ ПІРО′Г *м. Да Велікадня пеку паску – ето ж* ***веліко′дны піро′г*** [Аляксандраўка Калінк.].

**ПАРА′СКІ, ПАРАСКІ′МКА, ПАРАСКІ′ММЯ, ПЕРЭСКО′М'Я, ПЯЦЁНКА; ПАРАСКІ′МКА ВО′СЕНЬСКАЯ.** Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 10 лістапада (28 кастрычніка ст. ст.); дзень забароны прадзення і ткання.

*ПАРА′СКІ *мн. Буў такі празнік* ***Пара′скі****, і цепер ён е* [Мялешкавічы Маз.]. ***Пара′скі*** *буваюць у пятніцу* [Плаўкі Ельск.]. *Раней у нас на* ***Пара′скі*** *не пралі і не ткалі* [Буйнавічы Лельч.].

ПАРАСКІ′МКА *ж. Цепер на* ***Параскі′мку*** *ў нас бабы не шыюць* [Прудок Маз.]. ***Параскі′мка*** *бувае ў пятніцу, тады мы дзетак малых не купаем, могуць захворэць* [Васькаўка Маз.]. *А ў нас на* ***Параскі′мку*** *которы дзеўкі ў цэркву ходзяць, просяць* ***Параскі′мку*** *даці жаніха, а которы і ворожаць на чоловека* [Махнавічы Маз.].

ПАРАСКІ′ММЯ *ж. Мне казалі, і я так кажу, што* ***Параскі′ммя*** *ў пятніцу, і надо поставаць, бо Господзь церпеў у гэты дзень за грэхі нашы* [Мялешкавічы Маз.]. *Му добрэ знаем празнік* ***Параскімма****, молімса, говораць, ікону святой* ***Параскі′ммі*** *найшлі ў водзе, дык тая вода лечыць хворобы* [Буйнавічы Лельч.]. *Шчэ моя бабушка говорыла, калі не бувае доўга дошчу, тоды одны жанчыны ідуць до* ***Параскі′ммі*** *і просяць наслаць дошч* [Дарашэвічы Петрык.].

ПЕРЭСКО′М'Я *ж. На* ***Перэско′м'ю*** *ходзілі ў госці ў Вербовічы* [Завайць Нараўл.].

ПЯЦЁНКА *ж. Дзяўчаты просяць* ***Пяцёнку****, каб жаніха послала* [Паселічы Хойн.]. ***Пяцёнка*** *дае здороўе тым, хто просіць* [Маркоўскае Лельч.].

* ПАРАСКІ′МКА ВО′СЕНЬСКАЯ *ж. Калі настае* ***Параскі′мка Во′сеньская****, дзяўчаты ходзяць на вечоркі, ворожаць* [Загорыны Маз.]. ***Параскі′мка Во′сеньская*** *адводзіць хворобы, дае здороўе* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

**ПАСЛЕ′ДНЯ КУЦЦЯ′** *гл.* ТРЭ′ЦЯЯ КУЦЬЯ′.

**ПАХВА′ЛЬНА НЕДЗЕ′ЛЯ** *гл.* ПАХВА′ЛЬНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ.

**ПАХВА′ЛЬНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ, ПАХВА′ЛЬНА НЕДЗЕ′ЛЯ, ПАХВА′ЛЬНЫ ТЫ′ЖДЗЕНЬ, ПОХВА′ЛЬНА НЕДЗЕ′ЛЯ, ПОХВА′ЛЬНЫ ТЫ′ЖДЖЭНЬ.** Трэці тыдзень ад канца Вялікага поста.

ПАХВА′ЛЬНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ *ж.* ***Пахва′льная недзе′ля*** *бувае ў пост* [Гарочычы Калінк.].

ПАХВА′ЛЬНА НЕДЗЕ′ЛЯ *ж.* ***Пахва′льна недзе′ля*** *ідзе, а тады Вербная недзеля* [Махнавічы Маз.].

ПАХВА′ЛЬНЫ ТЫ′ЖДЗЕНЬ *м.* *У* ***Пахва′льны ты′ждзень*** *не можна рабіць* [Веляцін Хойн.].

ПОХВА′ЛЬНА НЕДЗЕ′ЛЯ *ж.* *Говораць, што* ***Похва′льна недзе′ля*** *похваліць, а Вербная недзеля поправіць* [Чырвонабярэжжа Лельч.]. *У* ***Похва′льну недзе′лю*** *бусел знесе ейцэ і похваліцца* [Буйнавічы Лельч.].

ПОХВА′ЛЬНЫ ТЫ′ЖДЖЭНЬ *м.* *Калі ў* ***Похва′льны ты′жджэнь*** *што посадзіць, усё будзе добрэ рэсці* [Чырвонабярэжжа Лельч.]. *Раней у* ***Похва′льны ты′жджэнь*** *му не сновалі* [Буда-Сафіеўка Лельч.].

**ПАХВА′ЛЬНЫ ТЫ′ЖДЗЕНЬ** *гл.* ПАХВА′ЛЬНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ.

**ПАХО′М** *м.* Старажытнае веснавое свята народнага календара, якое адзначаецца 28 мая (15 мая ст. ст.). *Як прыйдзе* ***Пахо′м*** *– хуччэй садзі гуркі, назбіраеш мяхом* [Храпкаў Хойн.].

**ПЕРАПЛА′ЎНА СЕРАДА′, ПЕРЭПОЛОВЕ′НСКА СЕРЭДА′, ПОЛОВЕ′НСКА СЕРЭДА′, ПОПЛА′ЎНА СЕРАДА′.** Серада на чацвёртым тыдні пасля Вялікадня.

ПЕРАПЛА′ЎНА СЕРАДА′ *ж.* *Гаворaць, што ў еты дзень сам Ісус Хрыстос пераплываў рэчку, таму і* ***Перапла′ўна серада′*** [Балажэвічы Маз.]. *У нас пройдзе* ***Перапла′ўна серада′****, тады ўжэ купаюцца* [Крукавічы Калінк.].

ПЕРЭПОЛОВЕ′НСКА СЕРЭДА′ *ж.* *У* ***Перэполове′нску серэду′*** *матэр Божа перэплыла рэчку* [Града Жытк.].

ПОЛОВЕ′НСКА СЕРЭДА′ *ж.* ***Полове′нска серэда′*** *– перэд Тройцою* [Чырвонабярэжжа Лельч.].

ПОПЛА′ЎНА СЕРАДА′ *ж.* *Говораць* ***Попала′ўна серада′****, таму што Божа маці плавала ў водзе* [Валаўск Ельск.].

**ПЕРАСТУ′ПНЫ ДЗЕНЬ** *м.* Дзень перад новым месяцам. ***Перасту′пны дзень*** *бувае перэд молодзіком* [Чырвонабярэжжа Лельч.].

**ПЕ′РВА КУЦЦЯ′** *гл.* ПЕ′РВА КУЦЬЯ′.

**ПЕ′РВА КУЦЬЯ′, ПЕ′РВА КУЦЦЯ′, ПЕ′РВА КУЦЯ′, ПЭ′РВА КУТТЯ′, ПЕ′РВАЯ КУЦЦЯ′, ПЕ′РША КУЦЬЯ′, ПЕ′РШАЯ КУЦЦЯ′, ГАЛО′ДНА КУЦЬЯ′, БЕ′ДНА КУЦЦЯ′, ПО′СНАЯ КУЦЦЯ′.** Першая перадкалядная куцця, якая святкавалася 6 студзеня (24 снежня ст. ст.) перад Ражаством.

ПЕ′РВА КУЦЬЯ′ *ж.* ***Пе′рва куцья′*** *– на Раство* [Стадолічы Лельч.]. *На* ***Пе′рву куцью′*** *кашу вараць* [Жахавічы Маз.].

ПЕ′РВА КУЦЦЯ′ *ж.* *На* ***Пе′рву куццю′*** *варылі кашу з алеем* [Стадолічы Лельч.].

ПЕ′РВА КУЦЯ′ *ж.* ***Пе′рва куця′*** *– перэд* Ражэством [Канатоп Нараўл.].

ПЭ'РВА КУТТЯ' *жс.* ***Пэ'рва куття'*** *почынае коляды* [Града Жытк.].

ПЕ'РВАЯ КУЦЦЯ' *жс. Перэд Раством – **Пе'рвая куцця'*** [Палаўкі Ельск.].

ПЕ'РША КУЦЬЯ' *жс. Шостае – **Пе'рша куцья'*** [Казловічы Калінк.].

ПЕ'РШАЯ КУЦЦЯ' *жс. На **пе'ршую куццю'** варым кашу грэчнаю* [Бывалькі Лоеўск.].

ГАЛО'ДНА КУЦЬЯ' *жс. **Голо'дна куцья'** – на Коляды* [Верасніца Жытк.].

БЕ'ДНА КУЦЦЯ', *жс. Шостае – **Бе'дна куцця'**, сёмаго – Раство* [Камаровічы Петрык.].

ПО'СНАЯ КУЦЦЯ' *жс. **По'сная куцця'** – першая куцця* [Васькаўка Маз.].

**ПЕ'РВА КУЦЯ'** *гл.* ПЕ'РВА КУЦЬЯ'.

**ПЕ'РВАЯ КУЦЦЯ'** *гл.* ПЕ'РВА КУЦЬЯ'.

**ПЕ'РША КУЦЬЯ'** *гл.* ПЕ'РВА КУЦЬЯ'.

**ПЕ'РША ПРОЧЫ'СТА** *гл.* ПРАЧЫ'СТАЯ ў знач. 1.

**ПЕ'РШАЯ КУЦЦЯ'** *гл.* ПЕ'РВА КУЦЬЯ'.

**ПЕ'РШАЯ ПРАЧЫ'СТАЯ** *гл.* ПРАЧЫ'СТАЯ ў знач. 1.

**ПЕ'РШЫ СПАС** *гл.* МАКАВЕ'Й.

**ПЕРЭПЕ'ЧКА** *жс.* Печыва ў форме каржа з першай мукі, якое выпякаецца на патэльні. *На Петра я **перэпе'чку** спекла* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**ПЕРЭПОЛОВЕ'НСКА СЕРЭДА'** *гл.* ПЕРАПЛА'ЎНА СЕРАДА'.

**ПЕРЭСКО'М'Я** *гл.* ПАРА'СКІ.

**ПЕТРО'** *гл.* ПЯТРО'.

**ПЕТРО'ВІЦА** *гл.* ПЯТРО'ЎКА.

**ПЕТРО'Ў ДЗЕНЬ** *гл.* ПЯТРО'.

**ПЕТРО'ЎКА** *гл.* ПЯТРО'ЎКА.

**ПЕТРО'ЎКА.** Белы наліў (гатунак яблыкаў). *Малые прыбегуць, дай просяць **петро'вок*** [Багуцічы Ельск.]. *У етум годзі не було **петро'вок*** [Буйнавічы Лельч.].

**ПЕТРО'ЎСКІ** *гл.* ПЯТРО'ЎСКІ.

**ПІЛІ'П** *м.* Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 27 лістапада (14 лістапада). ***Пілі'п** бувае ў воўчы месяц, калі ваўкі сходзяцца ў кучы* [Казловічы Калінк.]. *Калі на **Пілі'па** вороны крычаць, мороз адляжэ* [Загорыны Маз.]. *Колі **Пілі'п** – веселлі не роблімо* [Завайць Нараўл.]. *На **Пілі'па** почынаецца холод* [Багуцічы Ельск.].

**ПІЛІ'ПАЎКА, ПІЛІ'ПОЎКА.** Шасцітыднёвы перадкалядны пост, які доўжыцца да 6 студзеня; час хатняй жаночай працы.

ПІЛІ'ПАЎКА *жс. Кажуць, у **Пілі'паўку** ваўкі ходзілі зграямі* [Мікулічы Браг.]. *У **Пілі'паўку** пачынаюцца халады* [Казловічы Калінк.].

ПІЛІ'ПОЎКА *жс. У **Пілі'поўку** дзеўчаты ходзілі на вечоркі* [Дзёрнавічы Нараўл.]. *У **Пілі'поўку** почыналі ткаці* [Багуцічы Ельск.].

*Кажуць, што ў **Пілі'поўку** збіраласа "воўчае вяселле"* [Пагоннае Жытк.]. *Калі ў **Пілі'поўку** пойдэ снег, то будзе дужэ добры ўрожай* [Сяменча Жытк.].

**ПІЛІ'ПОЎКА** *гл.* ПІЛІ'ПАЎКА.

**ПІЛІ'ПОЎСКІЕ ЗА'ПУСКІ, ПІЛІ'ПОЎЧАНСКІЕ ЗА'ПУСКІ, ПІЛІ'ПОЎЧАНЫЕ ЗА'ПУСКІ, ПІЛІ'ПОЎЧАНЫ ЗА'ГАВІНЫ.** Пярэдадзень каляднага посту.

ПІЛІ'ПОЎСКІЕ ЗА'ПУСКІ *мн. Послі мясоеда – начынаюцца **пілі'поўскіе за'пускі*** [Валаўск Ельск.].

ПІЛІ'ПОЎЧАНСКІЕ ЗА'ПУСКІ *мн. Почынаюцца **пілі'поўчанскіе за'пускі*** [Скалодзін Маз.].

ПІЛІ'ПОЎЧАНЫЕ ЗА'ПУСКІ *мн. У **пілі'поўчаные за'пускі** елі молочнэ* [Жахавічы Маз.].

ПІЛІ'ПОЎЧАНЫ ЗА'ГАВІНЫ *мн. **Пілі'поўчаны за'гавіны** – апошні дзень перад постом* [Барбароў Маз.].

**ПІЛІ'ПОЎЧАНСКІЕ ЗА'ПУСКІ** *гл.* ПІЛІ'ПОЎСКІЕ ЗА'ПУСКІ.

**ПІЛІ'ПОЎЧАНЫ ЗА'ГАВІНЫ** *гл.* ПІЛІ'ПОЎСКІЕ ЗА'ПУСКІ.

**ПІЛІ'ПОЎЧАНЫЕ ЗА'ПУСКІ** *гл.* ПІЛІ'ПОЎСКІЕ ЗА'ПУСКІ.

**ПІСКУ'ХА** *ж.* Абрад, вячэра перад Вадохрышчам. ***Піску'ха** бувае перэд Крэшчэннем* [Казловічы Калінк.]. *На **Піску'ху** варым куццю* [Глініца Маз.].

**ПОКРО'ВОЧКА** памянш.-ласк. да ПАКРО'Ў.

**ПОКРО'ЎНЫ БА'ЦЬКО** *м.* Пярэдадзень свята ПАКРО'Ў. ***Покро'ўны ба'цько** перэд Покровом* [Малешаў Жытк.]. ***Покро'ўны ба'цько** будзе, а потом Покроў* [Ляскавічы Петрык.]. ***Покро'ўны ба'цько** бувае за тры дні перэд Покровой* [Завайць Нараўл.].

**ПОЛОВЕ'НСКА СЕРЭДА'** *гл.* ПЕРАПЛА'ЎНА СЕРАДА'.

**ПОНІКА'ЮШЧА МІКО'ЛА** *ж.* Дзень пасля Міколы зімняга. *Сённі Мікола, а заўтра **поніка'юшча Міко'ла*** [Валаўск Ельск.].

**ПОПЛА'ЎНА СЕРАДА'** *гл.* ПЕРАПЛА'ЎНА СЕРАДА'.

**ПО'ПАРАДКІ** *мн.* ПО'ПРАДКІ. *Раней у Піліпаўку дзеўкі збіраліся на **по'парадкі*** [Слабада Маз.].

**ПО'СНА КУЦЬЯ', ПО'СНА КУЦЦЯ'** *гл.* ТРЭ'ЦЯЯ КУЦЬЯ'.

ПО'СНА КУЦЬЯ' *ж. Проці Крэшчэнья – **По'сна куцья'*** [Зарэчча Браг.].

ПО'СНА КУЦЦЯ' *ж. На **По'сну куццю'** тожэ варожаць* [Бабраняты Маз.].

**ПО'ЎНЭ** *н.* Поўня. *Хто знае знахорство, той пашэ пуд **по'ўнэ*** [Чырвонабярэжжа Лельч.].

**ПОСВЕЦО'НЫ** *дзеепрым.* Асвячоны ў храме. *На Радаўніцу обязацельно трэ несці **посвецо'ные** булкі і покрашены яечкі на кладбішчэ* [Прудок Маз.].

**ПОСВЕЦО'НЭ ЕЙЦЭ'** *н.* Яйцо, асвячонае ў храме разам з іншымі стравамі на Вялікдзень, якое надзялялася магічнай ахоўнай сілай. *Гавораць, калі кінуць **посвяцо'нэ ейцэ'** туды, дзе гарыць, то агонь сціхне* [Мялешкавічы Маз.].

**ПОСТ** *м.* Перыяд устрымання ад скаромнай ежы. *Перадвелікодны **пост** доўжыцца аж сем тыжняў* [Казловічы Калінк.]. *У Петроўскі **пост** не можно есці мясо, сало, масло* [Чырвонабярэжжа Лельч.].

**ПОХВА'ЛЬНА НЕДЗЕ'ЛЯ** *гл.* ПАХВА'ЛЬНАЯ НЕДЗЕ'ЛЯ.

**ПОХВА'ЛЬНА СУБО'ТА** *ж.* Субота на трэцім тыдні ад канца Вялікага поста. *У **Похва'льну субо'ту** мы не робім* [Малыя Аўцюкі Калінк.]. *Е такі дзень – **Похва'льна субо'та*** [Казловічы Калінк.].

**ПОХВА'ЛЬНЫ ТЫ'ЖДЖЭНЬ** *гл.* ПАХВА'ЛЬНАЯ НЕДЗЕ'ЛЯ.

**ПРА'ВІЦЬ**, *-ю; -іш; -іць; незак.* Адзначаць. *Сённі му **пра'вім** дзеды* [Мялешкавічы Маз.]. *Троечные дзеды му будом **пра'віць** у пятніцу* [Глушкавічы Лельч.].

**ПРАВО'ДНЫ ДЗЕНЬ** *гл.* РА'ДОЎНІЦА.

**ПРА'ЗНІК** *м.* Свята. *У нас ето большы **пра'знік** – Тройца* [Багуцічы Ельск.]. *Паска такі **пра'знік**, што чысла не гледзіць* [Махнавічы Маз.].

**ПРА'ЗНІКОВАЦЬ, ПРА'ЗНУВАЦЬ**. Святкаваць.

ПРА'ЗНІКОВАЦЬ *незак. На Параскімку не шыем, не прадом – **пра'знікуем*** [Грабаў Петрык.].

ПРА'ЗНУВАЦЬ *незак. У нашай дзярэўні ўсегда **пра'знуюць** Вадохрышча* [Гурыны Маз.].

**ПРА'ЗНУВАЦЦА** *незак.* Святкавацца. *Дужэ ж хораша **пра'зnuваліса** раней святы, а цяпер як хто можэ* [Гурыны Маз.].

**ПРАЧЫ'СТА** *гл.* ПРАЧЫСТАЯ ў знач. 1.

**ПРАЧЫ'СТА** *гл.* ПРАЧЫСТАЯ ў знач. 2.

**ПРАЧЫ'СТАЯ, ПРАЧЫ'СТА** 1, **АСПАЖА', БАГАРО'ДЗІЦА, ЗЯЛЁНАЯ, ЗЕ'ЛЬНАЯ, СПЛЕ'ННЕ, УСПЛЕ'ННЕ; ПЕ'РША ПРОЧЫ'СТА, ПЕ'РШАЯ, БО'ЛЬШАЯ, ВЯЛІ'КАЯ ПРАЧЫ'СТАЯ, УСПЕ'ННЕ БО'ЖАЙ МА'ЦІ, УСПЛЕ'ННЕ БО'ЖАЙ МА'ЦІ, СПЛЕ'ННЕ БО'ЖАЙ МА'ЦІ**. Летняе свята народнага календара, якое адзначаецца 28 жніўня (15 жніўня); свята ўраджаю.

ПРАЧЫ'СТАЯ *ж. На **Прачы'стую** му ўсегда свецім жыта* [Васькаўка Маз.].

ПРАЧЫ'СТА *ж.* 1. *На **Прачы'сту** много работы, бо трэбо каб поле було чысто* [Паселічы Хойн.].

АСПАЖА' *ж. **Аспажа'** – дзень смерці Маці Божай* [Прудок Маз.]. *__Аспажа'__ дзежкі медам налівае* [Васькаўка Маз.].

БАГАРО'ДЗІЦА *ж. На **Багаро'дзіцу** хлеб з поля звозіцца* [Аляксандраўка Калінк.].

ЗЯЛЁНАЯ *ж. У цэркоў носім свеціць зеляніну розную, хлеб, таму Прачыстая і завецца **Зялёная*** [Загорыны Маз.].

ЗЕ′ЛЬНАЯ *ж. На **Зе′льную** свецім городніну і абязацельно хлеб* [Васькаўка Маз.].

СПЛЕ′ННЕ *н. На **Спле′нне** ў городзе ўсё чыста вуспевае* [Мялешкавічы Маз.]. *На **Спле′нне** почалі ўжэ бульбу копаць* [Завайць Нараўл.].

УСПЛЕ′ННЕ *н. На **Успле′нне** ўсё, што ёсць у городзе, спее і жыто жоўцее* [Завайць Нараўл.].

* ПЕ′РША ПРОЧЫ′СТА *ж. На **Першу Прочысту** ідом ў Бобрыкі, а Другу Прочысту ідуць празнуваць у Навасёлкі* [Навасёлкі Петрык.].

* ПЕ′РШАЯ ПРАЧЫ′СТАЯ *ж. Ну, ето ж **Прачыстая** – яна **Пе′ршая**, Бо′льшая, Вялі′кая, а не Другая, Меншая, што бувае ў верасні* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

* БО′ЛЬШАЯ ПРАЧЫ′СТАЯ *ж. У нас мало хто гаворыць **Бо′льшая Прачы′стая** – Прачыстая і ўсё* [Бібікі Маз.].

* ВЯЛІ′КАЯ ПРАЧЫ′СТАЯ *ж. На **Вялі′кую Прачы′стую** хлеб свецім* [Гурыны Маз.].

* УСПЕ′ННЕ БО′ЖАЙ МА′ЦІ *н. **Успе′нне Бо′жай Ма′ці** – ето ж дзень, калі померла Божая Маці і ўзялі яе на небо* [Канатоп Нараўл.].

* УСПЛЕ′ННЕ БО′ЖАЙ МА′ЦІ *н. На **Успле′нне Бо′жай Ма′ці** ідзе адправа* [Веляцін Хойн.].

* СПЛЕ′ННЕ БО′ЖАЙ МА′ЦІ *н. На **Спле′нне Бо′жай Ма′ці** мы ходзім у цэркоў і спавядаемса* [Казловічы Калінк.].

**ПРАЧЫ′СТАЯ, ПРАЧЫ′СТА, ПРОЧЫ′СТА, ПРЭЧЫ′СТА, ПРЭЧЫ′СТАЯ 2, БАГА′ТНІК, БАГАТУ′ХА, БАГА′Ч, СПО′ЖКА,** *ж.*; **ДРУГА′Я ПРАЧЫ′СТАЯ, ДРУГА′ ПРАЧЫ′СТА, ДРУГА′ ПРОЧЫ′СТА, ДРУГА′ ПРЭЧЫ′СТА, МАЛА′Я ПРАЧЫ′СТА, РАЖСТВО′ БО′ЖАЙ МА′ЦІ, РАСТВО′ БО′ЖАЙ МА′ЦІ.** Земляробчае свята народнага календара, якое адзначаецца 21 верасня (8 верасня); свята ўборкі зерневых.

ПРАЧЫ′СТАЯ *ж.* 2. ***Прачы′стая** – такіх празнікаў два: адзін – дзень раждзення Прасвятой Багародзіцы, а другі – дзень смерці Прасвятой Багародзіцы* [Бывалькі Лоеўск.]. *У нас говораць **Прачы′стая** і Другая Прачыстая* [Мялешкавічы Маз.].

ПРАЧЫ′СТА *ж.* 2. *На **Прачы′сту** ідзе служба* [Казловічы Калінк.].

ПРОЧЫ′ СТА *ж.* 2. *Говораць так: "Не свеці **Прочы′сту**, а свеці Чудо ее"* [Завайць Нараўл.]. ***Прочы′ста** на прэстолі стояла і ўсім помогала* [Баравое Лельч.]. ***Прочы′ста** – рожденне Божой Мацеры* [Маркоўскае Лельч.].

ПРЭЧЫ′СТА *ж.* 2. *У **Прэчы′сту** кончаецца спасовы пост, а почынаецца осенні м'ясоед* [Рычаў Жытк.].

ПРЭЧЫ′СТАЯ *ж.* 2. *На **Прэчы′стую** буслы збіраюцца одлетаць* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

БАГА'ТНІК *м.* 2. *У нас Прачыста бувае 21 сенцябра, мало хто скажэ **Бага'тнік*** [Мялешкавічы Маз.].

БАГАТУ'ХА *ж.* *Калі **Багату'ха** – не ткуць і не прадуць* [Загорыны Маз.].

БАГА'Ч *м.* 2. ***Бага'ч** – ето ж Другая Прачыстая* [Казловічы Калінк.].

СПО'ЖКА *ж.* 2. *Гавораць: "Прыйшла **Спо'жка** – на полі каб ні стожка"* [Балажэвічы Маз.].

* ДРУГА'Я ПРАЧЫ'СТАЯ *ж.* 2. *Пройдзе Галавасек, а тады – **Друга'я Прачы'стая*** [Глініца Маз.]. *Да **Друго'й Прачы'стай** усё далжно ўбрано з поля, дажэ і бульба* [Веляцін Хойн.].

* ДРУГА' ПРАЧЫ'СТА *ж.* 2. *На **Другу Прачы'сту** сеюць жыто* [Залатуха Калінк.].

* ДРУГА' ПРОЧЫ'СТА *ж.* 2. *На **Другу' Прочы'сту** бабы не прадуць – свято* [Вербавічы Нараўл.].

* ДРУГА' ПРЭЧЫ'СТА *ж.* 2. *Ек **Друга' Прэчы'ста** – ідом прасіць Божу Матку, каб памагала* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

* МАЛА'Я ПРАЧЫ'СТА *ж.* 2. ***Мал'ая Прачы'стая** ў нас зовецца Другой Прачыстай* [Гарочычы Калінк.]. ***Мала'я Прачы'стая** – етэ ж рожденне Прасвятой Багародзіцы* [Махнавічы Маз.].

* РАЖСТВО' БО'ЖАЙ МА'ЦІ *н.* 2. ***Ражство' Бо'жай Ма'ці** – Другая Прачыстая* [Вербавічы Нараўл.].

* РАСТВО' БО'ЖАЙ МА'ЦІ *н.* 2. *На **Раство' Бо'жай Ма'ці** бабы не прэдуць – свято* [Вербавічы Нараўл.].

**ПРО'ВАД-КАЛЯДА'**. Дзень заканчэння каляднага цыкла. *После Крэшчэння ўжэ й **Про'вад-каляда'*** [Бывалькі Лоеўск.].

**ПРО'ВАДЫ** *гл.* РА'ДУНІЦА.

**ПРОВО'ДНАЯ РА'ДОЎНІЦА** *гл.* РА'ДУНІЦА.

**ПРО'ВОДЫ** *гл.* РА'ДУНІЦА.

**ПРО'ВОДЫ РУСА'ЛКІ** *мн.* Абрадавае дзеянне праводзін "русалкі" за вёску ў жыта. *Калі робім **про'воды руса'лкі**, дак на дзеўку надзеваем венок і з песнямі ведом ее ў жыто, кажуць, сільно доброе жыто будзе тогды* [Вятчын Житк.].

**ПРОЧЫ'СТА** *гл.* ПРАЧЫ'СТАЯ ў знач. 2.

**ПРЫРОБЛЯ'ЦЬ** *незак.* Рабіць шкоду. *Колісь казалі, ек прыходзіць Юрэй, то вуходзяць ведзьмы і **прыробля'юць*** [Лясковічы Петрык.].

**ПРЭЧЫ'СТА** *гл.* ПРАЧЫ'СТАЯ ў знач. 2.

**ПРЭЧЫ'СТАЯ** *гл.* ПРАЧЫ'СТАЯ ў знач. 2.

**ПУ'ДЗІЛО** *ж.* Саламянае чучала. *У нас спальваюць **пу'дзіло** на Масленіцу* [Ляскавічы Петрык.].

**ПЭ'РВА КУТТЯ'** *гл.* ПЕ'РВА КУЦЬЯ' .

**ПЭТРО'ВІЦА** *гл.* ПЯТРО'ЎКА.

**ПЯТРО′, ПЕТРО′; ПЯТРО′Ў ДЗЕНЬ, ПЕТРО′Ў ДЗЕНЬ**. Старажытнае земляробчае свята народнага календара, якое адзначаецца 12 ліпеня (29 чэрвеня ст. ст.), адметнае метэаралагічнымі назіраннямі, аграрнай варажбой.

ПЯТРО′ *м. На **Пя′тро** нема цепла* [Зарэчча Браг.]. *На **Пятро** зезюля ховаецца* [Вербавічы Нараўл.].

ПЕТРО′ *м. Колісь на **Петро′** дзеўкі на кочэлях гойдаліса* [Баравое Лельч.]. *Путходзіць **Петро′** – зоўзюля куе* [Глушкавічы Лельч.].

* ПЯТРО′Ў ДЗЕНЬ *м. На **Пятро′ў дзень** звалі своіх* [Вялікія Сялюцічы Петрык.]. *Дзеці бегаюць на **Пятро′ў дзень**, у ховалкі гуляюць* [Бобрыкі Петрык.].

* ПЕТРО′Ў ДЗЕНЬ *м. На **Петро′ў дзень** була хороша погода* [Букча Лельч.]. *Кажуць, **Петро′ў дзень** даець дзеўкам разгон* [Палаўкі Ельск.].

**ПЯТРО′ВІЦА** *гл.* ПЯТРО′ЎКА.

**ПЯТРО′Ў ДЗЕНЬ** *гл.* ПЯТРО′.

**ПЯТРО′ЎКА, ПЕТРО′ВІЦА, ПЕТРО′ЎКА, ПЭТРО′ВІЦА, ПЯТРО′ВІЦА**. Пятроўскі пост.

ПЯТРО′ЎКА *ж. У **Пятро′ўку** Іван з суседом рыбу ловілі* [Юркавічы Браг.]. *У **Пятро′ўку** му ў госці не ходзім* [Загалле Хойн.].

ПЕТРО′ВІЦА *ж. **Петро′віца** пройдзе, а тады чэрэз чатыры недзелі і Спас будзе* [Паселічы Хойн.]. *У **Петро′віцу** жыто жалі* [Глініца Маз.]. *У **Петро′віцу** пчолы мед носяць* [Барбароў Маз.].

ПЕТРО′ЎКА *ж. У **Петро′ўку** крыніцу свецілі* [Вуглы Нараўл.]. *У **Петро′ўку** робілі косовіцу* [Багуцічы Ельск.].

ПЭТРО′ВІЦА *ж. Послэ **Пэтро′віцы** ідэ м'ясоед* [Сямурадцы Жытк.].

ПЯТРО′ВІЦА *ж. У ету **пятро′віцу** була дужэ добра пагода* [Васькаўка Маз.].

**ПЯТРО′ЎСКІ, ПЕТРО′ЎСКІ** *прым.* Які мае адносіны да свята Пятра.

ПЯТРО′ЎСКІ *прым. Колісь у **пятро′ўскія** дні робілі зажынкі* [Буркі Браг.].

ПЕТРО′ЎСКІ *прым. Усегда ў **петро′ўскіе** дні просім хорошу погоду* [Вербавічы Нараўл.].

**ПЯТРО′ЎСКІЯ КАРАГО′ДЫ** *мн.* Частка абрада кумлення ў час свята Пятра. *У **Петро′ўскія корого′ды** становіліса дзеўчаты, што покуміліса* [Баравое Лельч.].

**ПЯЦЁНКА** *гл.* ПАРА′СКІ.

# Р

**РА′ДАНІЦА** *гл.* РА′ДУНІЦА.
**РА′ДАЎНІЦА** *гл.* РА′ДУНІЦА.
**РА′ДОЎНІЦА** *гл.* РА′ДУНІЦА.
**РА′ДОЎНЫЦА** *гл.* РА′ДУНІЦА.
**РА′ДУЛЬНІЦА** *гл.* РА′ДУНІЦА.

**РА′ДУНІЦА, РА′ДАНІЦА, РА′ДАЎНІЦА, РА′ДОЎНІЦА, РА′ДОЎНЫЦА, РА′ДУЛЬНІЦА, ПРО′ВАДЫ, ПРО′ВОДЫ; ПРОВО′ДНАЯ РА′ДОЎНІЦА, ПРАВО′ДНЫ ДЗЕНЬ, МЁРТВЫ ДЗЕНЬ, РАДЗІ′ЦЕЛЬСКІ ДЗЕНЬ**. Веснавое свята народнага календара, якое адзначаецца ў аўторак другога тыдня пасля Вялікадня; дзень памінання памёршых на могілках.

РА′ДУНІЦА *ж.* ***Ра′дуніца** – дзень помінання помершых родных* [Ляскавічы Петрык.]. *На **Ра′дуніцу** ўсе ідуць у цэркоў* [Казловічы Калінк.].

РА′ДАНІЦА *ж.* *Пасля Паскі ідзе **Ра′даніца*** [Веляцін Хойн.]. *На **Ра′даніцу** палілі свечку і говорылі: "Дзеды нашы, прыходзьце вечэраць!"* [Крыўча Браг.].

РА′ДАЎНІЦА *ж.* ***Ра′даўніца** не гледзіць чысла, а попадае ўвоўторак* [Казанск Калінк.]. *Цераз недзелю пасля Паскі – **Ра′даўніца*** [Сырод Калінк.]. *Несом на кладбішчэ паску, яечкі своім, яны на **Ра′даўніцу** разгоўляюцца* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

РА′ДОЎНІЦА *ж.* *На **Ра′доўніцу** перэд обедом ішлі на могілкі* [Вербавічы Нараўл.]. *На **Ра′доўніцу** пеклі тоўсты бліны* [Капцэвічы Петрык.]. *Перэд **Ра′доўніцай** бываюць Радушные дзеды* [Ліснае Лельч.].

РА′ДОЎНЫЦА *ж.* *На **Ра′доўныцу** поміналоць мэртвых* [Сяменча Жытк.].

РА′ДУЛЬНІЦА *ж.* *У каго **Ра′дульніца** бывае ў аўторак, а ў каго – у чацвер* [Бывалькі Лоеўск.]. *На **Ра′дульніцу** ходзім на могілкі* [Прудок Маз.].

ПРО′ВАДЫ *мн.* *У нас хто на Радаўніцу ідзе на кладбішчэ, а хто – на **Про′вады*** [Прудок Маз.].

ПРО′ВОДЫ *мн.* *На **Про′воды** ідом, несом горэлку, хлеб, кладом на могілкі* [Тонеж Лельч.]. *На **Про′воды** обязацельно збіраемса ўсе і ідом на кладбішчэ до своіх* [Глушкавічы Лельч.].

* ПРОВО′ДНАЯ РА′ДОЎНІЦА *ж.* *У **Прово′дную Ра′доўніцу** несуць госцінцы небожчыкам* [Слабада Маз.].

* МЁРТВЫ ДЗЕНЬ *м.* ***Мёртвы дзень** – у аўторак, пойдом на могілкі* [Бабраняты Маз.].

* ПРАВО′ДНЫ ДЗЕНЬ *м.* *У аўторак – **Право′дны дзень*** [Барбароў Маз.].

* РАДЗІ′ЦЕЛЬСКІ ДЗЕНЬ *м.* *У аўторак – **Радзі′цельскі дзень*** [Тульгавічы Хойн.]. *На **Радзі′цельскі дзень** ходзім у цэркоў* [Махнавічы Маз.]. *На **Радзі′цельскі дзень** да абеду пашуць* [Аляксандраўка Калінк.].

**РА′ДУШНЫЕ ДЗЕДЫ′** *мн.* Памінальны абрад на Раданіцу. *Кажуць, **ра′душные** дзеды прыходзяць дахаты* [Сцежарнае Браг.].

**РАДЗІ′ЦЕЛЬСКІ ДЗЕНЬ** *гл.* РА′ДОЎНІЦА.

**РАЖСТВО′ БО′ЖАЙ МА′ЦІ** *гл.* ПРАЧЫ′СТАЯ ў знач. 2.

**РАЗВОДЗІ′ЦЕЛЬ** *м.* Наступны дзень пасля Вадохрышча. ***Разводзі цель** бувае 21 января, разаўеў усю Каледу* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**РАЗГОЎЛЯ′ЦЦА**, -юся, -ешся, -еццa; *незак.* Есці скаромнае пасля посту. *У нас на Коледы **разгоўля′юцца** свежыною* [Чырвонабярэжжа Лельч.].

**РАСПІ′СУВАЦЦА З КОЛЯ′ДАМІ** *фразеал.* Развітвацца са святамі. *У Водохрышча ў нас **распі′суюцца з Коля′дамі*** [Верасніца Жытк.].

**РАСТВО′ БО′ЖАЙ МА′ЦІ** *гл.* ПРАЧЫСТАЯ ў знач. 2.

**РАСЧУ′ДЗІЦЬ**, *зак.* Зрабіць звычайным. *Говорылі, што і Прочыста не **расчу′дзіць**, колі Чудо наробіць* [Завайць Нараўл.].

**РОЖДВО′** *гл.* РОЖЭСТВО′.

**РОЖЭСТВО′**, **РОЖДВО′**, **РОЗДВО′**. Свята нараджэння Хрыста, Коляды.

РОЖЭСТВО′ *н. От **Рожэства′** пойдуць светыя вечэры* [Мялешкавічы Маз.].

РОЖДВО′ *н. На **Рождво′** була пурга* [Запясочча Жытк.].

РОЗДВО′ *н. Колісь на **Роздво′** дзеўкі ворожылі, да і цепер ворожаць* [Замошша Лельч.].

**РОЗДВО′** *гл.* РОЖЭСТВО′.

**РУСА′ЛКА** *ж.* 1. Міфічная істота. *Говораць, што на Купайло вуходзяць усе **руса′лкі** з воды* [Чырвонабярэжжа Лельч.]. *Мой сын бачыў, ек у купалову ноч **руса′ўка** вубегала з воды* [Пагоннае Жытк.].

2. Персанаж Троіцкай абраднасці. ***Руса′лку** выбіраюць з дзеўчат, шоб косы ў ее былі доўгіе, вянка ёй плетуць* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

**РУСА′ЛЬНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ** *гл.* ТРОЕ′ЧНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ.

**РУСА′ЎКА** *гл.* РУСА′ЛКА ў знач. 1.

**РЭ′ЛІ** *гл.* АРЭ′ЛІ.

# С

**СА′ВА**, **СА′ВЫ**, **СА′ЎКІ**. Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 18 снежня (5 снежня ст. ст.) і з'яўляецца ў народным уяўленні бацькам Міколы Зімовага.

СА′ВА *адз. У нас на **Са′ву** не робілі* [Слабада Маз.]. *На **Са′ву** памый лаву ды сядай прасці* [Мялешкавічы Маз.]. ***Са′ва** мосце рэчкі* [Скароднае Ельск.].

СА′ВЫ *мн. На **Са′вы** бабы не прадуць* [Хобнае Калінк.]. *На тыя **Са′вы** не робім работы* [Мялешкавічы Маз.].

СА'ЎКІ *мн. На **Са'ўкі** мы ховалі пчол* [Данілаўка Ельск.].

**СА'ВЫ** *гл.* СА'ВА.

**САРАКА'** *гл.* САРАКІ'.

**САРАКІ', САРАКА', СО'РАКІ, СОРОКА'; СО'РАК СВЕТЫ'Х, СО'РОК СВЕТЫ'Е, СО'РОК СВЕТЫ'Х.** Веснавое свята народнага календара, якое адзначаецца 22 сакавіка (9 сакавіка ст. ст.), у дзень веснавога раўнадзенства; дзень надыходу вясны, прылёту птушак, адметны абрадавым комплексам заклікання вясны, памінання продкаў і любоўнай варажбой.

САРАКІ'. *На **Сараки'** дзеўкі весну клічуць* [Лукі Калінк.]. *Рэчка вуходзіць на **Саракі'*** [Ясяні Браг.].

САРАКА'. *На **Сарака'** дзеўкі песні пеюць* [Асавец Маз.]. *На **Сарака** сорак выраеў прылетаець* [Сырад Калінк.]. ***Сарака'** весну адкрываюць* [Прудок Маз.]. *На **Сарака'** мучалі сорак мучанікаў* [Казловічы Калінк.]. *Гавораць, што на **Сарака'** душы сарака мучанікаў прылетаюць ек жаўрукі да нас на землю* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

СО'РАКІ. *Будзе цёплая весна, калі на **Сорак'і** вол воды нап'ецца* [Веляцін Хойн.]. *На **Со'ракі** ўжэ весна прыходзіць. Калі на **Сoракі'** прылетаюць птушкі, то ета прылетаюць душы нашых дзедоў* [Паселічы Хойн.].

СОРОКА'. *У нас на **Сорока'** дзеўке ворожаць про чоловека* [Азяраны Жытк.].

* СО'РАК СВЕТЫ'Х. *На **Со'рак светы'х** дзеўкі на дошках скачуць* [В. Бор Хойн.]. *На **Со'рак светы'х** велікіе дзеўкі ў дошку гуляюць* [Зарэчча Браг.]. *На **Со'рак светы'х** надо зламаць сорак дошчачак* [Аляксандраўка Калінк.].

* СО'РОК СВЕТЫ'Е. *На **Со'рок светы'е** хрэсты пеклі і етым хрэстом вугонялі худобу ў полі* [Буйнавічы Лельч.].

* СО'РОК СВЕТЫ'Х. *На **Со'рок светы'х** кідалі цераз дом сорок палок, штоб знайці за лето сорок качак* [Буда-Сафіеўка Лельч.]. *На **Со'рак светы'х** пяком булкі, каб сорак було* [Прудок Маз.]. *Кажуць, на **Со'рак светы'х** сорак птушак прылятае* [Прудок Маз.]. *На **Со'рок светы'х** ходзілі рэзаць палкі, каб перэкідаці іх церэз крышу* [Сямурадцы Жытк.].

**СА'ЎКІ** *гл.* СА'ВА.

**СВЕТО'Е КАТЭРЫ'НЫ** *гл.* КАЦЯРЫ'НЫ.

**СВЕТО'Е КРАШЧЭ'ННЕ** *гл.* ВАДО'ХРЫШЧЭ.

**СВЕТЫ' АНДРЭ'Ю** *м. гл.* АНДРЭ'Й.

**СВЕТЫ' ОНДРЭ'Й** *м. гл.* АНДРЭ'Й.

**СВЕТЫ'Е ВЕЧЭРА'** *мн.* Вечары ад Пасхі да Ушэсця. *Посля Паскі да Ушэсця ідуць **светы'е вечэра'**, тогды нічого не роблім* [Навасёлкі Петрык.].

**СВЕЦІ'ЦЬ, СВЭТЫ'ЦЬ.** Асвячаць у храме.

СВЕЦІ'ЦЬ *незак. У Вербную недзелю носім **свеці'ць** вербу ў цэркоў* [Казловічы Калінк.].

СВЭТЫ'ЦЬ *незак. На Радоўныцу прыносымо ў цэркоў пэчэно, бацюшко **свэ'тыць*** [Града Жытк.].

**СВЕЧО'НА ВОДА'** *ж.* Асвячоная вада. ***Свечо'ну воду'** кладу ў бутылаццы пуд голову, штоб не булела* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**СВЭТЫ'ЦЬ** *гл.* СВЕЦІ'ЦЬ.

**СВЯ'ТКО** *н.* Прысвятак народнага календара. *Е у нас такое **свя'тко** Кацерыны* [Буйнавічы Лельч.].

**СВЯ'ТО** *н.* Свята. *Велікдзень – велікое **свя'то*** [Маркоўскае Лельч.]. ***Свя'то** весны – етэ ж Масленіца* [Завайць Нараўл.].

**СВЯТО'Е ВАСІ'ЛЛЕ** *гл.* ВАСІ'ЛЛЕ.

**СВЯТО'Е ВЕДЗЯННЁ** *гл.* УВЯДЗЕ'ННЕ.

**СЕНАВА'ЦІ** *незак.* Касіць і сушыць траву. ***Петро'віца** вупраўляе сена сенавацї* [Казловічы Калінк.].

**СЁМІХА** *ж.* Сёмы тыдзень пасля Пасхі. *Сёмую недзелю пасля Паскі называюць **Сёміхай**, а само свято – Тройца* [Буйнавічы Лельч.].

**СЁМУХА, ТРО'ЙЦА, ТРО'ІЦА, ТРУ'ЙЦА; ДЗЕНЬ СВЕТО'Й ТРО'ІЦЫ**. Земляробчае свята народнага календара, якое адзначаецца на сёмым тыдні пасля Вялікадня. Адметнае культам зеляніны, продкаў, шлюбу.

СЁМУХА *ж. На **Сёмуху** дзеўкі бягуць бярозкі завіваць* [Гарочычы Калінк.]. ***Сёмуха** – годовое свято* [Буркі Браг.]. *На **Сёмуху** спеваюць песні* [Загорыны Маз.]. *На **Сёмуху** клён ломяць* [Небытаў Хойн.]. *У нас тры дні празнуюць **Сёмуху*** [Бунавічы Лельч.]. *І мы помінаем своіх на **Сёмуху*** [Мікулічы Браг.].

ТРО'ЙЦА *ж. Колісь на **Тро'йцу** носілі клён свецічь* [Васькаўка Маз.]. На ***Тро'йцу** помінаем памерлых* [Гарбавічы Калінк.]. ***Тро'йца** ўсегда ў недзелю* [Ляскавічы Петрык.]. ***Тро'йцы** тры дні: першы дзень – Дзень Бога-Бацькі, другі дзень – Бога-Сына, трэці дзень – Дзень Святого Духа* [Буйнавічы Лельч.]. *Цераз сем недзель после Паскі **Тро'йца** светая будзе* [Буда-Сафіеўка Лельч.].

ТРО'ІЦА *ж. **Тро'іца** – ето Сёмуха* [Карчовае Хойн.]. *На **Тро'іцу** буў дошч* [Мікулічы Браг.]. *У нас на **Тро'іцу** носілі свеціць клён і березу* [Замосце Калінк.].

ТРУ'ЙЦА *ж. Прыйшла на **Тр'уйцу**, коб побачыць своіх* [Запясочча Жытк.]. *На **Тру'йцу** мы нічого не робім* [Верасніца Жытк.]. *У нас после **Тру'йцы** бувае градова серада, тогды не робімо* [Пагоннае Жытк.]. *На **Тру'йцу** прослаўляецца сошэсце на опостолоў Светого Духа* [Града Жытк.].

* ДЗЕНЬ СВЕТО'Й ТРО'ІЦЫ. *Пройдзе п'яцьдзесят дзён после Паскі, а тады – **Дзень Свето'й Тро'іцы*** [Бярэжцы Жытк.].

**СЕРЭ'ДНЯ КУЦЬЯ'** *гл.* ДРУГА' КУЦЦЯ'.

**СЁМУШНЫЕ ДЗЕДЫ′** *гл.* ТРАЕ′ЦКІЕ ДЗЕДЫ′.

**СКОВОРО′ННІК** *м.* Печыва з мукі, выпечанае на патэльні. ***Сковоро′нніка** спекла, да йешчэ дзірочкі пальцем потыкала* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**СКОРО′МНОЕ** *н.* Тлустыя стравы, што нельга было есці ў час посту: мяса, сала, малако, масла, смятана і інш. *Калі ідзе пост, му не ўжываем **скоро′мное*** [Завайць Нараўл.]. *Увесь пост не можно есці **скоро′мное*** [Вятчын Жытк.].

**СМОЛЯ′НІКІ** *мн.* Шкарлупіна яйца, залітая смалой. *На Паску **смоля′нікі** робілі: возьме йейцэ, со срэдзіны ўсё вып'е, а туды смолы нал'е і б'е ў біткі* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**СО′РАКІ** *гл.* САРАКІ′.

**СО′РАК СВЕТЫ′Х** *гл.* САРАКІ′.

**СО′РОК СВЕТЫ′Е** *гл.* САРАКІ′.

**СО′РОК СВЕТЫ′Х** *гл.* САРАКІ′.

**СОРОКА′** *гл.* САРАКІ′.

**СПАС, ІСПА′С, СПАСІ′ЦЕЛЬ; ДРУГІ′ СПАС, Я′БЛУЧНЫ СПАС, Я′БЛЫЧНЫ СПАС**. Земляробчае свята народнага календара, якое адзначаецца 19 жніўня (6 жніўня ст. ст.); свята садавіны.

СПАС *м.* ***Спас** – ето велікае свято* [Хобнае Калінк.]. *На **Спаса** сьвецяць яблука* [Юркавічы Браг.]. *У тым годзі на **Спаса** буў дошч* [Скрыгалаў Маз.]. *Прыдзе **Спас**, дзержы рукавіцы пра запас, ужэ будзе холадней і холадней* [Буда-Сафіеўка Лельч.]. *Я не ем і яблука до **Спаса*** [Буда-Сафіеўка Лельч.]. *На **Спаса** пасвяцілі яблука* [Вялікія Аўцюкі Калінк.]. *До **Спаса** яблыкі не едзяць тые, у кого дзеці померлі* [Буйнавічы Лельч.].

ІСПА′С *м.* *На **Іспа′са** ішоў дошч* [Прудок Маз.].

СПАСІ′ЦЕЛЬ *м.* *На **Спасі′целя** яблука можно есці* [Аляксандраўка Калінк.]. *На **Спасі′целя** му не робім* [Глініца Маз.].

* ДРУГІ′ СПАС *м.* ***Другі′ Спас** – ето Я ′блучны Спас* [Макрэц Браг.]. *Ек **Другі′ Спас,** дак свецім усе фрукты* [Буйнавічы Лельч.].

* Я′БЛУЧНЫ СПАС *м.* *Колі свецяць яблукі – **Я′блучны Спас*** [Стралічаў Хойн.].

* Я′БЛЫЧНЫ СПАС *м.* *Да **Я′блычнага Спаса** нельга было есці яблыкі, толькі тоды, колі бацюшка посвеціць, можна есці і на могілкі несці* [Малыя Аўцюкі Калінк.].

**СПА′САЎКА, ІСПА′САЎКА; СПА′САЎСКІ ПОСТ**. Двухтыднёвы Успенскі пост перад Спасам.

СПА′САЎКА *ж.* *Колісь у **Спа′саўку** рабілі строгі пост* [Паселічы Хойн.]. ***Спа′саўка** – ето ўжэ дзве ці чатыры недзелі* [Мялешкавічы Маз.]. *У нас е **Спа′саўка**, ето пост* [Махнавічы Маз.]. *Ек пройдзе **Спа′саўка,** тогды едзім ужэ яблыкі* [Васькаўка Маз.].

ІСПА'САЎКА *ж. У нас на **Іспа'саўку** загатаўлёўваюць зельья, ягоды* [Грабаў Петрык.].

* СПА'САЎСКІ ПОСТ *м. У **Спа'саўскі пост** му не ўжываем тлустые стравы* [Махнавічы Маз.].

**СПА'САЎСКІ ПОСТ** *гл.* СПА'САЎКА

**СПАСІ'ЦЕЛЬ** *м.* Ісус Хрыстос. *У Каляды, сёмага студзеня, нарадзіўса **Спасі'цель*** [Прудок Маз.].

**СПАСІ'ЦЕЛЬ** *гл.* СПАС.

**СПА'СОЎКА** *ж.* Гатунак груш, якія паспяваюць у жніўні, на Спаса. ***Спа'соўкі** салодкія на Спаса* [Конкавічы Петрык.]. *У нас е такая груша – **спа'соўка**, дужэ солодка* [Івашкавічы Петрык.].

**СПА'СУ НЕМА'** *фразеал.* Тое, што і ратунку няма. *Ето ж хлопец, шчо **спа'су нема'**!* [Махнавічы Маз.]. *Сабака так вые, шчо **спа'су нема'**!* [Прудок Маз.].

**СПЛЕ'ННЕ** *гл.* ПРАЧЫ'СТАЯ ў знач. 1.

**СПЛЕ'ННЕ БО'ЖАЙ МА'ЦІ** *гл.* ПРАЧЫ'СТАЯ ў знач. 1.

**СПО'ЖКА** *гл.* ПРАЧЫ'СТАЯ ў знач. 2.

**СПРАЎЛЯ'ЦЬ** *незак.* Святкаваць, адзначаць што-небудзь. *Сёні цэлы дзень **спраўля'юць** дажынкі* [Паселічы Хойн.].

**СРЭ'ЦЕННЕ** *гл.* СТРЭ'ЧАННЕ.

**СТРО'ГІ ПОСТ** *м.* Перыяд устрымання ад скаромнай ежы, у які забаранялася спяваць, танцаваць, заключаць шлюбы, спраўляць вяселлі. *Раней у нас на **стро'гі пост** вяселлі не робілі* [Балажэвічы Маз.]. ***Стро'гі пост** – калі і горэлку не можно піць* [Казловічы Калінк.].

**СТРЭ'ЦЕННЕ** *гл.* СТРЭ'ЧАННЕ.

**СТРЭ'ЧАННАЯ СВЕЧКА** *гл.* ГРАМНІ'ЧНАЯ СВЕ'ЧКА.

**СТРЭ'ЧАННЕ ГАСПО'ДНЕ** *гл.* СТРЭ'ЧАННЕ.

**СТРЭ'ЧАННЕ, СТРЭ'ЧЭННЕ, СТРЭ'ЦЕННЕ, СРЭ'ЦЕННЕ, ВСТРЭ'ЧЭННЕ, УСТРЭ'ЧАННЕ, УСТРЭ'ЧЭННЕ; СТРЭ'ЧАННЕ ГАСПО'ДНЕ.** Зімовае свята народнага календара, якое адзначаецца 15 лютага (2 лютага ст. ст.); дзень сустрэчы зімы з летам.

СТРЭ'ЧАННЕ *н. На **Стрэ'чанне** ўжо спеваюць веснянкі* [Асавец Маз.]. *У нас кажуць, што на **Стрэ'чанне** зіма з летам страчаецца* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

СТРЭ'ЧЭННЕ *н. На **Стрэ'чэнне** ў хлеў носяць свечку ад нечыстае сілы* [Зарэчча Браг.].

СТРЭ'ЦЕННЕ *н. **Стрэ'ценне**, ды ўжэ пост* [Бярэжцы Жытк].

СРЭ'ЦЕННЕ *н. **Срэ'ценне** – 15 фэўраля* [Сямурадцы Жытк.].

ВСТРЭ'ЧЭННЕ *н.* Бувало, *на **Встрэ'чэнне** свечкай выпаляць крэсцікі ад грозы на дзверах* [Навасёлкі Петрык.].

УСТРЭ'ЧАННЕ *н. Калі **Устрэ'чанне**, свецяць свечкі, яны не дапускаюць пажару, калі граза* [Бывалькі Лоеўск.].

УСТРЭ'ЧЭННЕ *н. На **Устрэ'чэнне** буваюць морозы* [Капцэвічы Петрык.]. *Колі на **Устрэ'чэнне** адліга – не будзе прыбытку ў полі* [Загорыны Маз.].

* СТРЭ'ЧАННЕ ГАСПО'ДНЕ *н. Кажуць, што на **Стрэ'чанне Гаспо'дне** Семіён падзержаў на руках Ісуса, так его стрэціў, таму і **Стрэ'чанне Гаспо'дне*** [Новы шлях Браг.].

**СТРЭ'ЧЭННЕ** *гл.* СТРЭ'ЧАННЕ.

**СТРЭ'ЧЭНСКІЕ ДЗЕДЫ'** *мн.* Памінальны абрад 13 лютага. *Му правім і **Стрэ'чэнскіе дзеды'*** [Залатуха Калінк.]. ***Стрэ'чэнскіе дзеды'** буваюць у суботу* [Залатуха Калінк.].

**СУХІ' ЧЭЦВЕ'Р** *м.* Чацвер перад Пасхай. *У **сухі' чэцве'р**, што будзеш садзіць, усё посохне* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

# Т

**ТАЦЦЯ'НА; ТАЦЦЯ'НА КРЭШЧЭ'НСКА, ТАЦЦЯ'НІН ДЗЕНЬ.** Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 25 студзеня. Адметны метэаралагічнымі назіраннямі.

ТАЦЦЯ'НА *ж. На **Тацця'ну** бувае мороз* [Міцуры Петрык.]. *На **Тацця'ну** дужэ сонейко зіхоціць* [Казловічы Калінк.].

* ТАЦЦЯ'НА КРЭШЧЭ'НСКА *ж. **Тацця'на Крэшчэ'нска** бувае пасля Крэшчэння* [Малыя Аўцюкі Калінк.]. *На **Тацця'ну Крэшчэ'нску** жгуць дужэ морозы* [Маркоўскае Лельч.].

* ТАЦЦЯ'НІН ДЗЕНЬ *м. Гаворыцца: "Калі на **Тацця'нін дзень** пойдзе снег, тады лето будзе мокрым"* [Прудок Маз.].

**ТАЦЦЯ'НА КРЭШЧЭ'НСКА** *гл.* ТАЦЦЯ'НА.

**ТАЦЦЯ'НІН ДЗЕНЬ** *гл.* ТАЦЦЯ'НА.

**ТРАЕ'ЦКІЕ ДЗЕДЫ', СЁМУШНЫЕ ДЗЕДЫ', ТРОЕ'ЧНЫЕ ДЗЕДЫ', ТРО'ЙЧАНЫ ДЗЕДЫ', ТРО'ЙЧАТЫЕ ДЗЕДЫ', ТРУ'ЙЧАНЫЕ ДЗЕДЫ'.** Пятніца перад Тройцай (Сёмухай), у якую пам інал і дзядоў.

ТРАЕ'ЦКІЕ ДЗЕДЫ' *мн. **Трае'цкіе дзеды'** е перэд Тройцай* [Скалодзін Маз.].

СЁМУШНЫЕ ДЗЕДЫ' *мн. **Сёмушные деды** перед Тройцэю* [Вялікі Бор Хойн.]. *У пятніцу будуць правіць **Сёмушные дзеды*** [Мялешкавічы Маз.].

ТРОЕ'ЧНЫЕ ДЗЕДЫ' *мн. Зовём душкі на **Трое'чные дзеды'*** [Азяраны Жытк.]. *Колі **Трое'чные дзеды'** – не плач, душы дзедоў радаюцца* [Васькаўка Маз.].

ТРО'ЙЧАНЫ ДЗЕДЫ' *мн. На **Тро'йчаны дзеды'** поедом у Конкавічы, там нашы* [Конкавічы Петрык.]. ***Тро'йчаны дзеды'** ето дзеды перэд Тройцэю* [Вятчын Жытк.].

ТРО'ЙЧАТЫЕ ДЗЕДЫ' *мн. На **Тро'йчатые дзеды'** вараць штось дужэ хорошэ* [Слабада Маз.].

ТРУ'ЙЧАНЫЕ ДЗЕДЫ' *мн. У нас **Тру'йчаные дзеды'** е у пятніцу перэд Труйцою* [Града Жытк.].

**ТРО'ІЦА** *гл.* СЁМУХА.

**ТРО'ЙЦА** *гл.* СЁМУХА.

**ТРО'ЙЧАНЫ ДЗЕДЫ'** *гл.* ТРАЕ'ЦКІЕ ДЗЕДЫ'.

**ТРО'ЙЧАТЫЕ ДЗЕДЫ'** *гл.* ТРАЕ'ЦКІЕ ДЗЕДЫ'.

**ТРОЕ′ЧНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ, ТРОЕ′ЧНЫ ТЫ′ЖДЗЕНЬ, РУСА′ЛЬНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ.** Тыдзень пасля Тройцы.

ТРОЕ′ЧНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ *ж. **Трое′чная недзеля** называецца русальная, на гэтай нядзелі ня шыюць* [Буйнавічы Лельч.].

ТРОЕ′ЧНЫ ТЫ′ЖДЗЕНЬ *м. На **трое′чны ты′ждзень** русалкі е ў водзе, тогды мы не купаліса* [Буйнавічы Лельч.]. *На **трое′чным ты′ждні** у нас градовая серада, тоды не робім, коб град не йшоў* [Буда-Сафіеўка Лельч.].

РУСА′ЛЬНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ *ж. На **руса′льной недзелі** ішоў мой чоловек паўз лесок, а русалка седзіць на берозе і зове его* [Буйнавічы Лельч.].

**ТРОЕ′ЧНЫ ТЫ′ЖДЗЕНЬ** *гл.* ТРОЕ′ЧНАЯ НЕДЗЕ′ЛЯ.

**ТРОЕ′ЧНЫЕ ДЗЕДЫ′** *гл.* ТРАЕ′ЦКІЕ ДЗЕДЫ′.

**ТРОЕ′ЧНЫЕ ПЕ′СНІ** *мн.* Песні, якія выконваюцца на Тройцу. *На Тройцу клёнам усё затыкаюць на дворэ, у хаце, а церэз недзелю носяць ето ўсё ў конец села, паляць і пеюць **трое′чные пе′сні*** [Навасёлкі Петрык.].

**ТРУ′ЙЦА** *гл.* СЁМУХА.

**ТРУ′ЙЧАНЫЕ ДЗЕДЫ′** *гл.* ТРАЕ′ЦКІЕ ДЗЕДЫ′.

**ТРЭ′ЦІ СПАС, ХЛЕ′БНЫ СПАС.** Земляробчае свята народнга календара, якое адзначаецца 29 жніўня (16 жніўня); свята ўборкі збожжавых, хлеба.

ТРЭ′ЦІ СПАС *м. У **Трэ′ці Спас** буслы адлятаюць* [Васькаўка Маз.]. ***Трэ′ці Спас** – ето Хлебны Спас* [Даманавічы Калінк.]. *Прайшоў **Трэ′ці Спас** – лета нема* [Буда-Сафіеўка Лельч.].

ХЛЕ′БНЫ СПАС *м. У **Хле′бны Спас** робім конец жніва* [Завайць Нараўл.].

**ТРЭ′ЦЯЯ КУЦЬЯ′, ТРЭ′ЦЦЯЯ КУЦЦЯ′, БЕ′ДНАЯ КУЦЬЯ′, БЕ′ДНА КУЦЬЯ′, ВАДАПО′СНАЯ КУЦЬЯ′, ГАЛО′ДНА КУЦЬЯ′, ГОЛО′ДНА КУЦЬЯ′, ГОЛО′ДНА КУЦЯ′, ГАЛО′ННА КУЦЯ′, ПАСЛЕ′ДНЯ КУЦЦЯ′.** Трэцяя куцця, якая адзначаецца 18 студзеня (5 студзеня ст. ст.) перад Вадохрышчам.

ТРЭ′ЦЯЯ КУЦЬЯ′ *ж. **Трэ′цяя куцья′** бувае за Богатай* [Галубіца Петрык.].

ТРЭ′ЦЦЯЯ КУЦЦЯ′ *ж. **Трэ′ццяя куцця′** – перэд Водохрышчам* [Буркі Браг.].

БЕ′ДНАЯ КУЦЬЯ′ *ж. **Бе′дная куцья′** варыласа на Крэшчэнье* [Хамічы-2 Калінк.].

БЕ′ДНА КУЦЬЯ′ *ж. На **Бе′дну куцью′** зовуць мороз* [Мікулічы Браг.].

ВАДАПО′СНАЯ КУЦЬЯ′ *ж. Перэд Крэшчэньем – ето **Вадапо′сная куцья′*** [Кочышчы Ельск.].

ГАЛО′ДНА КУЦЬЯ′ *ж. На **Гало′дну куцью′** гукаюць мороза* [Глініца Маз.].

ГОЛО′ДНА КУЦЬЯ′ *ж. **Голо′дна куцья′** – перэд Крэшчэннем* [Ляскавічы Петрык.].

ГОЛО'ДНА КУЦЯ' *ж. На **Голо'дну куцю'**, у той дзень, колі була, кортоплі не садзяць* [Вербавічы Нараўл.].

ГАЛО'ННА КУЦЯ' *ж. Ета ж сёні **Гало'нна куця'*** [Асавец Маз.].

ПАСЛЕ'ДНЯ КУЦЦЯ' *ж. **Пасле'дня куцця'** – перэд Вадохрышчам* [Загорыны Маз.].

**ТРЭ'ЦЦЯЯ КУЦЦЯ'** *гл.* ТРЭ'ЦЯЯ КУЦЬЯ'.

# У

**У БІТКІ' ГУЛЯ'ЦЬ** *фраз.* Абрадавая гульня на Вялікдзень, у час якой стукаюцца пафарбаванымі яйцамі: перамагае той, у каго яйцо застаецца цэлым. *І на Велікодне **ў біткі' гуля'юць*** [Гарочычы Калінк.].

**УВЕДЗЯНЬЕ'** *гл.* УВЯДЗЕ'ННЕ.

**УВЯДЗЕ'ННЕ, УВЕДЗЯНЬЕ', ВЕДЗЯННЁ, ВАДЗЕ'ННЕ, ВЯДЗЕ'ННЕ; СВЯТОЕ ВЕДЗЯННЁ.** Зімовае свята народнага календара, якое адзначаецца 4 снежня (21 лістапада ст. ст.); дзень прыводу Богам зімы на зямлю, адметны метэаралагічнымі назіраннямі, варажбой.

УВЯДЗЕ'ННЕ *н. **Увядзе'нне** – ето ж вялікое свято, калі Маці Божую ўвялі ў Храм Божы* [Плаўкі Ельск.].

УВЕДЗЯНЬЕ' *н. На **Уведзянье'** Божая Маці ўводзіласа ў Храм* [Вятчын Жытк.].

ВАДЗЕ'ННЕ *н. Ето ж у Піліпаўскі пост бувае **Вадзе'нне*** [Казловічы Калінк.]. *Казалі, што раней на **Вадзе'нне** ваўкі цэлымі гуртамі вадзіліся* [Буркі Браг.]. *У ето свято дзеўкі на сон ворожаць: "Святое **Вадзе'нне**, вядзі мене туды, дзе мой суджаны"* [Глушкавічы Лельч.]. *На **Увядзе'нне** можэ быць пацяпленне* [Прудок Маз.].

ВЕДЗЯННЁ *н. А у нас казалі, таму **Ведзяннё**, што святую Варвару вадзілі ў еты дзень і білі* [Веляцін Хойн.]. ***Ведзяннё** разбівае ледзяннё – так говораць* [Канатоп Нараўл.].

ВЯДЗЕ'ННЕ *н. **Вядзе'нне** празнікаў навядзе* [Вялікія Падлядзічы Маз.].

* СВЯТОЕ ВЕДЗЯННЁ *н. Усе так говораць: "**Святое Ведзяннё** зіму прывяло"* [Багуцічы Ельск.].

**УГОШЧА'ЦЬ** *незак.* Частаваць. *Раней на Велікдзень хлопцы збіраліса і ішлі песні спеваць, жадалі ўсім здороўе, шчасце, а іх **угошча'лі** тады* [Казловічы Калінк.].

**УЗВІ'ЖАННЕ, УЗДЗВІ'ЖАННЕ, УЗДВІ'ЖЭННЕ, УЗДЗВІ'ЖЭННЕ, УЗДЗЮ'ЖЭННЕ, УЗ'Ю'ЖАННЕ, ВОЗДВІ'ЖЭННЕ, ДВІ'ЖЭННЕ, ДЗВІ'ЖЭННЕ, ЗВІ'ЖЭННЕ, ЗДВІ'ЖАННЯ, ЗДВІ'ЖЭННЕ, ЗДЗЮ'ЖЭННЕ, ЗЮ'ЖЭННЕ, З'Ю'ЖЭННЕ; ВОЗДВІ'ЖЭННЕ КРЭСТА' ГОСПО'ДНЯ, ВОЗВІ'ЖЭННЕ ХРЫСТА' ГОСПО'ДНЯ.** Хрысціянскае свята народнага календара, адзначаецца 27 верасня (14 верасня ст. ст.); апошняе цёплае свята, калі заканчваюцца работы на полі, дзень адлёту птушак у вырай.

УЗВІ'ЖАННЕ *н. На **Узві'жанне** галка перва адлетае* [Мялешкавічы Маз.]. *У нашай дзярэўні на **Узві'жанне** ўжэ ў полі не робяць* [Гурыны Маз.]. *На **Узві'жанне** сходзяцца ўсе вужы, гадзюкі не збіраюцца* [Малыя

Аўцюкі Калінк.]. *Калі на **Узві'жанне** гадзюка ўкусіць кого, то ў норы ена не попадзе ўжэ* [Даманавічы Калінк.].

УЗДВІ'ЖЭННЕ *н. На **Уздві'жэнне** ўсё гадоўе здвігаецца ў кучы і ховаецца* [Сяменча Жытк.].

УЗДЗВІ'ЖАННЕ *н. На **Уздзві'жанне** адзначаем дзень найдзенага краста, на якім быў распяты Господзь* [Бывалькі Лоеўск.].

УЗДЗВІ'ЖЭННЕ *н. На **Уздзві'жэнне** земля закрываецца* [Хобнае Калінк.].

УЗДЗЮ'ЖЭННЕ *н. На **Уздзю'жэнне** змеі уходзяць* [Юркавічы Браг.].

УЗ'Ю'ЖАННЕ *н. На **Уз'ю'жанне** ў лес ездзіць бояцца: вужэ обкружаць, неможно ступіць* [Бобрыкі Петрык.].

ВОЗДВІ'ЖЭННЕ *н. На **Воздві'жэнне** ў лес не йдуць, бо земля воздвігаецца, і ўсе змеі ў землю ховаюцца* [Сяменча Жытк.]. *До **Воздві'жэння** вужы по земле поўзаюць, неможно ходзіць і копаць землю* [Града Жытк.].

ДВІ'ЖЭННЕ *н. На **Дві'жэнне** пропасць здвігаецца* [Юркевічы Жытк.].

ДЗВІ'ЖЭННЕ *н. Пройшло **Дзві'жэнне** і ўжэ поховаліса* [Маркоўскае Лельч.].

ЗВІ'ЖЭННЕ *н. На **Зві'жэнне** почынаем збіраць журавіны* [Небытаў Хойн.].

ЗДВІ'ЖАННЯ *н. На **Здві'жання** не трэбо ў лес ходзіці, бо змеі збіраюцца ў клубок на зімоўку* [Бокаў Маз.]. *Кажуць, на **Здві'жання** сонца здзвігаецца* [Крыўча Браг.].

ЗДВІ'ЖЭННЕ *н. На **Здві'жэнне** сонцэ здвігаецца і свеціцца рознымі венкамі* [Ляскавічы Петрык.]. *На **Здві'жэнне** ў лес не йдуць* [Капцэвічы Петрык.]. *На **Здві'жэнне** Бог землю здвігае, вужэ ховаюцца* [Баравое Лельч.]. *На **Здві'жэнне** воздвіжалі крэста Господня* [Юркевічы Жытк.]. *На **Здві'жэнне** і корэнь не расце* [Завайць Нараўл.]. *На **Здві'жэнне** змеі ў норы ховаюцца* [Скароднае Ельск.].

ЗДЗЮ'ЖЭННЕ *н. Перэд **Здзю'жэннем** змеі ў кучу збіраюцца* [Скрыгалаў Маз.].

ЗЮ'ЖЭННЕ *н. Кажуць, вужы і змеі ўходзяць на **Зю'жэнне*** [Гарбавічы Калінк.].

З'Ю'ЖЭННЕ *н. На **З'ю'жэнне** вужы сходзяцца ў кучы, у лес не трэбо ходзіць, бо іх там много* [Казанск Калінк.].

* ВОЗДВІ'ЖЭННЕ КРЭСТА' ГОСПО'ДНЯ *н. На **Воздві'жэнне крэста' Госпо'дня** ў цэркві молімса, возносім крэст Господні* [Бярэжцы Жытк.].

* ВОЗВІ'ЖЭННЕ ХРЫСТА' ГОСПО'ДНЯ *н. Говорылі, што колісь, як Ісуса росп'ялі, усе хрысты сховалі, закопалі. Доўго шукалі, а адзін чоловек знайшоў, калі на яго положылі Хрыста, то ён ажыў, значыць, ето Господні, і его возьвіглі. Таму і свято – **Возві'жэнне хрыста' Госпо'дня*** [Шкураты Браг.].

**УЗДВІ'ЖЭННЕ** *гл.* УЗВІ'ЖАННЕ.

**УЗДЗВІ′ЖАННЕ** *гл.* УЗВІ′ЖАННЕ.
**УЗДЗВІ′ЖЭННЕ** *гл.* УЗВІ′ЖАННЕ.
**УЗДЗЮ′ЖЭННЕ** *гл.* УЗВІ′ЖАННЕ.
**УЗ'Ю′ЖАННЕ** *гл.* УЗВІ′ЖАННЕ.
**УЗДЗЮ′ЖЭННЕ** *гл.* УЗВІ′ЖАННЕ.
**УЛА′С** *гл.* АЎЛА′С.
**УЛА′ССЕ** *гл.* АЎЛА′С.
**УСПЕ′ННЕ БО′ЖАЙ МА′ЦІ** *гл.* ПРАЧЫ′СТАЯ ў знач. 1.
**УСПЛЕ′ННЕ** *гл.* ПРАЧЫ′СТАЯ ў знач. 1.
**УСПЛЕ′ННЕ БО′ЖАЙ МА′ЦІ** *гл.* ПРАЧЫ′СТАЯ ў знач. 1.
**УСТРЭ′ЧАННЕ** *гл.* СТРЭ′ЧАННЕ.
**УСТРЭ′ЧЭННЕ** *гл.* СТРЭ′ЧАННЕ.

**УЧУ′ДЗІЦЬ** *незак.* Зрабіць нешта незвычайнае. *У нас говораць так: "Чудо **ўчу′дзіць**, і Прочыста не расчудзіць"* [Завайць Нараўл.]. *А Чудо ек колі **ўчу′дзіць** – пропалі* [Ляскавічы Петрык.].

**УШЭ′СНІКІ; УШЭ′СНЫ ІВА′Н**. Пярэдадзень Ушэсця.

УШЭ′СНІКІ *мн. У сераду на **Ўшэ′снікі** пеком тонкіе бліны на молоцэ і ейец туды ўбіваймо* [Махнавічы Маз.]. *І **Ушэ′снікі** ў нас празнік* [Міроненкі Маз.]. ***Ушэ′снікі** будуць у сераду* [Мікулічы Браг.].

* УШЭ′СНЫ ІВА′Н *м. Перэд Ушэсцем бувае **Ушэ′сны Іва′н*** [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**УШЭ′СНЫ ІВА′Н** *гл.* УШЭ′СНІКІ.

**УШЭ′СЦЕ, ВОЗНЕСЕ′ННЕ, ШЭ′ЎСЦЕ**. Земляробчае свята народнага календара, якое адзначаецца у чацвер на шостым тыдні пасля Пасхі.

УШЭ′СЦЕ *н. **Ушэ′сце** бувае чэрэз шэсць недзель послі Велікодня* [Сяменча Жытк.]. *До **Ўшэ′сця**, говораць, Бог ходзе з намі па земле, а потом подымаецца на небо* [Малыя Аўцюкі Калінк.]. *На **Ўшэ′сце** ўжэ овёс шэсціць* [Валаўск Ельск.]. *На **Ўшэ′сце** ходзімо ў госці ў Брынёў* [Ляскавічы Петрык.]. *На **Ўшэсце** хозяін оглядае жыто* [Завайць Нараўл.]. *На **Ўшэ′сце** будзе дошч* [Асавец Маз.]. ***Ушэ′сце** – перэд Тройцою, шоста недзеля ад Велікодня* [Маркоўскае Лельч.].

ВОЗНЕСЕ′ННЕ *н. На **Вознесе′нне** явіліса ангелы і сказалі: "Господзь вознёсса ў небо"* [Крыўча Браг.]. *На **Вознесе′нне** ў цэркві ідзе служба* [Сяменча Жытк.]. ***Вознесе′нне** називаецца так, што ў эты дзень Ісус Хрэстос возносіцца на небэса* [Града Жытк.].

ШЭ′ЎСЦЕ *н. **Шэ′ўсце** му празнуем на шостой недзелі послі Паскі* [Вуглы Калінк.].

# Х

**ХЛЕ′БНЫ СПАС** *гл.* ТРЭ′ЦІ СПАС.

**ХРЫСТО′СОВАЦЦА** *незак.* Віншаваць адзін аднаго словамі: "Хрыстос уваскрэсе". *Кажуць, на Радоўніцу небожчыкі **хрысто′суюцца** са своякамі* [Багуцічы Ельск.].

**ХРЭ'СЦІКІ** *мн.* Абрадавае печыва з цеста, якое надзяляецца ахоўнай сілай. *У нас старые кажуць, што на Саракі пеклі **хрэсцікі**, клалі іх на прыпечак да Юр'я, а калі вугонялі короўку ў поле, то давалі ёй з'есці ад сурокоў* [Казловічы Калінк.].

**ХРЭСЦІ'ЦЕЛЬ ГОСПО'ДНЫ** *гл.* КРЭСЦІ'ЦЕЛЬ.

# Ц

**ЦЁПЛЫ ЛЕКС'ЕЙ** *гл.* АЛЯКСЕ'Й.

**ЦЁПЛЫ ЛЯКС'ЕЙ** *гл.* АЛЯКСЕ'Й.

**ЦУ'ДА, ЦУ'ДО, ЧУ'ДА, ЧУ'ДО**. Прысвятак народнага календара, які адзначаецца 19 верасня (6 верасня ст. ст.); дзень дзівосаў.

ЦУ'ДА *н. Сёні **Цу'да** – засеваць жыто неможно* [Барбароў Маз.]. *На **Цу'да** не будам робіці* [Гарочычы Калінк.]. ***Цу'да** не празнік, а дзень такі, просто не робімо ды і ўсё* [Веляцін Хойн.].

ЦУ'ДО *н. Ек бувае **Цу'до**, огонь не палім* [Грабаў Петрык.].

ЧУ'ДА *н. Не рабі нічого, а то **Чу'да** ўчудзіць* [Сырод Калінк.].

ЧУ'ДО *н. **Чу'до** не пускае ў лес, можно заблудзіці* [Прыбалавічы Лельч.]. *У нас говораць так: "**Чу'до** ўчудзіць, і Прочыста не расчудзіць"* [Завайць Нараўл.]. *На **Чу'до** бувае ўсякое чудо: колісь косілі сено, а сорока лётала вокол, тады ёй подполілі хвост, а вона села то на адзін стог, то на другі – так і згорэло ўсё сено* [Маркоўскае Лельч.]. *А **Чу'до** ек колі ўчудзіць – пропалі* [Ляскавічы Петрык.]. *У нас **Чу'до** – свято* [Азяраны Жытк.]. *Ек настане **Чу'до**, дак покідаем усё і седзімо* [Буда-Сафіеўка Лельч.].

**ЦУ'ДО** *гл.* ЦУ'ДА.

**ЦЫБУ'ЛЬНІК**. Шалупінне з цыбулі. *Яйца красім **цыбу'льніком:*** із *цыбулі шэлуха* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

# Ч

**ЧАРГО'ЎКА** *ж.* Пэўная паслядоўнасць выпасу кароў. *Да Юр'я обязацельна трэба выгнаць короўкі, пачынаецца **чарго'ўка*** [Бобрык Петрык.].

**ЧУ'ДА** *гл.* ЦУ'ДА.

**ЧУ'ДО** *гл.* ЦУ'ДА.

**ЧЫ'СТЫ ЧЭЦВЕ'Р** *м.* Чацвер перад Пасхай. *Раней казалі, што на **чы'сты чэцве'р** надо помуцца, штоб вошаў не було* [Вялікія Сялюцічы Петрык.].

**ЧЭ'ШЧЫН ВЕ'ЧЭР** *м.* Абрадавая вячэра на Масленіцу, на якую зяць запрашае цешчу і частуе яе блінамі. *У нас ў п'ятніцу – **чэ'шчын ве'чэр**, ето ўжэ з'яць зоўе чэшчу на бліны* [Града Жытк.].

**ЧЭ'ШЧЫНЫ БЛІНЫ'** *мн.* Абрадавая вячэра на Масленіцу, на якую цешча запрашае зяця і частуе яго блінамі. *У Маслены тыждзень кожэн дзень робілі своё свято, а му ў сераду робімо **чэ'шчыны бліны'** – ето чэшча зоўе з'яця на бліны* [Града Жытк.].

# Ш

**ШЧАДРАВА′ЛЬНІКІ** *гл.* КАЛЯ′ДНІКІ.

**ШЧАДРА′НЕЦ** *гл.* ШЧАДРЭ′Ц.

**ШЧАДРО′** *гл.* КАЛЯ′ДЫ ў знач. 1.

**ШЧАДРУ′ХА** *гл.* ШЧАДРЭ′Ц.

**ШЧАДРЭ′Ц, ШЧАДРА′НЕЦ, ШЧАДРУ′ХА, ШЧО′ДРЫК, ШЧОДРЭ′Ц.** Прамежак часу з 13 студзеня на 14 студзеня.

ШЧАДРЭ′Ц *м. За дзень на* ***Шчадрэ′ц*** *хадзілі да суседаў, што попадзецца, бралі, а ўвечары прыносілі хозяіну, а той ужэ частаваў, што не ўгледзеў, калі забіралі* [Крукавічы Калінк.]. *У* ***Шчадрэ′ц*** *мароз печэ* [Макарычы Петрык.].

ШЧАДРА′НЕЦ *м. Пасля вячэры на* ***Шчадра′нец*** *усе лыжкі кідаюць у адну міску, каб ніхто з сям'і не адбіўся* [Крукавічы Калінк.].

ШЧАДРУ′ХА *ж. Колісь на* ***Шчадру′ху*** *па ўсёй вёсцы хадзілі са звяздою, песні пелі, гулялі* [Слабаджанка Хойн.].

ШЧО′ДРЫК *м. На* ***Шчо′дрык*** *удзень па хатах не ходзім, каб скоціна не прапала* [Крукавічы Калінк.].

ШЧОДРЭ′Ц *м. Колісь на* ***Шчодрэ′ц*** *дзеўкі ворожылі* [Мялешкавічы Маз.].

**ШЧО′ДРАЯ КУЦЦЯ′** *гл.* ДРУГА′Я КУЦЦЯ′.

**ШЧОДРОВА′ЦЬ** *гл.* КАЛЯДАВА′ЦЬ.

**ШЧОДРО′ЎНІКІ** *гл.* КАЛЯ′ДНІКІ.

**ШЧО′ДРЫ** *гл.* КАЛЯ′ДЫ ў знач. 1.

**ШЧО′ДРЫК** *гл.* ШЧАДРЭ′Ц.

**ШЧЭДРОВА′ЦІ** *гл.* КАЛЯДАВА′ЦЬ.

**ШЧЭДРО′ЎШЧЫКІ** *гл.* КАЛЯ′ДНІКІ.

**ШЧЭДРУВА′ЦІ** *гл.* КАЛЯДАВА′ЦЬ.

**ШЧЭДРЭЦЫ′** *гл.* КАЛЯ′ДНІКІ.

**ШЭ′ЎСЦЕ** *гл.* УШЭ′СЦЕ.

# Ю

**Ю′РАЙ** *гл.* Ю′Р'Я.

**Ю′РАЙКА** *м. памянш.-ласк.* да Ю′РАЙ. ***Ю′райка, Ю′райка,*** *адамкні зямліцу, выпусці расіцу – так зазываем Ю′р'я на весну* [Прудок Маз.].

**Ю′Р'Я, Ю′РАЙ, Ю′РЫ, Ю′РЫЙ, Ю′РЭЙ; ВЕСНЯ′НЫ Ю′РЭЙ.**

1. Старажытнае веснавое свята народнага календара, якое адзначаецца 6 мая (23 красавіка ст. ст.); дзень пачатку вясны.

Ю′Р'Я *м. і н. На* ***Ю′р'я*** *ходзілі жыто свеціць* [Каплічы Калінк.]. ***Ю′р'я*** *– вупускаюць короўкі пасці* [Малешаў Жытк.]. *На* ***Ю′р'я*** *дзеўкі корогод водзяць* [Валаўск Ельск.]. *З* ***Ю′р'я*** *медзведзь засынае ў лесі* [Завайць Нараўл.].

Ю′РАЙ *м. Кажуць, дзе* ***Ю′рай*** *ходзіць, там жыто родзіць* [Махнавічы Маз.]. ***Ю′рай*** *клічэ весну заспеваці* [Савічы Калінк.]. *Говораць,* ***Ю′рай*** *змею победзіў, зніштожыў ее, ена з'едала по чоловеку кожан дзень*

[Малыя Аўцюкі Калінк.]. *У **Ю′рай** колісь адсаджалі лошат ад кобылкі* [Веляцін Хойн.].

ЮʹРЫ *м. Хвосты коровам адрэзаюць. Я рэжу напроці **Юʹры**, коб у свята не рэзаць* [Асянское Лельч.].

ЮʹРЫЙ *м. У нас кажуць: у году два **Юʹрыя** – одзін холодны, а другі голодны* [Маркоўскае Лельч.]. *Колісь ек **Юʹрый** – скоромного ня елі дзеля худобы, а цяпер усё ямо* [Прыбалавічы Лельч.]. *Прышоў **Юʹрый** – садзім гуркі, на его дужэ добро садзіць гуркі* [Лясковічы Петрык.].

ЮʹРЭЙ *м. Святы **Юʹрэй** не даець гуляць, у поле гоніць* [Прыбалавічы Лельч.]. *У **Юʹрэй** начапляюць на граблі красного хвартука ды ходзяць спеваці* [Бярэжцы Жытк.].

* ВЕСНЯʹНЫ ЮʹРЭЙ *м. **Весняʹны Юʹрэй** едзе на коні, а конь копытамі б'е* [Сяменча Жытк.].

* СВЯТЫʹ ЮʹРЫЙ *м. Як прыходзіць **святыʹ Юʹрый** – усіх на поле гоніць* [Слабада Маз.].

2. Старажытнае зімовае свята народнага календара, якое адзначаецца 9 снежня (26 снежня ст. ст.).

ЮʹРЫЙ *м. **Юʹрый** бувае і ў дзекабрэ, з яго зіма ўжэ начынаецца* [Бібікі Маз.].

* ЗІМОʹВЫ ЮʹРАЙ *м. Як на **Зімоʹвага Юʹрая** многа снегу, тады і травы будзе многа* [Гурыны Маз.].

**ЮʹРЫ** *гл.* Юʹр'я.

**ЮʹРЫЙ** *гл.* Юʹр'я ў знач. 1, 2.

**ЮРЫʹЦЦА** *незак.* Устанаўліваць паміж дзяўчатамі сяброўскія адносіны ў час веснавога свята Юр'я. *Калі прыходзіць Юрый, дзеўкі собе подружку вубіраюць, дружаць, ек у нас говораць, беруцца **юрыʹцца*** [Паселічы Хойн.].

**ЮʹРЭЙ** *гл.* Юʹр'я.

# Я

**ЯʹБЛУЧНЫ СПАС** *гл.* СПАС.

**ЯʹБЛЫЧНЫ СПАС** *гл.* СПАС.

**ЯʹВОР**. Галінкі явара, якія з'яўляюцца атрыбутам купалаўскай, троіцкай абраднасці, надзяляюцца ахоўнай сілай і выкарыстоўваюцца ў якасці абярэга. *На Троіцу **яʹвор** ірвуць, стаўляць на окно* [Юркевічы Жытк.]. *На Купайло **яʹвор** утыкаемо у ворота, коб ведзьмы не повугонялі короўкі* [Завайць Нараўл.].

**ЯЎДОʹКІ** *гл.* АЎДОʹКІ.

Навуковае выданне

*Лапіцкая Лідзія Іванаўна*

# СЛОЎНІК КАЛЯНДАРНА-АБРАДАВАЙ ЛЕКСІКІ УСХОДНЯГА ПАЛЕССЯ

Адказны за выданне С. С. Барысава
Тэхнічны рэдактар А. В. Ліс
Арыгінал-макет Л. І. Федула
Карэктары П. Р. Кошман, Л. В. Жураўская

Падпісана ў друк 13.12.2007. Фармат 60х90 1/16.
Папера Xerox. Гарнітура Times New Roman. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 4,13. Тыраж 47 экз. Заказ № 96.

Выдавец і паліграфічнае выкананне
Установа адукацыі
"Мазырскі дзяржаўны педагагічны універсітэт
імя І. П. Шамякіна"
ЛВ № 02330/0131885 ад 4 снежня 2006 г.
247760, Мазыр, Гомельская вобл., вул. Студэнцкая, 28
Тэл. (02351) 2-46-29

Л.І.Лапіцкая

# СЛОЎНІК
# КАЛЯНДАРНА-АБРАДАВАЙ ЛЕКСІКІ
# УСХОДНЯГА ПАЛЕССЯ



МАЗЫР 2007